УДК 821.161.3-1
ББК 64(4 Беи)
Б 90

**Бялячыц, Р.**

Б 90 **Са** мной мой дзень / Рычард Бялячыц. – Гродна : ТАА «ЮрСа Прынт», 2017. – 000 с.

ISBN 978-985-14-0-00.

Асноўны літаратурны занятак Рычарда Бялячыца – паэзія. Аўтар выдаў больш дзясятка паэтычных зборнікаў, а схільнасць да прозы праявілася ў тапанімічным аповедзе "Котранскі нераст". У новай кнізе "Са мной мой дзень" змешчаны жыццёвыя развагі, гісторыі, лірычныя і жартоўныя замалёўкі, успаміны пра сустрэчы з вядомымі людзьмі Беларусі – пісьменнікамі, вучонымі Міхасём Ткачовым, Аляксеем Пяткевічам, Ігарам Жуком, Фёдарам Янкоўскім, Андрэем Майсяёнкам, Аляксеем Рагулем. Памятныя і дарагія для аўтара падзеі і хвіліны жыцця склалі змест кніжкі, у якой выразна прасочваецца шлях паэта да самога сябе поруч з прыгожымі, разумнымі, светлымі людзьмі.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4 Беи)**

**ISBN 978-985-00-0-00.**

На час прыцішана асенні
Хто азірнуцца дапаможа?
Са мной мой дзень
Святлом і ценем,
І расставацца з ім трывожна.
А нельга, нельга не расстацца,
Хоць і смяецца, можа, хтосьці,
Хоць неспакой малююць пальцы
І побач ноч
Душой і плоццю.

*Дзіўна, але гэта напісана ў маладосці.*
*Са мной мой дзень…*

# Між Нёмнам і Котрай

Жыццё, увасобленае ў слове, іншых відах мастацтва, і ёсць наша непасрэдная гісторыя, якая налічвае вякі. Найперш дзякуючы кнізе чалавек здольны перанесціся ў далёкую мінуўшчыну, з дапамогай летапісца, а дзе і праз мастацкі вымысел, пабудаваны на канкрэтных фактах, даведацца дакладна пра сваё мінулае, каб пры спрыяльных умовах перадаць спадчыну нашчадкам.

Для Шчучыншчыны вельмі каштоўнай з'яўляецца праца нашага земляка, вучонага-гісторыка Сяргея Данскіх, выдадзеная з нагоды 470-годдзя Шчучына і прысвечаная роднай зямлі ад яе старажытных часоў да сённяшніх дзён пад назвай "Стагоддзі і падзеі Шчучынскай зямлі". Пачэснае месца ёй на кніжных паліцах шчучынцаў, бо ўтрымлівае багацейшы матэрыял пра край. Думаецца, яе старонкі спрыяюць многім людзям у пазнанні малой радзімы, а аўтар не будзе ў крыўдзе за публічнае прачытанне асобных фактаў, звязаных непасрэдна з асветніцкімі падзеямі.

Прафесар філалогіі Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, праз усё сваё жыццё шчыры рупліўца на ніве захавання беларускай літаратурнай спадчыны Аляксей Пяткевіч, напісаўшы даследаванне "Літаратурная Гродзеншчына", цяпер, дарэчы, дапоўненае і перавыдадзенае, таксама не аднойчы звяртаецца да постацей нашага краю і, верыцца, чытачу

цікава даведацца пра аўтараў, чый лёс так ці інакш звязаны са Шчучыншчынай.

**С**а школьнай пары ўсім добра вядома, што сучасная мова, літаратура прайшлі доўгі і няпросты, нярэдка трагічны шлях станаўлення, пачаткам і асновай якому стала вусная народная творчасць. Так і на Шчучыншчыне ва ўсе вякі народам ствараліся песні, казкі, легенды пад час і пад настрой, пад падзеі. Асобныя з іх змаглі дажыць да нашых дзён, перадаючыся з вуснаў у вусны або з любоўю захаваныя кнігапісцамі. А колькі духоўнага скарбу бясследна канула ў лету! Найбольш надзейнымі ахоўнікамі, захавальнікамі самапіснай і друкаванай даўніны напачатку былі тоўстыя магутныя сцены кляштараў і храмаў. На пергаменце ці паперы дайшлі да нас духоўныя зместы, якія многія вякі па-асветніцку служылі нашым продкам. І толькі з XVI стагоддзя ў сувязі са стварэннем дзяржаўнага заканадаўства Вялікага Княства Літоўскага актыўна з'яўляюцца новая лексіка і друкаваныя выданні ў Прынямонні.

І па шчучынскай зямлі адпаведна гістарычным падзеям сустракаюцца мемуарныя запісы (няхай сабе не вельмі дасканалыя ў мастацкіх адносінах), якія прадстаўляюць каштоўнейшыя прамоўніцкія жанры, высвечваюць побыт, норавы, культурныя, грамадскія і нават патрыятычныя інтарэсы.

Наш край часта быў на вастрыні і ў цэнтры падзей. Таму на працягу вякоў творчыя людзі карысталіся лацінскай, царкоўнаславянскай, беларускай, польскай, рускай мовамі, і выраслі на Прынямонні такія выдатныя дзеячы беларускай культуры, як Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Алаіза Пашкевіч (Цётка).

І хоць наступны факт не адносіцца непасрэдна да пісьменства, але ён – перадумова яго ўзнікнення, і далёка ў глыб гісторыі, аж у X – XI стагоддзі, вядуць нас звесткі пра буйнае славянскае паселішча Турыйск

(Турьск) на Нёмане, каля сучаснай вёскі Турэйск, што на поўдні нашага раёна. Падчас раскопак тут знойдзены рэчыўныя факты, якія сведчаць аб развіцці ювелірнай вытворчасці (бранзалеты, фібулы, бразготкі, падвескі). Жыхары Турыйска актыўна гандлявалі, гэта патрабавала авалодання пісьменствам хоць у нейкай ступені.

Даўняя Літоўская метрыка ўзгадвае пра васілішкаўскіх і жалудоцкіх баяраў, іх гаспадарку і міжусобіцы. У XV стагоддзі ідзе актыўнае будаўніцтва касцёлаў ў Лядску, Васілішках. На пачатку наступнага стагоддзя з'яўляецца царква ў Мураванцы, якая з часам стала славутасцю нашага краю: Свята-Раства-Багародзіцкая царква. Ужо праз стагоддзе, як сцвярджаюць вучоныя, яе лічылі адной з найбольш багатых на Беларусі.

Будуюцца драўляныя цэрквы ў Ішчалне, Шчучыне, Бакштах, іншых мястэчках і вёсках. Падчас набегаў іншаземцаў многія з іх гарэлі, нішчыліся рукапісы і кнігі. Верагодна, што ў XVI стагоддзі існавала драўляная царква ў Сабакінцах (сучасны Першамайск), бо ў крыніцах тых часоў гаворыцца пра цудатворную ікону Маці Божай, якая лічылася старажытнай ужо на пачатку XVIII стагоддзя. Цудатворная ікона Маці Божай захоўвалася і ў Красулях, што былі ў той час своеасаблівым цэнтрам хрысціянскага духоўнага жыцця.

Як сведчыць гісторыя, менавіта святыя храмы і выконвалі ў часы Сярэднявечча і пазней асветніцкую місію. У XVII – XVIII стагоддзях надыходзіць час з'яўлення на Шчучыншчыне каталіцкіх кляштараў, першы з якіх адкрыўся ў Васілішках. Але найбольшую вядомасць па акрузе набылі шчучынскія піяры і сёстры міласэрнасці. З цягам часу пачаў працу і Шчучынскі калегіум піяраў, дзе атрымлівала веды ў розныя часы розная колькасць чалавек. Сёстры міласэрнасці з'явіліся, каб навучаць бедных і сірот, узнімаць жаночую мараль. Пра сур'ёзнае стаўленне да справы асветы ў школе піяраў

сведчыць і багацейшая бібліятэка – 2751 том, большую мелі толькі дамініканцы ў Гродне.

Так нараджалася беларускае пісьменства на Шчучыншчыне. Пры храмах і кляштарах пачалі дзейнічаць невялікія школы, у якіх навучаліся паўтара і больш дзясятка дзетак. Царкоўнапрыходскія школы таксама адыгрывалі сваю ролю ў адукацыйнай сферы. Неслі навуку, слова ў народ і так званыя школы граматы. Найбольшыя па колькасці працавалі ў Абрубе (19 вучняў) і Замасцянах. Дарэчы, яшчэ не так даўно па гістарычных мерках (у сярэдзіне мінулага стагоддзя) у той жа Замасцянскай школе, якая перастала існаваць колькі год назад, вучылася каля 300 дзяцей.

Вяртаючыся ў XVIII стагоддзе, заўважаем, што шчучынскі калегіум піяраў, пра што гаворыцца вучонымі, стаў своеасаблівай візітнай карткай краю. Адных прафесараў, якія там выкладалі, было шэсць. Сярод знакамітасцей – гісторык і краязнаўца Мацей Догель, біёлаг Станіслаў Юндзіл, сярод выхаванцаў – Казімір Нарбут, аўтар першага ў Рэчы Паспалітай падручніка логікі, Ігнат Дамейка, геолаг, нацыянальны герой Чылі, Ануфрый Петрашкевіч і Юліян Корсак, паэты. Апошні выдаў пяць кніг арыгінальнай і перакладной паэзіі, пры гэтым пераклаўшы “Боскую камедыю” Дантэ. Ануфрый Петрашкевіч вёў надзвычай актыўную і плённую грамадскую і літаратурную дзейнасць на радзіме і далёка за яе межамі. Нарадзіўся ў Шчучыне, скончыў павятовую піярскую школу, вучыўся ў Варшаўскім універсітэце, працаваў на карысць таварыства філаматаў у Вільні, у Радзівілаўскім архіве. Лёс правёў яго праз Маскву, Пецярбург, дзе ён быў пазбаўлены шляхецтва і навуковай ступені магістра філасофіі, асуджаны за супрацьстаянне царскім уладам. У творчасці Петрашкевіча асабліва адчувалася ўлюбёнасць аўтара ў свой край, яго гісторыю. “І прысягалі сёлы – з краю гнаць крыжакоў, знішчаць іх зграю”, – піша паэт у адным з вершаў.

**Н**а мяжы XIX–XX стагоддзяў бурна пачала развівацца беларуская нацыянальная культура. Да яе руплюўцаў трэба аднесці і нашых землякоў – паэтэсу Алаізу Пашкевіч (Цётку), грамадскага дзеяча Вацлава Іваноўскага. І калі пра Цётку многія з нас ведаюць дастаткова, то асветнік Вацлаў Іваноўскі заслугоўвае, каб пра яго сказаць асобна, у тым ліку і як пра мецэната. Ён дапамагаў, напрыклад, у выпуску кніг Янку Купалу, Цётцы, стварыў у Пецярбурзе першае беларускае выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца". А ў 1902 годзе на сваёй радзіме, у родавым маёнтку Лябёдка (цяпер Шчучынскі раён) разам з Цёткай падрыхтаваў і аддрукаваў першы беларускі часопіс "Свабода".

**У** заходнебеларускай літаратуры, у прыватнасці на шчучынскай зямлі, прыкметнае месца займае ксёндз Янка Тарасевіч, які нарадзіўся ў вёсцы Клешнякі. Яго філасофска-грамадскія нарысы на роднай мове выйшлі ў Вільні, пабачыла свет кніжка "На Бацькаўшчыну. Апісанне падарожжа з Амерыкі і назад".

**Н**а творчай ніве плённа працуюць нашы сучаснікі.

Валянцін Блакіт (Болтач) – ураджэнец вёскі Вострава, аўтар шматлікіх гумарыстычных кніг, вострасюжэтных, маральна змястоўных аповесцей, доўгі час – рэдактар часопіса "Вожык".

У вёсцы Ліпічна нарадзіўся паэт, журналіст Уладзімір Васько.

Больш за дзесяць год працавала ў шчучынскай газеце паэтэса Марыя Шаўчонак.

З вёскі Бершты паэтэса, літаратуразнаўца Вольга Русілка, яе маці Любоў Мікалаеўна і цяпер працуе на паэтычнай ніве, жывучы ў знакамітых мясцінах на беразе Котры.

Не адну кнігу выдалі ураджэнец вёскі Піляўсі Славамір Антановіч, які жыве цяпер у Мінску, паэтэ-

са і літаратуразнаўца з Гродна Алена Руцкая, якая нарадзілася непадалёку вёскі Дзякаўцы. Там жа, у Гродне, жыве і працуе аўтар кніг для дзяцей Ганна Скаржынская-Савіцкая родам з вёскі Куцы Лес, якая нядаўна за літаратурную дзейнасць атрымала Дзяржаўную прэмію.

З вёскі Рыбакі паэт Віктар Куц. Плённа ў літаратуры працуюць шчучынцы Іван Пяшко і яго дачка Таццяна. Усе пералічаныя аўтары з'яўляюцца членамі творчага саюза.

Дзякуючы нашай Цётцы нямала ўславіла панямонскую зямлю вядомая беларуская пісьменніца Валянціна Коўтун, стварыўшы выдатную дылогію "Крыж міласэрнасці". Знакамітую нашу зямлячку ўшанавала сваёй творчасцю і Лідзія Арабей, якая жыла ў Шчучыне падчас апошняй вайны, а потым працавала ў раённай газеце.

Журналіст Уладзімір Фядотаў, працуючы ў раённай газеце, стварыў дакументальную кнігу "Мёртвыя застаюцца жывымі", якая перавыдадзена ў Мінску да Дня беларускага пісьменства ў Шчучыне. Акрамя таго, ім напісана аповесць "Сорок дней", надрукаваная ў свой час у часопісе "Нёман".

Нельга не ўспомніць Віктара Дарашкевіча родам з вёскі Цёмнае Балота, выпускніка Астрынскай школы, літаратуразнаўцу, даследчыка ў галіне старажытнабеларускай літаратуры, які выдаў даследаванне "Новалацінская паэзія Беларусі і Літвы. Першая палова XVI ст.".

Цэлая плеяда творцаў, не мяркуючы як у 20-30-ыя гады мінулага стагоддзя на беларускай зямлі маладнякоўцы, працуе на Шчучыншчыне цяпер. Найперш і найлепш пра тое яскрава сведчаць старонкі раённай газеты і кніжкі, выпушчаныя аўтарамі.

## Вучыцца ў Чалавека

Блакноцік выцвілы, не новы.
І непахісныя радкі.
Збяруцца думкі, сны і словы
За стол нястомнае ракі.

Ад воч – нябёсаў роздум слынны,
Ад крокаў – велічна ў жыцці.
Яшчэ няма,
Але павінен
Вось-вось на кафедру прыйсці.

**М**агчыма, гэтыя радкі калі і стануць вершам, а сёння яны як уверцюра да нешматслоўных, але дарагіх успамінаў, што апанавалі мяне амаль праз трыццаць гадоў пасля падзей. Менавіта столькі прайшло пасля апошняй сустрэчы з Фёдарам Міхайлавічам Янкоўскім. Хацелася пералічыць заслугі чалавека, але падумалася, што мала хто пра іх не ведае на Беларусі. Дзеля чаго ж тады пішу?

Старэйшая дачка, студэнтка Гродзенскага педагагічнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, аднойчы запыніла мяне ў хуткаплынным часе, паведаміўшы, што ёй выпала пісаць курсавую па творчасці пісьменніка Ф. Янкоўскага. Прыйшлі аднačасова і светлая радасць,

і падсвядомы страх: “Здаецца, Алёна, табе пашанцавала, бо даследаванне намячаецца вельмі цікавае і разам з тым няпростае”. Толькі і сказаў тады, а сам праз паўгадзіны ўжо корпаўся ў кніжных стэлажах сваёй сельскай бібліятэкі. “Радасць і боль” – выбранае пісьменніка. Асобныя кніжкі. Перачытваў да позняй ночы і яшчэ колькі дзён. Станавілася няёмка і сорамна, што пачынаў разумець свайго Настаўніка так позна. Цаніў, паважаў, пакланяўся, але ж не вучыўся ў яго раней як след. Напэўна, да сапраўдных ісцінаў кожны прыходзіць у свой час і сваімі шляхамі. Усё залежыць ад таго, наколькі чалавеку дадзена і наколькі ён імкнецца. І каб не проза Фёдара Міхайлавіча…

**Я**к прадчуваючы, што не ўсё зроблена на кафедры, на лекцыях, у артыкулах па лінгвістыцы, ён пазнавата – а можа, інакш было нельга стварыць тое мастацтва – сеў за пісьменніцкі стол. І хоць позна, але мая вучоба прадоўжылася, прадаўжаецца і цяпер. Вучуся ў Чалавека.

Спачатку была маладосць. То творча, па-навуковаму заціхаў, то па-юнацку жыва віраваў чацвёрты паверх філфака сталічнага педінстытута. І кожны раз прыход прафесара Янкоўскага сюды не тое што станавіўся падзеяй, а быў прадчувальным. Яшчэ чалавека няма, а ўсе ведаюць, што яго задумы і спадзяванні падымаюцца па прыступках і вось-вось пачнуць збывацца ці нават ужо збываюцца. Яшчэ задоўга да пэўных падзей ад яго думкі сталі залежаць дзеянні і справы многіх студэнтаў і навукоўцаў. Такая руплівасць, такі парадак.

**Л**екцыя. Складана, бо пра старажытнабеларускую мову. Так складана для першакурснікаў, што аж не верыцца прафесару і самой гісторыі. Паслабне слых і пільнасць, выскачыць само сабой маладое слоўца для дзяўчыны і парушыць спрадвечны строй гукаў і літараў. Зусім не да часу. Тады строгі настаўнік пакліча

летуценніка на суд адным яго прозвішчам ці іменем. Той падхопіцца ды змаўчыць. А Фёдар Міхайлавіч: ”Гляньце, як прыгожа заірдзеўся хлопец, заружавеўся. Гэта – чысціня душы”. Усяго і скажа. І адпусціць, яшчэ пахваліўшы за правіну, каб падумалі і астатнія, каб ведалі, што да чаго.

Тады ж ці не штодзень мы чулі: ”Ніхто не зробіць горш табе, чым сам сабе”. Прасцей не бывае. А нам ніяк не верылася, каб сам сабе ды зрабіў найгорш. У чалавечую нелагічнасць мы паверылі значна пазней. Потым зразумелі, што логіка – яшчэ не зусім сутнасць, ісціна і залежыць часта ад нас саміх. А прафесар тады ўжо ведаў, што ніколі ў жыцці нам не забудзецца сустрэча з Рыгорам Шырмам, Янкам Брылём… і ўсё прыводзіў і прыводзіў вялікіх людзей да нас і паўтараў, што ніхто не зробіць горш табе, чым сам сабе, калі хтосьці з нас уцякаў ад тых сустрэч у гарадскі тлум. Было і такое: малады вецер у галаве. А сёння знойдзеш на сваім уроку ўспамін пра жывых беларускіх класікаў і сам становішся на імгненне героем перад школьнікамі, і вучні табе пазайздросцяць, а то і назаўсёды адчуюць “жменьку сонечных промняў” брылёўскіх у сэрцы.

Тады ж мы не зусім разумелі і Тамаша Тамашэвіча, аднакурсніка. А прафесар здагадаўся, што быць хлопцу з гадамі дацэнтам, загадчыкам кафедры мовазнаўства, дэканам. Ён, здаецца, ніколі не памыляўся ў людзях і… калі запыніўся на машыне каля маленькага хлопчыка, які “ці то сядзіць згорбіўшыся, ці то ляжыць”, і ўратаваў ад хваробы-бяды, і… калі на вайне “зманіў святою манаю” смяртэльна параненай маці, што ўсе яе трое дзетак жывыя, і… калі казаў “дарагія мае простыя людзі”, і… калі пісаў “пустадомкі”, “гнюсата”. Не памыляўся прафесар у студэнтах. Ягоныя вучні падмянілі – бо замяніць кагосьці нельга – у родным універсітэце, на кафедры.

**Я**шчэ. Далёка ад Мінска, на стале ў хаце адной беларускай вёсачкі ляжыць маленькая простая бандэролька. Зваротны адрас: Мінск... У бандэрольцы – два нумары "Голаса Радзімы" за 1979 год і "Незабыўнае ўчарашняе, дарагое сённяшняе" Фёдара Янкоўскага. І гладкі лісток паперы:

"У добры час, Рычард! З прыемнасцю прачытаў публікацыю тваіх вершаў у "Маладосці"...

"Помніць жа, помніць, помніць, як я чырванеў з-за дзяўчыны на лекцыі", – застукала тады сэрца. А здавалася – не заўважаў студэнта-серадняка. Не ўсё расчыталася тады з напісанага хуткай рукой слыннага вучонага, але цяпер зразумелася прычына яго публікацыі ў дасланай газеце.

Няхай праз гэтулькі гадоў, а "Прыпыніся на часінку". Няхай праз процьму часу, а памяці Чалавека "І за гарою пакланюся".

# Шляхамі Людвіка Нарбута

## 1

Хоць і ўпэўнены быў, што сусед “залівае”, але праз увесь дзень выглядваў у акно: белай “Волгі” не было. Думкі ўсё ж бралі за жывое, крыўдзілі нават, бо як жа можа такое здарыцца ў жыцці?

...Яшчэ два гады назад, будучы запрошаным на адно з паседжанняў Таварыства беларускай мовы ў Мінск і ўбачыўшы, паслухаўшы вядомага Міхася Ткачова, вырашыў, што падыду да вучонага, чаго б тое ні каштавала. Здавалася, што гэта быў адзіны чалавек з Гродзеншчыны. І які чалавек! Але ў фае Дома літаратараў мяне паклікала Данута Бічэль, яна прадавала сваю газету, як на той момант станавілася модным. Ды Аляксей Пяткевіч, выкладчык Гродзенскага ўніверсітэта, пазнаў, падышоў, уголас засумняваўся, ці пазнаў хлопец. Стала няёмка, бо не зрабіў усё першым. А выкладчык, паважаны ўсімі прафесар, аднойчы пабачыўшы пачынаючага аўтара з глыбінкі, запомніў.

Міхась Ткачоў узяў слова ў самым канцы паседжання. Само прозвішча вучонага ўстанавіла ў вялікай зале суцэльную цішыню. Адчувалася, што людзі меліся пачуць самае галоўнае на гэтым сходзе. І пачулі. Ад хвалявання мала што запомніў, але ўсведамленне сваёй беларускасці прыйшло такое ўзвышанае, святочнае і праўдзівае, што вярнуцца ў стан рэальна-

га адчування часу дапамаглі толькі бурныя апладысменты. Штосьці падобнае ўжо здаралася, калі яшчэ раней у Мінску давялося пачуць ад гісторыкапершапраходца Міколы Ермаловіча пра наша далёкае, але роднае мінулае. Так і словы Міхася Ткачова, смелыя і поклічныя, сталі супрацьлеглым кантэкстам да памяркоўных, павярхоўных папярэдніх прамоў. Заўсёднаму правінцыялу аж горача зрабілася ад наплыву пачуццяў і прадчуванняў. Хоць сам, здавалася, быў гатовы да ўспрыняцця падобных ідэй, хіба страшыла ўсведамленне, што павінна ўсё адбыцца, па словах Ткачова, без прамаруджвання, амаль што сёння.

І пачаткам ужо мроілася мая нарбутоўская ідэя, з-за якой не спаў па начах: трэба было выйсці менавіта на вучоныя кругі, каб распачаць стварэнне экспазіцыі ці музея. Спрыяльны момант у наяўнасці, і таму праціснуўся акурат у тыя дзверы, куды пасля эмацыянальнага выступу выйшаў высокі, шыракаплечы прафесар. У калідоры, на шчасце, апроч Ткачова, нікога не было. Усхваляваны, ён з ходу грузна апусціўся ў крэсла, заплюшчыў на імгненне вочы пад тоўстымі лінзамі акуляраў, спрабаваў супакоіцца. І турбаваць чалавека не выпадала, і ад свайго адступацца было нельга. Адлік часу ішоў на імгненні. Калі сюды хлыне гурт з актавай залы, усё прападзе. Сваё, моцнае і вынашанае гадамі, жыло, падганяла. І я падышоў, сам дзівячыся свайму раптоўнаму заіканню, прадставіўся.

– Чуў, крыху чуў. Вельмі прыемна пазнаёміцца, – ужо пераключыўся Ткачоў.

Спяшаючыся, пачаў выкладваць яму думкі пра жаданне стварыць у школе хоць бы вугалок памяці Людвіка Нарбута. Вучоны, яшчэ знаходзячыся пад эмоцыямі свайго выступу, спачатку, здалося, не зразумеў слоў субяседніка і павёў гутарку пра вядомага Тэадора Нарбута, бацьку Людвіка. Але вось ужо ён выхапіў з памяці паўстанне Кастуся Каліноўскага, крыж, што стаіць не-

падалёку ад магілы Людвіка Нарбута на тэрыторыі сучаснай Літвы.

– Гэта вельмі добра. Там яшчэ шмат таемнага, нераспазнанага. Вы, малады чалавек, напішыце пісьмо ў Гародню.., – вучоны- археолаг назваў адрас, прозвішча і імя.

Мне, аднак, яны нічога не сказалі. Часу на гаворку зусім не стала. Ткачоў паспеў яшчэ назваць адрас Шаранговіча, тагачаснага рэктара інстытута мастацтваў, дзе студэнты-выпускнікі "маглі б за дыпломную зрабіць невялікі бюст Л. Нарбута".

У праходзе паказалася знаёмая постаць Сяргея Законнікава, і да вучонага з распасцёртымі рукамі ўжо спяшаўся сам Янка Брыль. "Спадар Міхась, шаноўны спадар Міхась", – ляцела з усіх бакоў. Я пачуўся вельмі вінаватым, што перашкаджаю такім вядомым людзям. І мой час скончыўся. Усе ціснулі "мужную руку" нядаўняга прамоўцы, а заадно і маю, бо выбрацца са шчыльнага круга не ўдавалася. Важнасць прамовы Ткачова была відавочнай. І трэба было распачынаць працу ў сваіх прыгранічных Дудках.

## 2

Стаяла вясна-маруда. Прыйшоў Вялікдзень, і мяне з жонкай запрасіў у госці сусед. Гаворка, як звычайна пры святочным стале, ішла пра ўсё на свеце. Сусед да гэтага заўсёды здатны. Ён ніколі нічога не чытаў, але ведаў пра ўсё і пра ўсіх. Зайшла, між іншым, гаворка і пра белую "Волгу", што стаяла каля яго дома з тыдзень назад.

– Дык гэта ж адзін з маіх прафесараў, – ганарова патлумачыў сусед. – У біяхіміі працуе.

У мяне і мову адняло. Андрэя Георгіевіча Майсяёнка, прафесара з інстытута біяхіміі, я шукаў ужо з месяц, з таго часу, калі натрапіў на ягоныя нататкі пра Людвіка

Нарбута. Гэта, аказваецца, і ёсць той самы дасведчаны краязнаўца, даўно зацікаўлены гісторыяй паўстання, асабліва лёсам свайго земляка з Віцебшчыны, медыка Канстанціна Нарбута, аднаго з сыноў вядомага на Беларусі вучонага, малодшага брата “майго” Людвіка Нарбута.

– Часта ён тут бывае? – знайшоўся, нарэшце, мой язык.

– Ды разоў сто быў, – аж рос над сталом сусед. – У вольны час Андрэй любіць прыязджаць на паляванне ў котранскія мясціны. Ды ён і заўтра, магчыма, будзе тут.

Гісторыя сама ішла ў рукі. Той, каго шукаў гэтулькі часу, не раз знаходзіўся праз дарогу. Тое, што мне і людзям павінна служыць дзеля памяці і справядлівасці, было побач. І ні разу не сустрэліся два чалавекі, аб’яднаныя адной ідэяй. Несправядліва. Як у жыцці.

І вось я з надзеяй праз цэлы дзень выглядваю белую “Волгу”.

## 3

Шаноўныя Міхась Ткачоў, Андрэй Майсяёнак, спадарства, мы хоць чым падтрымалі Вас у жыцці. У пагранічных Дудках стварылі экспазіцыю ў памяць пра паплечніка па змаганні за незалежную Беларусь Кастуся Каліноўскага, яго баявога сябра Людвіка Нарбута, паставілі памятны знак – камень, падобны на горда прыўзнятую галаву, па твары якой прырода сама пусціла тоненькі струменьчык крыві.

Няма ўжо школы, пахіліўся памятны знак, хтосьці бяздумна зламаў маладзенькую бярозку, якая сімвалічна самасейкай вырасла каля яго. У суседняй школе экспанаты экспазіцыі. А край жыве! А край памятае!

## Побач з Алаізай Пашкевіч

Дзіўнае адчуванне ахоплівае нават пры ўяўным дакрананні да рэчаў стагадовай даўніны ад думкі пра магчымую энергетыку іх і тваю. Так было, калі хацелася дакрануцца да клавішаў даўняга клавесіна Багдановічаў у музеі вялікага Максіма ў Гародні, такое ж пачуцце найшло, калі пісаў два словы для музея вядомай Алаізы Пашкевіч у Астрыне.

"Усё ў жыцці невыпадкова", – сказаў хтосьці з паэтаў. Таму, напэўна, пра Алаізу Пашкевіч (Цётку) стваралі і ствараюць мастацкія каштоўнасці пераважна творчыя асобы з жанчын. Многім знаёмыя дылогія пра паэтэсу "Крыж міласэрнасці" Валянціны Коўтун, даследаванне Лідзіі Арабей "Цётка (Алаіза Пашкевіч)", яе ж дакументальныя аповесці пра паэтэсу-рэвалюцыянерку "На струнах буры" і "Стану песняй". Сустрэўся і верш зямлячкі Алены Руцкай "Запавет Алаізы Пашкевіч":

"Як згіну – не шкадуйце..."
Самотны запавет.
Не маці – толькі Цётка.
Слабейшы болю след...
"Як згіну – не шкадуйце..."
Жаль сілы не скране.
Вы "кветкай перуновай"
Запомніце мяне.

**У** свой час на Шчучыншчыне наспела вострая неабходнасць, што вынікала з самога факта нараджэння тут паэтэсы, у стварэнні яе музея. І зноў спатрэбілася чулая, пранiклівая жаночая душа, якая змагла б псіхалагічна тонка, інтэлектуальна і з любоўю ўзяцца за справу. І чалавек знайшоўся: настаўніца беларускай мовы і літаратуры Астрынскай сярэдняй школы Галіна Багумілаўна Пугач.

– Адной падобная справа не па плячы, – прызнаецца Галіна Багумілаўна. – Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч, прафесар Гродзенскага тады педінстытута імя Я.Купалы – вось хто натхніў, блаславіў мяне распачаць збор матэрыялаў для музея. Многае я ведала з іншых крыніц пра Цётку, паехала ў адзін з тэхнікумаў Гродна, які таксама насіў імя паэткі, але там было пусцей, чым у нашай школе. Наважылася накіравацца па слядах самой гераіні, у Вільню. Завязалася перапіска з украінскімі навукоўцамі, з Мінскам. А былы дырэктар школы Алег Мікалаевіч Сідаровіч нават камоду Пашкевічаў са Старога Двара прывёз. Пачысцілі, пафарбавалі. І стаіць той рарытэт да гэтай пары на самым бачным і ганаровым месцы.

**І**шлі гады, музей пашыраўся пакоямі, набываў прафесійнае афармленне. Сюды пачалі прыязджаць наведвальнікі дзясяткамі. І хто? Генрых Далідовіч, Данута Бічэль, Рыгор Барадулін, Адам Мальдзіс, кіраўнікі рознага дзяржаўнага узроўню, працаўнікі гаспадарак. Адсюль вёў свой захапляючы тэлерэпартаж падарожнік-дылетант Юрый Жыгамонт. А галоўнае, хто ні едзе – падарункі вязе. Такім чынам, напрыклад, не вельмі даўно з'явіўся партрэт Алаізы Пашкевіч прафесійнага мастака з Мінска Абрама Заборава. І адзіны на Беларусі музей вядомай паэткі налічвае ўжо каля паўтысячы экспанатаў, а гаспадары падумваюць пра заяўку на званне народнага.

– Я сама родам з мясцін Адама Міцкевіча, – прадаўжае Галіна Багумілаўна. – Напэўна, адсюль столькі энтузіязму і сіл. А па шчаслівай выпадковасці выдатна прадаўжае мілую справу мая сваячка, таксама настаўніца беларускай мовы і літаратуры, апантаная да ўсяго роднага Ала Сямёнаўна Балобан. Ёй і экскурсаводам часта выпадае адказваць на дзясяткі разнастайных пытанняў пра далёкае мінулае і сучаснае краю, таму штодзённа неабходна адпавядаць высокаму званню кіраўніка музея і яго добраахвотных працаўнікоў. Дапамагаюць зацікавіць наведвальнікаў фотаздымкі, запісы, кніжкі з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў, што размешчаны ў суседніх з Цётчыным пакоях. Цесную сувязь Ала Сямёнаўна трымае з выкладчыкамі-філолагамі гродзенскага ўніверсітэта, з абласным аддзяленнем саюза пісьменнікаў.

– Адзначаем памятныя даты: юбілеі слынных асоб Радзімы, – працягвае падарожжа па часе Ала Сямёнаўна. – Прыходжу ў музей, калі б ні з'явіліся з дарогі госці.

Яна, настаўніца, вельмі ганарыцца сваім крэўным заняткам, бо гэта ўжо не звычайны клопат, а існаванне яе душы, высакароднай і шчырай, між зямнога быцця.

**Ц**япер, едучы на магілу Цёткі, кожны свядомы беларус абавязкова не праміне Астрыну, каб паслухаць юных Вікторыю Раманчык, Анастасію Былеўскую, Таццяну і Ірыну Байгот, Юлію Бараноўскую, Яўгенію Ляпеша – удзельнікаў і пераможцаў шматлікіх конкурсаў музейных экскурсаводаў.

Ці не ёсць якая заканамернасць і ў тым, што ў кнігу літаратурнай Шчучыншчыны, якая выйшла да Дня беларускага пісьменства, уключылі вершы адразу трох ураджэнак астрынскага краю – Ганны Каспер, Вікторыі Снацкай і зусім яшчэ юнай Веранікі Манкевіч. Значыць, лунае творчы дух у сценах устано-

вы, якая носіць імя Алаізы Пашкевіч, і ёсць на Шчучыншчыне слаўная мясціна, куды едуць і ідуць людзі пакланіцца, з заміраннем сэрца дакрануцца да свайго мінулага. 15 ліпеня, у дзень нараджэння Цёткі, людзі прыпамінаюць побач з імем Алаізы Пашкевіч (Цёткі) і імёны стваральнікаў музея ў Астрыне.

# Будзе яшчэ дзень

Загадзя ведаю, што гэты матэрыял у мяне не атрымаецца. Не атрымаецца ўжо хаця б таму, што свайго героя не магу сустрэць і распытаць пра жыццё: ён ад нас вельмі і вельмі далёка. І далячынь тая напоўнена горыччу і болем, якія з часам толькі павялічваюцца. Не атрымаецца, таму што не ведаеш, якую сферу дзейнасці свайго героя закрануць, каб хапіла месца на газетнай паласе. Ці прафесійную, ці навуковую, ці палітычную. Не атрымаецца, таму што матэрыял гэты проста не прымуць да сённяшняга друку. Тым не менш, ведаючы, што адна традыцыйная паласа шчучынскай газеты маецца быць прысвечанай вёсцы Дудкі, не магу не назваць імя – Аляксандр Кашэта. Ён тут нарадзіўся, тут вучыўся, здзіўляў настаўнікаў і сваіх равеснікаў дапытлівасцю, эрудыраванасцю і схільнасцямі. Саша ведаў значна больш, чым давалі настаўнікі і падручнікі. З гадамі даказаў, што і з Дудкоўскай школы можна ўзысці на гістарычны алімп. Паспяхова скончыў Гродзенскі педінстытут. Там ён пачаў спасцігаць навуку, без якой не ўяўляў магчымасці стаць сапраўдным сынам сваёй Бацькаўшчыны. Без якой нельга ўбачыць, ацаніць не толькі мінулы, але і наступны дзень, нельга адчуць сябе, сваю прысутнасць у Сусвеце.

Гісторыя стала для настаўніка Аляксандра

Уладзіміравіча Кашэты яго Музай. І чым далей ён заглыбляўся ў мінулае, тым больш любіў. Яго жыццёвая настойлівасць, смеласць, якой, не сумняваюся, зайздросцілі многія, жыла ў ім дзякуючы любові. У тыя часы стаць у правінцыяльным краі адным з членаў БНФ не кожны адважыўся б. “Няўжо табе больш за ўсіх трэба?” – пытаўся ў яго не адзін. Як і кожнаму чалавеку, яму былі вядомы і сумненні, і страх. А ён верыў у дэмакратычныя змены, у новы час, хоць палітычны перыяд у краіне быў складаны і заблытаны. Верыў, будучы, па сутнасці, у адзіноце, у дарозе. Ён і памёр на аўтобусным прыпынку: сэрца не вытрымала. Застаўся сіратой сын. Шкада, што Сашавы надзеі яго перажылі.

Жыццёвасць і сімвалічнасць яго спадзеваў засведчыла хвіліна. Кажуць, ля свежага насыпу жоўтага пяску ў смутку і журбе тады сярод блізкіх стаялі з непакрытымі галовамі два чалавекі: адзін – франтавец, другі – камуніст. Абодва лідары тагачаснага жыцця, якое Аляксандр імкнуўся перайначыць. А мне помняцца яго словы пры апошняй сустрэчы: ”Будзе яшчэ дзень. Будзе!”

## Пра Ігара Жука і пра сябе

Найбольш, праўда, пра сябе, недацёпу. Неяк суровай зімой у Гродне не прызнаў Ігара Жука. У насунутай на вочы шапцы, як заўжды, у акулярах, чалавек сам падышоў да мяне, заўсміхаўся. Відаць, радаваўся сустрэчы. Пачалі гаварыць. І як бы няёмка мне ні станавілася з кожнай хвілінай усё больш і больш, я мусіў прызнацца, што не прыпамінаю, з кім маю справу. Ужо тут Ігар расплыўся ў няёмкай усмешцы, думаючы, напэўна, ці сустрэты не той, ці хтосьці з глузду з'ехаў. Гэтулькі гадоў знаёмыя, гэтулькі прагаворана.

Ён назваўся, і нібы маланка высвеціла ўсю недарэчнасць майго становішча. Дарагі Ігар, Ігар Васільевіч… Хацелася абняць чалавека, неяк павініцца. Мне, увогуле, са зрокавай памяццю не пашанцавала. Асаблівыя клопаты ў вялікім горадзе, дзе людзі ідуць і ідуць насустрач. Звычайна і не звяртаеш увагі на прахожых, бо знаёмых між імі амаль не бывае. Ды вось цесна на зямлі. Каб Ігар Васільевіч сустрэўся на прыступках універсітэта, то іншая справа, а сярод натоўпу ды закутаны ў паліто і шапку з апушчанымі вушамі... Усё ж апраўдання мне няма, бо ўсюды вінаваты, не трэба хадзіць па зямлі муміяй.

Пры сустрэчах з жанчынамі таксама падобнае здараецца. Тым больш што яны маюць звычку штодзень

змяняць свой імідж: прычоска, адзенне, нават выраз твару. Тады я паспрабаваў вітацца з усімі падрад прадстаўніцамі прыгожага полу, бо не так іх у Шчучыне шмат. Таксама нявыкрутка. Некаторыя абарочваюцца, пэўна, думаючы, што кагосьці не прызналі.

Вось такая і смешная, і грэшная сітуацыя. Хоць ты павініся прынародна за няўвагу. Яна ж, аднак, не душэўная, а хутчэй фізічная. І ўспамінаецца Ігар Жук. Сорам даймае і праз шмат гадоў. Няхай даруе чалавек. Важна, што заўсёды думаю пра яго добра і светла: такі малады яшчэ, а доктар філалагічных навук, прафесар універсітэта. Пазнаёміцца з разумным прыемным чалавекам некалькі разоў у жыцці – толькі пабагацець духоўна.

...На вялікі-вялікі жаль, на днях прыйшла проста трагічная навіна: Ігара Васільевіча Жука не стала. А мы ўсё спяшаемся, спасылаемся на час, не заўважаем. Як загладзіць сваю віну цяпер?

## Маё вучнёўскае сачыненне

Шкада, што гэтае сачыненне можа згінуць бясследна, таму падаецца без скарачэння і без сакрэтаў. Я напісаў яго для адной вучаніцы гадоў трыццаць назад, каб тая паўдзельнічала ў раённым конкурсе “Радзіма пачынаецца з дзяцінства”. Ужо не памятаю, што канкрэтна атрымала яна за “твор”, акрамя дыплома, але конкурс “настаўніцкіх-вучнёўскіх” работ прадаўжаецца да сённяшняга дня. Дык вось.

**Адкуль мая памяць.**
У вачах тваіх спакойна, чыста.
Верасень у небе не зачах.
Хочацца мне думаць пра дзяцінства,
Ногі звесіўшы ў ваду пад лісцем,
З грудаю аблокаў на плячах.

Не пусціце, карані, імгнення,
Як завейна, як трывожна, на бягу.
У паглядзе – юнае здзіўленне:
Прычашчаў жыццё,
А сачынення
Пра яго адужаць не магу.

Гэта радкі майго настаўніка Рычарда Белячыца, майго земляка. Чалавек нямала пажыў, пабачыў, зведаў, а шчыра прызнаецца, што свайго аповеду на

гэтую тэму адужаць пакуль не можа. То што тады казаць пра нас, юных. Так, напэўна, адбываецца ва ўсіх, бо жыццё складанае, загадкавае ўжо напачатку і вывучаць яго давядзецца да апошніх хвілін.

Неяк, гасцюючы ў сваякоў у Гродне, я пачула, як маленькі хлопчык пасля прагляду калыханкі спытаў у сваёй маці: ”А хто такая Радзіма?” Маці адказала, што яму яшчэ рана пра гэта тлумачыць. Тады паспрабавала дапамагчы хлопчыку я. І не атрымалася. Ён аглядваўся навакол, маўчаў і, нарэшце, спытаў: ”А марожанае ў халадзільніку – таксама мая Радзіма?”

Мая першая настаўніца Таццяна Паўлаўна Падгол вельмі любіла праводзіць урокі па-за школай, асабліва часта мы выходзілі ў лес, у поле, да рэчкі. Настаўніца, пакуль мы не пачыналі дурэць, прасіла нас закрыць роцікі, а толькі глядзець і слухаць. З часам мы пачыналі бачыць і чуць тое, што раней жыло само па сабе. Крыніца, пра якую мы раней не ведалі, рабілася нам сяброўкай, птушка, што лятала невядома як высока, спусцілася і спявала толькі для нас. Рэчка, падалося, цякла да нас, каб разам пагарэзнічаць. Наваколле станавілася блізкім, зразумелым, сваім, родным. Так пачыналася Радзіма для мяне. Пакуль што маленькая, але мая.

Ішлі гады. Мы, вясковыя, далей бліжэйшага небасхілу не бегалі, не бывалі. Але вельмі любілі тэлеперадачы “Вакол свету”, “Клуб кінападарожнікаў”, “Кусто”. Так хацелася экзотыкі! А старэйшыя людзі, а кнігі сцвярджалі, што няма больш прыгожага месца, чым твая радзіма. Што гэта так, я зразумела ў старэйшых класах, калі вывучыла геаграфію і гісторыю сваёй Бацькаўшчыны, калі сустрэлася з кнігай Міколы Ермаловіча “Беларусь старажытная”, дзе расказваецца пра нашу даўніну. Полацкае княства, князі Рагвалодавічы, Еўфрасіння Полацкая і яе святая спра-

ва, Вялікае Княства Літоўскае, Вітаўт і Кейстут – усё паўстала перад вачыма, засталося ў сэрцы. Так з’явілася мая памяць.

Тады я па-іншаму ўбачыла сучасныя краявіды, гарады, нашых людзей. Па-іншаму пачала ставіцца да сваіх бацькоў, якія працуюць у саўгасе, вырошчваюць збожжа. Цяпер ім асабліва цяжка, цяжка і маёй Радзіме. Наступіў час перамен, адзін не разумее другога, між людзьмі недавер і крыўда – перабудова. Аднак мая Радзіма жыве.

А вечарамі мае землякі з жахам глядзяць тэлекадры з Чачні, з Югаславіі. Вайна ніяк не пакідае прыгожую добрую Зямлю. І дзе б яна ні ашчэрылася, а нам, беларусам, асабліва балюча, бо яшчэ не заравўняліся акопы і траншэі тут, на маёй радзіме. Радзіма пачынаецца з дзяцінства, з бацькоўскай хаты. Пра гэта прыгожа і шчымліва сказаў паэт Рыгор Барадулін: ”Трэба дома бываць часцей…”. У яго творчасці тэма дзяцінства займае асаблівае месца. Свежа, метафарычна ўмее паэт сказаць пра сваіх бацькоў, нават пра звычайны куст, які расце пад акном хаты, пра незваротнасць дзён:

Дасюль
У мамы ўсё збіраюся паснедаць,
А ўжо вячэра стыне на стале…

Бывае, зразумець барадулінскія радкі цяжка, але паэту верыцца. Значыць, мы проста яшчэ не дараслі да аўтара, да яго Бацькаўшыны.

Да сваёй Радзімы кожны чалавек ідзе сам, ідзе ўсё жыццё. Ідзе са светлага дзяцінства. І няхай гэтая дарога ў маіх равеснікаў, бацькоў і дзядоў будзе роўнай і прыветлівай.

## Знак сёстраў

Па часе іх разлучае больш за паўстагоддзя, па жыцці моцна яднае пісьменніцкі лёс, стойкасць характараў, патрыятычныя перакананні. Алаіза Пашкевіч, Валянціна Коўтун... Прыгожыя воблікам і постаццю, рамантычныя жанчыны, высакародныя натуры прысвяцілі сябе роднаму слову, Айчыне, светлым пачуццям. І над усім гэтым сёння паўстае непазбежны і векавечны «крыж міласэрнасці». Вельмі сімвалічна, што юбілеі Валянціны Коўтун, аўтаркі дылогіі пра ўраджэнку Шчучыншчыны Алаізу Пашкевіч, супадаюць з юбілеямі яе гераіні. З розніцай у семдзесят год.

**Д**а гэтай пары для мяне застаецца загадкай з'яўленне Валянціны Міхайлаўны, маладзенькай сімпатычнай выпускніцы сталічнага ўніверсітэта, у ролі выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры ў прыгранічных з Літвой Варнянах на Астравеччыне ў другой палове мінулага стагоддзя. Што Астравец – свету канец, на той час ведалі выпускнікі ўсіх установаў і імкнуліся туды не трапіць. Вядома, прыказка вельмі перабольшвала і трымалася на фактычнай аддаленасці астравецкіх мясцін ад сталіц і на ўдалай рыфме. І ўсё ж – настаўніца са сталіцы! Хадзілі чуткі, нібыта ўдзельнічала маладая паэтэса ў нейкіх забароненых студэнцкіх хваляваннях у Мінску. Таму і атрымала ў пакаранне размеркаван-

не чым далей ад цывілізацыі. Шкадую, што ў пэўны час не запытаўся ў сваёй настаўніцы, добра знаёмай паэткі, нават крыху старэйшай сяброўкі пра гэты факт. Валянціна Міхайлаўна пабыла на Астравеччыне ўсяго два гады. Выпусціўшы наш клас, паехала зноў у сталіцу назаўсёды. Далейшае жыццё сведчыла пра пастаянны душэўны неспакой жанчыны ў дачыненні да яе Радзімы. Патрыятызм – адна з галоўных чалавечых рыс паэтэсы. Кожная яе публікацыя як літаратуразнаўцы і таленавітай паэтэсы была скіраваная супраць несправядлівасці, супраць скажэння беларускай гісторыі. Валянціна Міхайлаўна неаднойчы публічна станавілася заступніцай Беларусі.

**У**жо сталай, прызнанай паэтэсай яна стварае Усебеларускі жаночы фонд святой Еўфрасінні Полацкай і больш за дзесяць год са сваімі аднадумцамі працуе па захаванні памяці беларускай асветніцы, прысвячае ёй раман, узвышае ролю жанчыны ўвогуле ў грамадстве і на зямлі. Выгадавала двух прыстойных сыноў, працавала ў рэдакцыях часопісаў і дзяржаўных выдавецтвах, заўсёды была на вастрыі грамадскіх падзей, што не магло не адбіцца на здароўі.

Яшчэ працуючы настаўніцай у Варнянах, вывучэнню творчасці Цёткі Валянціна Міхайлаўна, помніцца, надавала асаблівае значэнне, прасякнутае верай і святлом. Ужо тады яна жыла вобразам паэтэсы-рэвалюцыянеркі, змагаркі за роднае слова, за лёс беларускага народа. Яны нават былі падобны знешне ў хвіліны ўзрушэння: вытанчана прыгожыя, стройныя, артыстычна далікатныя ў адносінах. А на занятках глядзела задуменная сучасніца ў акно на вясенні сад, чытала Цётчыны вершы, і нам, старшакласнікам, здавалася, што дэкламуе сама аўтарка з далёкіх незнаёмых часоў, з Пяшчыны на Шчучыншчыне. Што цяпер таіцца, шмат якія хлопцы нават былі закаханы

ў маладую настаўніцу, бо некалькі гадоў розніцы ва ўзросце не мелі значэння ў маладосці.

**П**райшло шмат часу. Зрэдзь мы сустракаліся на дванаццатым паверсе выдавецтва «Юнацтва», дзе яна працавала, перабіраючы ў тым ліку мае рукапісы пачаткоўца. Але пра задуманы раман «Крыж міласэрнасці» пісьменніца маўчала. З'яўляліся адна за адной яе таленавітыя паэтычныя кніжкі, ужо абаронена кандыдацкая па літаратуры. І тут як гром з яснага неба – навіна пра вялікі, дасканалы, гістарычна і сацыяльна значны твор пра Цётку. Наступная прыступка да вядомасці і прызнання – літаратурная прэмія імя Аркадзя Куляшова. Цяпер зразумела, што стварэнне падобнага шырокамаштабнага мастацкага палотнішча запатрабавала працяглага часу, шмат духоўных і фізічных сіл. З цягам часу стала вядома пра шматлікія паездкі пісьменніцы па Цётчыных мясцінах, пачынаючы ад шчучынскіх Пешчыны, Старога Двара, Васілішак да беларускіх, літоўскіх, украінскіх і нават замежных архіваў – паўсюль, дзе ў свой час пабыла Алаіза Пашкевіч за кароткае, але такое бурлівае жыццё. Нават цяпер ёсць сведкі тых сустрэч з Валянцінай Коўтун і размоў пра нашу зямлячку.

**У** прадмове да дылогіі «Крыж міласэрнасці» пісьменніцай засведчана, што аўтарка прысвяціла збору матэрыялаў шмат часу. Так, па метрычных кнігах Васілішкаўскага касцёла, якія захоўваюцца ў фондах гістарычных архіваў Гродна, яна падрабязна імкнулася засведчыць гады і прозвішчы з родавага дрэва Пашкевічы-Вызгі-Вінчы-Яцэвічы, углыб да Цётчыных дзядоў. І нават геаграфічна мы можам арыентавацца па знаёмых назвах – Ліда, Васілішкі, Стары Двор, Пяшчына, Каралін. Адзін з запісаў метрычнай кнігі: 1876 год, 3 ліпеня. У ваколіцы Пяшчына нарадзілася Алаіза Пашкевіч. Ахрышчана ў Васілішкаўскім касцё-

ле 8 верасня. Тут жа засведчана: Алаіза Пашкевіч павенчана з Стэфанам Кайрысам 7 лютага 1911 года…

Каб увайсці ў жыццёвы вобраз Цёткі, В. Коўтун паралельна перагарнула шматлікія тамы вядомых бібліёграфаў, успаміны аднакурснікаў па вучылішчы Веры Поразавай, іншых асоб, якія так ці інакш памяталі Алаізу Пашкевіч. Старонкі рамана даюць яскравае адчуванне пра тое, які перыяд жыцця юнай Алаізы найбольш плённы ў асабістым плане і творчым, найбольш дарагі для аўтара. Так, віленскія гады сталіся для Цёткі і плённымі, і адначасова суровымі, бо ад іх залежала далейшае. І ўжо цяжка зразумець, хто гаворыць на старонках, чые гучаць словы, чые думкі і пачуцці з іх дваіх. Сваё зрабілі ўнутраныя маналогі жанчын. Настолькі духоўна блізкімі становяцца гераіня і аўтар.

З асаблівым замілаваннем гучаць радкі, дзе начамі Алаізе сняцца родныя мясціны ажно да самай Лябёдкі, дзе сябравала з братамі Іваноўскімі. Гучыць здагадка: «І ці не Вацлаў упершыню запаліў у яе свядомасці свечку – ідэю Беларусі, беларускі знак. Алаізу ўжо кранулі яго палкія словы і шчырая вера ў будучыню, яго гатоўнасць самаахвяравацца беларускаму змаганню».

Здаецца, што парой хвароба юнай Алаізы, якая пачала падступацца так рана, забірае і сілы самога аўтара кнігі. І яны пакутуюць разам, пакідаючы радзіму падчас эміграцыі. (Дарэчы, менавіта ў Львоўскім універсітэце пасля вучобы там Пашкевіч праз шмат гадоў будзе вучыцца і Коўтун.) Быў у жыцці Пашкевічанкі так званы пецярбургскі перыяд, дзе шлях барацьбы асветлены яркімі сустрэчамі з Антонам Луцкевічам, зноў жа з Вацлавам Іваноўскім. Сходкі, дэманстрацыі, спрэчкі. Нарэшце – спачатку падпольны, а потым легальны беларускі друк па ініцыятыве Цёткі і І. Луцкевіча.

Новае вяртанне ў Вільню. 1906 год – выдае «Беларускі лемантар», «Першае чытанне для дзетак беларусаў», «Гасцінец для малых дзетак». У наступнае расставанне з радзімай, у Львове, Цётка пры дапамозе сяброў выдае два паэтычныя зборнікі «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская».

Вельмі эмацыянальныя радкі дылогіі, дзе Алаіза Пашкевіч ўспамінае сваю радзіму ці на кароткую часіну прыязджае дадому, дзе старадворскія мужыкі «пакутліва змагаюцца з горкім сумам ад таго, што няма выйсця».

«…Адсялібы Стэфана Пашкевіча да Васілішкаўскага гасцінца кіравала нешырокая дарога… Уся чорная і гразкая… Яна заўсёды здавалася Алаізе жывою і дрогкаю – дыхае, баліць…»

«…Алаіза любіла ўсё, што любіў бацька. І гэтую дзівосную арабінавую алейку, і вялізнае гумно з пахучым сенам і ластаўчынымі гнёздамі пад страхою…»

«…Вось і цяпер бачым, друкуюцца кніжкі, выходзіць ужо другая газета, ідзе перапіска з вучонымі – усё панашаму. І ніхто не смяецца, ніхто не плюе на нашу мову…» (з артыкула Цёткі «Шануйце роднае слова»).

**П**рыпамінаюцца 130-ыя ўгодкі з Дня нараджэння Алаізы Пашкевіч ля помніка на яе магіле ў Старым Двары. Зноў Валянціна Коўтун чытае вершы, падпісвае знаёмым адну з апошніх сваіх кніжак «Свяча любові», дзе нямала радкоў прысвечана любімай Цётцы, дзе на адным з фотаздымкаў яна, прысеўшы ля калоды з высечанымі ўсім вядомымі словамі, задуменнадапытлівая і сур'ёзная. На самай справе, асэнсаванне асобы беларускай паэткі Цёткі пачалося з дзвюх паэм, напісаных раней, «На зломе маланкі» і «Суд Алаізы».

Перад расстаннем Валянціна Коўтун даверыла свае шматлікія занатоўкі, рукапісы, задумы і таямніцы добра знаёмай жанчыне-архівісту дзеля захавання і

вывучэння. Архіў пісьменніцы ўтрымлівае і шмат матэрыялаў з біяграфіі Цёткі, сведчыць пра вялікую чалавечую павагу і любоў да сваёй старэйшай сястры – Алаізы Пашкевіч. Нездарма, звяртаючыся ў прадмове да галоўнай гераіні, аўтар займеннік «Ты» ўсюды піша з вялікай літары.

Побач з творамі Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Рыгора Бярозкіна, Лідзіі Арабей пра Пашкевічанку раман Валянціны Коўтун усё ж стаіць, так бы мовіць, асабняком, жыве своеасаблівай споведдзю перад старэйшай крывіначкай – дарадчыцай, настаўніцай, пуцяводнай зоркай. На карысць Беларусчыны!

## Утульны порцік

*Паралельнае жыццё*

Раней па вядомых прычынах трапіць у палац князёў Друцкіх-Любецкіх не даводзілася. У канцы мінулага – пачатку нашага стагоддзя ён нагадваў будоўлю з вялікай барадой, пры гэтым за яго жыццё змагаліся і аматары гістарычных каштоўнасцей, і мясцовыя ўлады. Аднак прывесці архітэктурны помнік да ладу каштавала дорага. Праўда, вельмі важная работа была зроблена, калі палац перакрылі, бо гэта асноўная ўмова выжывання любога збудавання.

Выратаваў палац канчаткова, безумоўна, Дзень беларускага пісьменства ў 2015 годзе, які з трыумфам прайшоў у Шчучыне. Урачыстае адкрыццё яго ўжо ў ролі ўстановы адукацыі па развіцці творчасці дзяцей і моладзі стала ледзь не асноўнай культурнай дзеяй для горада. Фінансавыя ўкладанні на рэспубліканскім і мясцовым узроўнях дапамаглі правесці дастаткова матэрыяльных і тэхнічных аперацый, каб будынак заззяў.

Адзін з вядомых беларускіх паэтаў-выдаўцоў Алесь Бадак на свяце рэзюмаваў: “Шчыра кажучы, яшчэ два месяцы назад я не верыў, што адкрыццё палаца адбудзецца. Звонку і ўнутры памяшкання было не прайсці, а цяпер – бляск”. З таго часу, прынамсі, і пачалося калі

не сапраўднае паломніцтва, то канкрэтнае хаджэнне ў шчучынскую славутасць. Цяпер палац актыўна рыхтуецца адзначыць 500-гадовы юбілей раённага цэнтра, які будзе святкавацца напрыканцы жніўня. Педагогі на чале з дырэктарам Ірынай Пятроўнай Дзегцяровай, апроч сваіх непасрэдных абавязкаў па навучанні і выхаванні дзяцей, толькі паспяваюць сустракаць вядомых асоб і дэлегацыі ад мясцовых жыхароў да міністраў. Шчучын стаіць на скрыжаванні ўсіх дарог, і хто б ні ехаў у абласны горад ці за мяжу – грэх не пабачыць харомы шчучынскіх князёў. Так, аднойчы польская дэлегацыя са сваім гістарычна "падкаваным" гідам правяла ля палаца цэлы сімпозіум. Аказалася, палякі добра асвядомлены, што, хоць адзін са слаўных прадстаўнікоў княжага роду Францішак Ксаверый і не жыў у гэтым палацы, бо ён старэйшы за будынак амаль на сто гадоў, але пасля сустрэчы з расійскім царом Аляксандрам І быў прызначаны членам часовай Вярхоўнай Рады Варшаўскага герцагства, яму даручылі справы, якія адносіліся да кампетэнцыі міністэрства ўнутраных спраў. І ў хуткім часе князь Друцкі-Любецкі быў прызначаны міністрам скарбу Царства Польскага. Будучы па справах у розных сталіцах Еўропы, напэўна, ён і ўпадабаў адзін з версальскіх праектаў, каб праз гады нашчадкі ўзвялі аналагічную двухпавярховую рэзідэнцыю ў Шчучыне.

Мне ж давялося пазнаёміцца з архітэктурай палаца хутчэй праз паралелі гістарычнага артыкула польскага вучонага Рамана Афтаназы і майго дасведчанага экскурсавода, намесніка дырэктара ўстановы. Усё сходзілася: мураваны двухпавярховы будынак на высокім цокалі, "тры ўзаемна звязаныя аб'ёмы, сярэдні, злёгку адсунуты ўнутр аб'ём, быў ніжэйшы бакавых і ствараў на галоўным фасадзе порцік". Шырокія ўваходныя дубовыя дзверы, а па баках яшчэ больш

шырокія, амаль квадратныя вокны. Глядзіш праз двайное шкло ўвечары, а агнёў на вуліцы ці не ў чатыры разы больш звычайнага. З каментарам уся велічнасць гмаха ўражвае яшчэ больш. Сцены вялікага салона аздоблены дубам. Праўда, кудысьці знік у "перабудовачны" час польскі паркет, паскрыпванне якога пад нагой павявала б былІннасцю. Злева плітачна-металічная лесвіца вядзе на другі паверх, на яе месцы зноў-такі некалі ляжала дубовая, а пад ёй – княжыя ванны. Жырандолі не жырандолі, а масіўныя сучасныя свяцільнікі, заказаныя ў Мінску, звісаюць з высачэзных столяў і высвечваюць, здаецца, моманты далёкай гісторыі. Уражвае сваім інтэр'ерам дабудаваная пасля вайны актавая зала. Усё сходзіцца. І толькі княжая бібліятэка ды архіў княжага роду знаходзяцца, на жаль, у Кракаве. Як, зрэшты, і шматлікія нацыянальныя каштоўнасці нашага краю параскіданы войнамі па ўсёй зямлі: карціны Шагала і Малевіча, летапісы і перапісаныя рукой Еўфрасінні Полацкай кнігі, яе ж унікальны Крыж працы Лазара Богшы…

*Калі пачынаецца нераст*

– А не страшна ноччу? – пытаюцца амаль усе госці і нават педагогі. Так, да трэскаў, шумаў, адным словам, "дыхання" дубовых сцен трэба прывыкнуць, вывучыць іх, бо яны маюць здольнасць, як і кожнае дрэва, усыхацца, набракаць. Па трубасцёках амаль заўсёды імкне вада – ці дождж, ці аселая вільгаць. А кроплі, падаючы з другога паверха на сучасныя пластыкавыя навесы над уваходамі ў цокальныя памяшканні, напамінаюць ўзрывы навагодніх петардаў. Найбольшы эфект ад разнастайных гукаў адчуваецца за кошт акустыкі на першым паверсе. Высокія столі, амаль мятровай таўшчыні сцены палаца, адумысная планіроўка напаўняюць памяшканне дзівосным рэхам нават пры дыханні. Гава-

рыць на адлегласці двух метраў у незапоўненай парадней зале амаль немагчыма. Кашлянеш і, здаецца, увесь горад чуе.

А наогул, з кожным жылым памяшканнем трэба пасябраваць. І, калі нават апоўначы з’явіцца да цябе князь ці княгіня, неабходна ведаць іх імя і інтарэсы. Яны любілі, як князь Францішак Ксаверый, сваё далёкае Вялікае Княства Літоўскае. Ён марыў разам з кампазітарам і сваім сябрам Міхалам Агінскім пад апекай рускага цара аднавіць сваю недалёкую па часе дзяржаву. Утопія. Але ж мы сёння такія разумныя. А тады...

Складзены імі праект проста не спатрэбіўся, бо пачалася вайна з Напалеонам, калі ніводзін беларускі князь не мог вызначыцца, якому Богу маліцца. А з’явіцца ў палацы нястомны аматар хуткай язды на аўтамабілі князь Уладзіслаў, з ім можна пагаварыць пра сучасны і тагачасны “фольксваген”. Юная графіня Марыя, будучая жонка Францішка, часта бегала да невялічкага азярца, якое знаходзілася ля сучаснага скрыжавання Савецкай і Астроўскага. Трэба ж, нарэшце, высветліць, памячаў князь сваіх рыбкаў залатым кольцам ці не. Усё ж вялікі клопат, калі настае нераст.

*А па начах...*

Па начах асабліва плённа думаецца пра дзённыя сустрэчы.

– А Чорная Дама нясвіжская не прыходзіць часам? – пытаецца адна сучасная брунетка-князёўна, відаць, аматарка Караткевіча.

Але ж гэта не яе ўладанні. Прыходзяць іншыя, тутэйшыя. Такі, напэўна, жаночы лёс, што ўсе яны аднойчы бываюць пакрыўджанымі каханнем. Князёўна Аліна, праўнучка Францішка, пакахала гальшанскага князя Ануфрыя. Яны сустрэліся на адным з віленскіх

баляў. Усё адбылося імгненна. Танец, некалькі высокіх інтымных слоў. Тэрасны парк. Нават пацалунак. Тагачасныя абяцанні памятаць і думаць, напэўна, значылі больш, чым сёння. Наступны раз яны ўбачыліся ўжо ў Гародні, у Старым Замку, праз паўгода. Эфектная пара – ён у чорным вячэрнім фраку і яна ў бялюткім бальным плацці – збегла па крутой дубовай лесвіцы ўніз да Нёмна і каталася на лодцы. Развіднела. Іх аднесла ўніз па цячэнні. У палацы – перапалох. Калі закаханых знайшлі, госці без лішніх слоў вырашылі асноўнае пытанне – вяселле. Але – першая руская рэвалюцыя. Князь Ануфрый, захоплены гісторыяй дзекабрысцкай плыні, часова ў Пецярбурзе. А потым – вязнем у Сібіры. Аліна нават не ведае, што з ім здарылася. Колькі ні пасылалі да яе сватоў – адмаўляла…

І вось яна праз шмат гадоў, спакойная, сумная, у палацы сваіх продкаў. Я таксама маўчу. Князёўна, зірнуўшы ў цьмянае начное акно, падымаецца з крэсла, высокая, стройная, светлавалосая, з правільным прывабным профілем, здаецца, у тым самым гарадзенскім бальным плацці ідзе праз шырокія дзверы. І толькі чуецца паскрыпванне прыступкаў пад яе лёгкімі крокамі. Лесвіцы, па якой пайшла князёўна, я чамусьці не памятаю, не ведаю. Хочацца кінуцца ўслед, але крокі аціхаюць, і дарэмна гарыць у маёй напружанай руцэ кішэнны ліхтарык.

*Анёлак*

Аднойчы падвечар усчаўся парывісты заходні вецер. Звонку аб сцены палаца і калоны порціка біліся, свісталі яго вар'яцкія парывы. Здавалася, канца яму не будзе. Але апоўначы вецер нібы ўлёгся ў кронах бліжэйшых дубоў і бяроз. Неба раз'яснілася, і нават выглянулі зоркі. Людзі ўжо не ішлі дарожкамі паўз па-

лаца, з цікаўнасцю заглядваючы на высокія аканіцы, як днём.

Раптам за шыбамі прыцемненых акон аднекуль выбілася свячэнне, якое дробненька мільгацела на фоне начнога неба, быццам трапятала белае крылле цёмнага дзіцячага сілуэта. Воблік заплыў у аконнае святло, і вырысаваўся зусім юны тварык, абрамлёны кучаравымі русымі валасамі. Ужо праступіла светлае адзенне, што закрывала, як сціхар, увесь сілуэт хлопчыка. Над галоўкай выразна свяціўся німб. Гэта ж анёлак!

З літаратуры вядома, што існуе восем галоўных анёлаў, яны лічацца Божым увасабленнем. Яны, як і Бог, маюць розум, памяць, яны вечныя. Але тады ад нечаканасці я забыўся пра ўсё. Цяжка апісаць мой фізічны і духоўны стан. Нас падзялялі ўсяго два тонкія шклы. Несумненна, анёлак мяне бачыў, ён узмахнуў крыллем і апынуўся ля самай балюстрады. Што было б далей – невядома, каб ён не загаварыў.

Голасу не чувалася, але – дзіўна – я разумеў яго па руху вуснаў:

– Я служу Богу-лекару. Непадалёку адсюль даўным-даўно стаяў маёнтак. Я памятаю сваіх родных і час ад часу малюся за Шчучын.

Хутчэй прад маім страхам няясна гучала-прыпаміналася старабеларуская гаворка ліцвінаў, на якой гаварыў анёлак і з якой я пятае праз дзясятае знаёміўся ў інстытуце.

– А вы па якой графскай лініі знаходзіцеся ў сценах палаца? – ужо на чыстай беларускай мове прадаўжаў анёлак-збаўца.

Што я мог сказаць у апраўданне. Ні гаспадар, ні арандатар, ні… “Ахоўнік мінуўшчыны” падыходзіла найлепш, і дзіцячы тварык асвяціўся ўсмешкай.

– Я ўвасобіўся ў цела маленькага графа, які тут загінуў,

калі ўпаў з каня пасля выбуху шведскага снарада тры вякі назад. Я сышоў на зямлю, каб пазбавіць болю няшчасную маці таго хлопчыка, якая праз усё жыццё пакутуе і кляне сябе за смерць малога графа, бо адпусціла яго аднаго пакатацца на кані. Вінаваты ж ворагі, што прыйшлі на гэтую зямлю. Я дапамагу і вам, – прадаўжаў анёлак. – Да спаткання…

Анёлак узмахнуў белым крыллем – я гэта бачыў выразна, бо праяснялася раніца – і без прыкметных намаганняў знік за магутнымі калонамі.

*Утульны порцік*

Па свежай, насычанай каларытнасці не ўступае гістарычнаму сучаснае вонкавае жыццё каляпалацавай акругі. Асабліва ў вячэрні і начны час. Толькі дзіву даешся, што сэлфі ў прыцемках, аказваецца, нашмат папулярней за дзённае. Даўгавалосым і даўганогім школьніцам, напрыклад, вельмі падабаецца пазіраваць ў цёмны час ночы. Якія артыстычныя позы, начны позыў і натхненне!

– Ой, – толькі і сказала на маё нечаканае з'яўленне адна фотамадэль.

– Ой-ой, – знайшоўся я, але дадому дзяўчаты не пайшлі, хоць да ранішняга гімна заставалася дзве гадзіны. Можна пазайздросціць здароваму сну бацькоў школьніц. Але хтосьці ўсё ж прывіў дзяўчатам любоў да начных гістарычных помнікаў, калі яны гатовы пазіраваць на іх фоне праз усю ноч.

Ці вось яшчэ адна зусім, бадай, не сучасная карцінка. На каленях непадалёк ад цэнтральнага ўвахода доўга стаяў хлопец у шортах. Дзяўчына велічна адводзіла ўбок позірк, пакрыўджаная на ўвесь белы свет. Рыцарскіх слоў не чувалася, але выглядала ўсё амаль што перад самымі прыступкамі стагодняга палаца вельмі сімвалічна. Вось толькі шорты не

вельмі пасавалі сітуацыі, хоць, пэўна, і падкрэслівалі трагічнасць адчуванняў іх уладальніка. Але дзяўчына, здаецца, не даравала. Абмінуўшы бедалагу, пайшла адна з горда ўзнятай галавой.

Яшчэ карцінка з натуры. На пляцоўцы перад уваходам танцавалі ўзбуджана-вясёлыя малойчыкі. Што за музыка, за танец, за час – не разабраць. Праўда, танцам перашкодзіла міліцэйская машына, якая паехала такой жа пустой, як і з’явілася. А танец, напэўна, паўторыцца дзе-небудзь на беразе возера.

Сядзяць перад палацам на сонейку ў вечаровы час на ўтульных лавачках і сціплыя пажылыя пары. Штосьці думаюць, пазіраючы на вокны харомін. Яшчэ з дваццаць гадоў назад яны, магчыма, вытанцоўвалі на паркеце княжай рэзідэнцыі “белы танец” або “цяжкі рок” (быў жа палац Домам афіцэраў!). Цяпер у гэтых сценах займаюцца іх унукі. Парадак.

А да позняга часу не гаснуць агні ў кабінетах дырэктара і намеснікаў. Яны плануюць дзіцячае лета з сэлфі і марозівам, а заадно і сваё. Цяпер ва ўстановах адукацыі перапынку ў рабоце няма. Ідуць з усяго горада хлопчыкі і дзяўчынкі танцаваць, спяваць, ляпіць, выкройваць – тварыць. Сучасны палац творчасці дзяцей і моладзі – гэта своеасаблівы вулей. Як вядома, кожная пчолка мае сваё пажыццёвае прызначэнне: хто носіць нектар, хто на варце працуе, хто... Мне ж найцікавей тое, што тут выдатна спрацоўвае вядомы савецкі афарызм – а можа і яшчэ больш даўні – адзін за ўсіх, усе за аднаго. Так, ноччу адзін вартаўнік не змыкае вачэй за ўсіх астатніх, а днём усе да аднаго, як могуць, завіхаюцца за яго. У выніку навучанне і выхаванне асобы праходзіць дэмакратычна і эфектыўна. Усе занятыя, кожны пры справе, усім усё даспадобы. У вуллі інакш і быць не можа. І толькі час ад часу хтосьці ў мяне запытаецца: ”А вам тут не страшна аднаму

ноччу?” Не, бо хіба можа быць страшна побач са сваёй гісторыяй, са Спадчынай, якую табе пакінулі продкі на зберажэнне. Яе патрэбна проста любіць. А каб любіць, найперш трэба вызначыцца, што любіць. Дзеля гэтага мы і жывём.

Пэўна, здзівіліся б князі, убачыўшы з акон вялікае возера. Зноў жа да Дня пісьменства тут не менш папрацавалі над здаровым іміджам гараджан, чым над духоўным, праклаўшы вакол вады шырокую дарожку з пліткі. З раніцы да позняга вечара людзі падзіцячы кругляюць па ёй. Я ім моцна веру, і хочацца да іх, але ж не адпускае палацавая супер-сігналізацыя. Бачылі б князі ўсё – вярнуліся б дадому.

...Нечакана пусціўся густы дожджык. І набралася пад дахам палацавага порціка добра-такі людзей. Асабіста мне гэта затуленая з трох бакоў і прыкрытая зверху галерэя падабаецца, сюды бягуць схавацца часта. Тлумачу, што ад непагадзі беражэ маіх гасцей порцік, каляровая плітка якога памятае яшчэ крокі былых гаспадароў.

– Утульны порцік, – заключае адзін з пацярпелых ад дажджу. І я згаджаюся: утульны. Тым больш з кветкамі, якія раскашуюць на жалезных кованках і ў час вячэрняга дажджу пахнуць асабліва духмяна аж з мінулых княжых вякоў, калі жыла і кахала юная Марыя, калі вяртаўся князь Друцкі-Любецкі з усіх еўрапейскіх сталіц у свой ціхі Шчучын, каб памаліцца ў касцёле Святой Тэрэзы за сваю Айчыну.

# Палёт Голуба

Падчас апошніх сустрэч з аматарамі паэзіі Гродзеншчыны прыйшла справядлівая думка, што людзі “ідуць” на Юрку Голуба, як ідуць канкрэтна на папулярных эстраднікаў, бо добра ведаюць іх творчасць, паважаюць і любяць іх талент. Гэта пераважна больш сталыя прыхільнікі паэтычнага слова, што добра памятаюць паэта маладым, які побач з такімі грандамі беларускай літаратуры, як Васіль Быкаў, Данута Бічэль, Аляксей Карпюк, трымаўся ў Гродне ўпэўнена, па-паэтычнаму дасканала і перспектыўна. У гэтым годзе Юрыю Уладзіміравічу Голубу, аўтару шматлікіх паэтычных зборнікаў, лаўрэату прэміі імя А. Куляшова, ураджэнцу вёскі Горна, што на Зэльвеншчыне, і жыхару Гродна спаўняецца сем дзясяткаў.

Пра паэта Юрку Голуба напісана мноства прыязных артыкулаў, лепшыя літаратуразнаўцы Беларусі даследавалі яго радкі, і няма і кропелькі сумневу, што аўтар працуе на ўзроўні класіка, пра што сведчыць хоць бы факт вывучэння яго вершаў па праграме выкладання літаратуры ў школе і вышэйшых установах. Яго творы перакладзены на іншыя мовы свету. Паэт увайшоў у літаратуру ў другой палове мінулага стагоддзя прыгожа і імкліва. Ён сталеў спачатку ў сценах сталічнага ўніверсітэта, а потым у літаратурным асяродку побач з

такімі слыннымі паэтамі і пісьменнікамі, як Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Анатоль Вялюгін, разам з маладзейшымі Алесем Жуком, Уладзімірам Някляевым, Сяргеем Законнікавым.

Юрый Уладзіміравіч не адно дзесяцігоддзе ўзначальваў Гродзенскае аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў і толькі нядаўна перадаў эстафету маладзейшаму, таленавітаму празаіку Валянціну Дубатоўку, клапатліваму мецэнату ў літаратурным жыцці. Яны абодва разам са сваімі сябрамі па пяры толькі за апошні час аб’ездзілі з выступленнямі амаль увесь поўдзень Гродзеншчыны – Ліду, Навагрудак, Дзятлава, Зэльву, літаратурныя імпрэзы з удзелам літаратараў прайшлі таксама ў Гродне.

Тут, на берагах Нёмана, паэта Юрку Голуба ведаюць і памятаюць з асаблівым пачуццём. Працоўныя калектывы, студэнты сустракалі яго, заўсёды ўсмешлівага, добразычлівага, тонкага гумарыста, з захапленнем і вялікай доляй удзячнасці. Нават узнёслая метафарычнасць, крыху ўскладненая вобразнасць яго радкоў звычайна супадалі з настроем слухачоў, бо быў чуцен уласны паэтычны голас, дынамічнасць інтанацый, была відаць маляўнічасць і жанравая разнастайнасць твораў.

Поле. І ў полі зроку
Скібамі час залёг.
Далей не ступлю ні кроку –
Тут супыніўся Бог.

“Рух чалавечай душы ў атачэнні самых розных зямных праяў і здарэнняў – гэта маральны і існы змест зборнікаў. Радкі бяруць пачатак у першую чаргу ў духоўных скарбах людскасці і скіраваны да ўсіх, хто жыве поруч”. Гэта словы з анатацыі да аднаго са зборнікаў Юркі Голуба, яны як найлепш сведчаць пра сутнасць шматлікіх вершаў паэта. А іх за гады

назбіралася ці не на некалькі тамоў. І ніякія спасылкі на "цяжкія" фінансавыя стасункі не апраўдваюць затрымкі выхаду ў свет выбранага з творчасці гэтага паэта, бо тут якраз той выпадак, калі кажуць, што талент ад Бога.

Здаецца, асабіста ў мяне ёсць усе зборнікі сябрапаэта з мудрымі да слёз аўтографамі-подпісамі. А падпісаць душэўна кнігу, бывае, цяжэй, чым напісаць добры верш. І тут ён эксперыментатар, вынаходца. І міжволі паглыбляе ў філасафічнасць радкоў зборнік "Поруч з дажджом", дзе на вокладцы задумлівы, пільны позірк аўтара, прысееены халодным восеньскім дажджом. Менавіта лістападаўскім днём прыйшоў чалавек у свет, каб паказаць яго аптымістычна і светла, як бачыць сам паэт жыццё навокал сябе.

Жыццярадасным і прыцягальным застаўся асяродак у памяці, калі Юрка Голуб працаваў на абласной студыі тэлебачання і рыхтаваў штомесячную перадачу "Гродзеншчына літаратурная", а потым у рэдакцыі газеты "Гродзенская праўда" ствараў літаратурную старонку. Без адпаведнай адукацыі, без прынукі выходзіў на экран прафесійна і запамінальна, бо займаўся сваёй пажыццёвай справай – ствараць мастацтва. З ім поруч станавіліся паэтамі нават тыя пачаткоўцы, якія толькі-толькі давярыліся пяру, а што казаць пра творцаў, што самі экзаменавалі вядучага. І быў гэта час прафесіяналаў на Гродзенскім тэлебачанні. Без крыўды і сумненняў трэба прыняць, што і цяпер людзі "ходзяць" на Юрку Голуба, калі ён час ад часу прыязджае на сустрэчу. Да слова, адна з апошніх паездак напрыканцы вясны была з выпадку выхаду яшчэ аднаго паэтычнага зборніка пад назвай "Краявід". Несумненна, што свежыя вершы парадуюць чытача, а калі ўлічыць рукапісы аўтара, што томяцца ў стале, то хо-

чацца гаварыць пра доўгае і плённае жыццё творцы. А гэта прысвячэнне паэту на свята:

Шмат фантастычных і строгіх акон
Спяць,
Як нямыя гратэскі.
З Голубам можна не думаць, што ён –
Слаўны паэт гарадзенскі.

Будзе ў вачах шмат узвышаных дзён,
Стануць янтарнымі смолы.
Помніцца толькі заўсёды, што ён
На Беларусчыне – Голуб.

Не патрыёт на прыступках, але
З праўды, любові і болю.
Чым ад Каложы і Зэльвы далей,
Успамінаюць іх болей.

*Пад раніцу*

Чатыры гадзіны ночы. Восеньскай. Чытаю апавяданне Леаніда Дранько-Майсяюка “Анёлак і я”. Нібыта гэта адно з лепшых апавяданняў сучаснай беларускай літаратуры. Можа і так. Таму чытаю доўга, а па радыё гучаць песні на роднай мове. Уперамешку думаю пра цябе, Юрка. Хочацца патэлефанаваць, але трубку, напэўна, падыме жонка. Эгаістычна, толькі было б добра, каб і ты не спаў. Напэўна, да твайго свята я мог бы зрабіць штосьці большае, чым не спаць і думаць пра цябе. Таму насуперак усяму набіраю гродзенскі нумар, каб павіншаваць цябе з днём нараджэння…

Пустая бутэлька ад “Дарыды”, трэснуўшы пад нагой у цішыні, вяртае да апавядання. Як важна, што я аўтара бачыў, гаварыў з ім, а цяпер на краі Беларусі чытаю яго твор. А яшчэ важней, што ты, галубіная душа, ёсць у мяне

шмат часу і застанешся са мной, як узыдзе сонца і я буду клапаціцца пра іншае. Тады можна сесці ў аўтобус і паехаць насустрач твайму святу…

Апавяданне дачытаў. І запісваю пачутае: ратунак ад старасці – у храстве паводзінаў, у сціпласці. Вось цяпер усё. Няхай усходзіць сонца. Я гатовы.

Па радыё льецца “Залатая восень”. Ні слова пра паэзію. Толькі што на пытанне “што робіш?” ты адказаў: ”Сяджу на кухні і пішу лозунгі”. У гэтым ты ўвесь, філосаф з вялікімі добрымі вачыма. У гэтых словах твая заўсёдная патрабавальнасць да сябе. І ні на адну старонку тваіх кніг не мог праслізнуць збіты штамп, тым больш штосьці лозунгавае. Адсюль – удалы начны гумар, а мне – вучоба.

Нарэшце, і Баярскі са сваімі “кляновымі лістамі”. Камфорт парушаны. А ў цябе сёння свята. Яно, як восень, што стала за акном, светлае, надзейнае і вельмі да месца. Баюся цябе перахваліць. Але гэта пры ўсім увогуле немагчыма ў гаворцы пра вершы Юркі Голуба.

## Вяртанне Алены Руцкай

Толькі сама Алена Вітальеўна Руцкая ўнесла яснасць на прадмет месца свайго нараджэння. Розныя крыніцы называлі то Слонім, то вёсачку Дзякаўцы, што на Шчучыншчыне, а на самай справе быў панскі фальварак убаку ад населеных пунктаў, які, па словах паэтэсы, напэўна, ад сталыпінскай рэформы дажыў да сярэдзіны мінулага стагоддзя.

**П**ра радзіму пісьменніка трэба размаўляць на яго мове:

Не хаджу па сваіх слядах,  
Не наведваю, не прыязджаю.  
Край дзяцінства, мой сіні птах,  
Успамінам цябе пакідаю…  
…Там плюскоча мая Тур'я  
Ў ціхай засені вербалозу…

Сапраўды, ехаць не засталося куды. Хіба ў Шчучын, куды яе бацька Віталь Іосіфавіч, будучы на службе ў лясніцтве, нярэдка браў дачушку з сабой пакаштаваць марозіва. Ці хоць у бліжэйшую Ражанку. А прыехалі Руцкія і пасяліліся ў былым панскім маёнтку дзякуючы іх радаслоўнай, якая цягнулася па лясніцкай справе. Нібыта даўняга Міхала з "Новай зямлі", кідаў лёс па Прынямонні і сям'ю Руцкага. Ужо не стала гаспадыні фальварка пасля апошняй вайны,

а пабудова з калонамі ля ўваходу і прыгожымі алеямі прытуліла на нейкі час работніка лясніцтва, жонку-настаўніцу і маленькую Аленку. Некалі да вайны пані вяла навучанне дзетак сваіх і з прылеглых такіх жа фальваркаў, цяпер Аленчына маці Зоя Карнееўна, матэматык па адукацыі, стала вучыць з дзясятак малодшых школьнікаў. Дачка, як належала, пачала чытаць вельмі рана, а складаць вершыкі – ці не тады, як пачала гаварыць. Потым у пяты клас Алена то ішла пешшу, то ехала веласіпедам у Ражанку з год. Затым лёс зноў паклікаў у дарогу. І надоўга. Яе шлях да цяперашняга Гродна пралёг праз Слонімшчыну і сталіцу. І дасюль слонімцы лічаць паэтэсу сваёй, запрашаюць на сустрэчы, на ўспаміны пра юнацтва: столькі Алена Руцкая прысвяціла сваёй душэўнасці гэтаму краю ў вершах і падчас школьных заняткаў – яна ж тут доўга і плённа настаўнічала.

**Г**олас Алены гучыць у слыхаўцы нават маладзей, чым дваццаць гадоў назад. Ці не столькі часу мы не бачыліся пасля сустрэч то ў Доме Элізы Ажэшкі на пісьменніцкіх сходках, то на якім з заводаў, то ў музеі Максіма Багдановіча пад апякунствам Дануты Бічэль. Помніцца, перад выступленнем звычайна Алена Руцкая брала паўзу, уваходзіла ў паэтычны вобраз, стварала для сябе і слухачоў адпаведную атмасферу. Адзін з яе асноўных і, напэўна, любімых паэтычных зборнікаў “Роздум” дакладна перадае (нават назвай) асноўны напрамак яе творчасці – эстэтычнае сцверджанне маральна-этычных каштоўнасцей праз асабісты вопыт і роздум.

Сама ж Алена з асаблівым замілаваннем ставіцца да далёкіх студэнцкіх гадоў, калі вучылася на філалагічным факультэце сталічнага ўніверсітэта. Менавіта там дзякуючы непасрэднай творчай літаратурнай атмасферы яна рана далучылася да па-

этычнага слова, а аб'яднанне "Узлёт" дало магчымасць пабачыць і паслухаць такіх слынных карыфеяў беларушчыны, як Іван Навуменка, Ніл Гілевіч, Алег Лойка, Вячаслаў Рагойша і іншых славутасцей.

– А што для нас азначала сустрэча з ужо вядомым на той час Уладзімірам Караткевічам! – свецяцца захапленнем вочы Алены Вітальеўны. – Маладыя, мы не да канца спасцігалі сэнс яго павучальных слоў, але што яны шмат у чым сталі абавязковымі для далейшага шляху многіх з нас, студэнтаў, – адназначна.

Тады ж пашанцавала юнай паэтэсе пабыць на злёце маладых літаратараў з усяго Савецкага Саюза ў Ерэване. І там яе чакала творчая знаходка, бо пасля, вярнуўшыся, паспрабавала заняцца перакладамі на родную мову. Гэтая праца няспешна цягнецца па сённяшні дзень. Асабліва ёй імпануе ўкраінская паэзія.

Ды што казаць: аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў, Выдатнік народнай асветы, Заслужаны настаўнік Беларусі, дацэнт кафедры Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы, Ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі, сябра рэдакцыйнай рады часопіса "Беларускай мова і літаратура". І ўсё гэта – Алена Вітальеўна Руцкая, наша зямлячка. Пад сотню артыкулаў і кніг напісала яна на тэмы выкладання беларускай літаратуры ў школе. Яе метадычнымі напрацоўкамі актыўна карыстаюцца шматлікія педагогі-моваведы. І, каб быць да канца справядлівым, трэба яшчэ раз вярнуцца ў мінулае, калі адзін з дзядоў Алены працаваў загадчыкам дзіцячага дома. Менавіта адтуль выкрышталізавалася дынастычная лінія педагогаў. Сціплую, тактоўную, уважлівую выкладчыцу ва ўніверсітэце любяць студэнты, яе шануюць і паважаюць у навуковых кругах. Даследчая праца вымагае раз за разам адведваць Нацыянальны

інстытут адукацыі ў сталіцы, і памежна-адукацыйны праект супрацоўніцтва Беларусі з Прыбалтыкай таксама кліча ў дарогу.

На працягу творчай дзейнасці Алена Руцкая з асаблівым пачуццём звяртаецца да мінуўшчыны свайго краю, дзе нарадзілася і знайшла спачын Алаіза Пашкевіч (Цётка), дзе правяла амаль усё жыццё Эліза Ажэшка. Тут, у Гродне, некаторы час жыла вядомая польская пісьменніца Зоф'я Налкоўская. І Алена Руцкая піша:

О, пані Зоф'я, хіба толькі сны
Нам прыбліжаюць мройную сустрэчу,
Пастукайце ў акенца, як у вечнасць,
І голас адгукнецца з даўніны.

Роздум паэтэсы глыбокі і зразумелы. Педагог па жыцці, не магла яна не пісаць пра дзяцей і для іх. Крытыка адзначае, што паэтэса цудоўна валодае гумарыстычным словам у сваіх байках і гумарэсках. З асаблівай замілаванасцю піша яна пра сваю маленькую радзіму.

– Што можа быць мілей за ўспаміны пра дзяцінства. Здаецца, я ўсё жыццё хадзіла такімі сцежкамі і дарогамі, каб сустрэча са сваёй радзімай надарылася святочнай і душэўнай на яве і ў вершах, – разважае Алена Руцкая. – А Дзень беларускага пісьменства ў Шчучыне – вышэйшы знак удзячнасці майму краю, яго творчай і адукацыйнай гісторыі.

# Высокі Куцы Лес

З самага пачатку сваёй творчай дзейнасці Ганна Скаржынская-Савіцкая абрала для сябе на першы погляд просценькі і даступны жанр літаратуры – казку, маленькае апавяданне. У літаратуразнаўстве яго называюць малой прозай. Разам з тым гэты жанр патрабуе гранічнай сканцэнтраванасці думак, падзей і вобразаў. І наша аўтарка знаходзіць выйсце найперш у выкарыстанні мясцовага матэрыялу, таго, які найлепш знаёмы з дзяцінства.

Так са старонак кніг землячкі паўстаюць вобразы суседзяў і знаёмых, нават уласных дзяцей. Праз іх словы, учынкі, перажыванні ў апавяданнях-мініяцюрах вымалёўваецца перад чытачом лёс яе роднага куточка, што завецца таямніча і, на першы погляд, нават дзіўна – Куцы Лес. Але ж гэта не далёкая Поўнач і нават не Палессе, а наша Шчучыншчына, непадалёк ад Новага Двара, дзе нарадзілася будучая аўтарка цяпер ужо васьмі кніжачак для дзяцей.

– Дзіўна, але пачала я пісаць казкі як бы па патрэбе, каб сваім маленькім дзецям потым расказваць, – проста прызнаецца Ганна Скаржынская-Савіцкая перад тэлекамерай ці падчас сустрэч з чытачамі. – Склала адну, другую. Нібы атрымліваецца. А ў 2008 годзе

з'явілася і першая кніжка для дзяцей пад назвай "Вечарынка".

Але спачатку быў Куцы Лес, пра які расказвае ў апавяданні сваім унукам дзядуля. Ён памятае і вялікія лясы па наваколлі. Нейкія гістарычныя падзеі звялі іх ушчэнт. Падняліся бярозкі-самасейкі, але не ў прыклад старажытным дубам і соснам. Адным словам, слабенькі, нізкарослы, куцы лес пайшоў. Адсюль і вёсачка Ганны атрымала назву. Дзецям цікава і важна ведаць, чаму так здарылася. А Ганна са сваімі равеснікамі бегала ў суседнія Танявічы асвойваць школьную навуку. А ў Новы Двор за сем кіламетраў ішла яна, святочная, са сваімі бацькамі-сялянамі да касцёла, каб далучыцца да духоўных каштоўнасцей, налюбавацца таямніча-зіхатлівымі сценамі, запомніць усё і расказаць у апавяданні пра Навадворскі касцёл.

Па дарозе, у Грамках, стаяў і стаіць Невядомы салдат. У яе апавяданні "Помнік" маленькаму сыночку-хлопчыку ой як не хацелася рана ўставаць, ісці на мітынг з кветкамі. Але пісьменніца "ўгаворвае" хлапчаня, і тое, глянуўшы ў вочы салдату, пачынае ўсведамляць трагізм вайны, што адбылася на нашай зямлі, а пасля мітынгу з кветкамі ў руках вяртаецца на веласіпедзе да помніка. Просценькі сюжэт апавядання нясе грунтоўную пазітыўную нагрузку, выхоўвае юнае пакаленне. Далей аўтарка, як бы за ручку дзяцей, вядзе нас у Астрыну, у музей Цёткі. І там мы на гэты раз праз дзіцячыя душы адкрываем для сябе знакавыя мясціны, слаўныя гістарычныя падзеі Шчучыншчыны.

Пісьменніца з добрым намерам, наўмысна ўводзіць у творы тапанімічныя назвы свайго краю, шматлікія беларускія словы і паняцці, знакамітыя імёны людзей дзеля ўзбагачэння слоўнікавага запасу, інтэлектуальнага развіцця юнай асобы: Сёмуха, Божае Нараджэнне, барока, Ігнат Буйніцкі. А маці кажа

свайму дзіцяці: ”З даўніх часоў людзі верылі, што касцельны звон адпужвае хваробы і выганяе злых духаў з мясцовасці...” Цыкл твораў “Кветка маёй радзімы” амаль цалкам прысвячаецца мясцінам дзяцінства.

Да гэтага была вучоба будучай пісьменніцы ў зусім не профільнай для лірычнай натуры ўстанове -- хіміка-тэхналагічным тэхнікуме, потым праца на адным з заводаў Гродна. Выраслі два сыны, з імі “станавіліся на ногі” новыя сучасныя сюжэты яе кніг.

– Бо трэба, каб сённяшнія дзеці маглі сустрэцца на старонках і з камп’ютарам, і з дэтэктывамі, і з прыгодамі, – разважае Ганна Іосіфаўна. – Трэба вяртаць маладое пакаленне да кнігі. Трэба.

Яе намаганні ў гэтым плане заўважаны і ўхвалены. За кніжкі “Надзейка-чарадзейка”, “Казкі-чамучкі”, “Ваверчын чаравік” Ганна Скаржынская-Савіцкая атрымала прэмію А.І. Дубко як сведчанне працы на карысць выхавання падрастаючага пакалення. Наша зямлячка здзівіла чытача і ў справе ілюстравання сваіх кніг, бо дзіцячае выданне не можа быць бляклым і панурым. Амаль усе свае кніжкі яна жывапісна аздабляе ўласнымі малюнкамі. На Дні беларускага пісьменства ў Шчучыне ёй сімвалічна ўручылі Дзяржаўную прэмію за літаратурную дзейнасць.

А Куцы Лес абавязкова вырасце ў прыгажуна. І будзе сніцца пісьменніцы вёсачка з такой назвай усё жыццё, каб паўставаць на старонках кніг з яе руплівымі і добрымі людзьмі.

***

**З вялікай прыемнасцю** ўспамінаю часы, калі ў знакавых мясцінах сустракаўся з “маладосцеўцамі” – Алесем Камароўскім, Казімірам Камейшам, Генрыхам Далідовічам. Цяпер у сталіцы бываю рэдка.

Жыву ў цікавейшым краі – прыгранічча: курсірую, так бы мовіць, амаль па ўсім гарадзенскім краі. Мне б яшчэ зялёную форму пагранічнікаў – і можна залічваць ў штаты.

А лётчыкам у Шчучыне я не стаў. Хоць знаходзіцца на адной шыраце з небам – вялікая радасць. Хоць цераз дождж, снег і сонца, хоць цераз вочы і мроі. Хоць пры дапамозе вершаванага радка.

***

**Пісьменнік Аляксей Карпюк** быў заўсёды арыгінальным у гаворцы. Аднойчы, праводзячы экскурсію па доме-музеі Элізы Ажэшкі, кажа свайму калезе Івану Чыгрынаву: “Яшчэ ў 1910 годзе яна здагадалася памерці…” І што было рабіць экскурсантам – плакаць ці смяяцца?

## Начны канцэрт

Шкада, што яго не чуеш ты. А можа, я памыляюся? Тады гэта – свята. Без шыкоўнага стала і без пустых тостаў. І чым больш праходзіць часу, тым яскравей верыцца, што ты сапраўды не спіш. Як і я. І ўжо губляешся, якім вершам завяршыць сваю самую новую кніжку. Каб, не дай Божа, не здарылася лозунга. Ты гэтага найбольш асцерагаешся. Хаця навошта табе баяцца сонца, неба, сяброў, калі яны з табой, калі яны без цябе – ніхто і нішто!?

Але пра свята. Напэўна, зашмат пабочных слоў у тэксце. Напэўна, ты гэтага наогул ніколі не прачытаеш. Чаму мы баімся сказаць, што чалавека любім? Што, прынамсі, з дапамогай мноства пабочных слоў я і раблю. Не сплючы і баючыся спыніцца пісаць, бо заўтра, магчыма, будзе позна.

# Вернасць паланэзу

## *Крынічныя вочы*

**Я** абыходзіў палац знадворку – гэта быў прадначны рытуал. Да юбілею горада вакол княжай рэзідэнцыі дадаткова замацавалі ліхтары-пражэктары, і іх святло, чыста белае ці з аранжавым адценнем, накіраванае пад рознымі вугламі на цокальныя і вышэйшыя вокны, надавала палацу грандыёзнасці і казачнасці. Затое глядзець з акон вонку стала немагчыма: пражэктары сляпілі, лезлі ў вочы фізічна і таму варыянтаў штонебудзь убачыць не існавала.

– Я люблю вас у прозе, – стаяла ў вушах фраза, пачутая сёння ад адной жанчыны, з якой даводзілася працаваць на ніве адукацыі. Сказана нечакана, нават смела і вобразна. Гэтулькі гадоў яна захаплялася маімі вершамі. І на табе. Невялічкае эсэ, надрукаванае ў маленькай кніжыцы да юбілею горада, выклікала такі пачуццёвы эфект. Я падзякаваў жанчыне, а сам ледзь не паверыў, што мая маленькая проза амаль геніяльная.

Ліхтары стаяць вакол палаца па перыметры. Праўда, запальваюцца яны па чарзе. А сёння з заходняга і ўсходняга бакоў зусім цёмна. Дзвярэй у палацы ніколі не лічыў, але што яны ўсе павінны быць на ноч

ў парадку, ведаў строга. З яркага святла ў нейкі момант натыкаюся на сцяну цемені, і раптам перада мной выяўляецца мажная жаночая фігура. Мне б прыпыніць хаду, але разбірае цікавасць. І калі я пайшоў уздоўж самай сцяны, жаночы голас выдаў трывогу і страх: “Чаго вы ходзіце за мной? Буду крычаць!” Пра свае непасрэдныя абавязкі я не паспеў растлумачыць, бо жанчына знікла, як прывід.

Затое на прыступках уваходу ў палац з паркавага боку на фоне ўнутранага святла салонаў паказалася невысокая жаночая постаць у лёгкім прагулачным адзенні, нібы чалавек сабраўся на вячэрнюю праходку перад сном. Ад нечакасці я выхапіў з кішэні ліхтарык, але прыемнае лірычнае сапрана апярэдзіла мяне: “Святла не трэба. Мы пагаворым у палацы. Заходзьце праз цэнтральныя дзверы, а я тут…” І яна лёгкім крокам накіравалася да бліжэйшага ўваходу. Дзверы, праз якія жанчына збіралася трапіць ў палац, амаль ніколі не адчыняліся, бо не было такой патрэбы, бо вялі яны некалі ў тэрасны парк, якога ўжо даўно няма, на месцы яго – пяціпавярховікі. Маёй незнаёмцы, аднак, дзверы і не спатрэбіліся. Пакуль я бег вакол палаца, яна перайшла праз малую залу той жа прыўзнятай хадой, і мне нічога не заставалася рабіць, як назіраць за ёй праз шкло ўваходных дзвярэй. Хто тут цяпер за гаспадара, стала невядома.

Жанчына не павярнулася на мой прыход. Яна стаяла, прытуліўшы лоб да сцяны, плечы яе ўздрыгвалі, яна плакала. Але літаральна праз хвіліну плаўным рухам невысокая брунетка павярнула твар да мяне. Адно пышныя  чорныя валасы, сабраныя ў пышны хвосцік, на імгненне затрымаліся ценем на сцяне. На выгляд ёй было не больш за пяцьдзясят. Пакуль яна сур’ёзна маўчала, я ліхаманкава імкнуўся прыпомніць, хто гэтая загадкавая жанчына. Аж па-

куль па кругленькім сімпатычным тварыку не прабегла ўсмешка. Дзіўна, але ўсмешка звычайна надае твару крыху маршчынак, тут жа ўсё наадварот. Ледзь прыкметныя складачкі ля вялікіх цёмных вачэй і ля вуснаў імгненна разгладзіліся. І ёй стала не больш за трыццаць. Пра такіх мужчыны кажуць: “Напачатку маладосці вы,напэўна, здзіўлялі сваёй прыгажосцю і доўгія гады выводзілі хлопцаў з розуму”. А мне чамусьці прыпомнілася, што дакладна такую ж фразу часта казалі маёй маме, і я, падлетак, гэтым таемна ганарыўся. Прыпомнілася, а жанчына прамовіла:

– Я – Марыя, жонка апошняга шчучынскага князя Уладзіслава Друцкага-Любецкага, мы жылі тут. А па Заходняй Еўропе ўжо каціласа вайна. Не верылася, што толькі скончаны з вялікімі намаганнямі палац трэба было пакідаць невядома каму і на колькі часу.

**Я** прынёс для княгіні крэсла, асмялеўшы пакрысе, паімкнуўся запаліць сучасныя жырандолі, але Марыя зноў забараніла падаваць святло, села, паклаўшы нага на нагу.

– Графы Сцыпіёны – мае продкі, і бацькі жылі ў Шчучыне. У мінулым валодалі тутэйшымі землямі. І мы з Уладзіславам пасля заняткаў у калегіуме беглі сюды ў парк. Тут раслі пераважна замежныя кусты, дрэвы, нам незнаёмыя, а я любіла бярозу, асабліва, калі вясной распускала яна свае званочкі-завушніцы. Уладзіслаў за мяне старэйшы на тры гады, і на вакацыі яго ўжо бралі і везлі ў Кракаў. Тады я сумавала невядома пакуль ад чаго, сядала пад тонкі высокі граб, бо ён напамінаў мне юнага Уладзіслава.

Аднойчы да прыступкаў іхняга палаца пад’ехаў белы бліскучы лімузін. Праз заднія дзверцы выскачыў шчаслівы Уладзіслаў. Яшчэ праз колькі часу князь катаў мяне на той дзіўнай шыкоўнай машыне. А па Еўропе ішла вайна.

Княгіня ўстае і імкліва, нібы подбегам, пераходзіць у вялікую залу з дубовымі, пацягнутымі лакам, сценамі. Яна прыкладвае, як і колькі хвілін назад, лоб да сцяны, стаіць адвярнуўшыся ад мяне, толькі пышны чорны хвосцік прычоскі ўздрыгвае і паказвае, што жанчына ў глыбокім роздуме.

**А**ле з ніадкуль у голасе княгіні бярэцца радасць.

– Я з дзяцінства вельмі люблю крыніцы, па-святому веру іх чысціні і праўдзівасці. Асабліва шмат іх выцякала з зямлі на квяцістым лузе, дзе сёння ваша возера. Яны пачыналіся з узгоркаў, беглі ў нізіны, нават на дне цяперашняга вадаёма яны, напэўна, жывуць і да сённяшняга дня. Па акрузе мы з Уладзіславам іх налічвалі каля дваццаці і ўсе імкнуліся ахапіць сваім чалавечым клопатам. Адразу за мястэчкам цякла з лесу вузенькая Тур'янка, у некаторых месцах яе мы пераскоквалі і ішлі да магутных дубоў. Уладзіслаў, прытуліўшы да аднаго з іх слупкі, адгарадзіў са слугамі сапраўдную тэрасу ці альтанку, якую нават зашклілі. Зверху крытая, яна часта нас бараніла ад дажджу і ветру. Ужо мы былі мужам і жонкай, а дзіцячыліся штодзень тут, у дзікай альтанцы.

– Пшэпрашам, – спахапілася Марыя, – што так адкрыта, але вы свой чалавек. Я падарыла б вам гэты палац, толькі ён і мой, і не мой.

У яе вачах сум. Адзінота робіць чалавека аддаленым ад рэчаіснасці, нават нелюдзімым. І я прадугадваю настрой Марыі. Уладзіслаў месяцамі прападаў у Польшчы, за мяжой. Ягоны занятак вымагаў таго: машыны, таргі, гонкі і яшчэ невядома што.

Аднойчы ў той самай альтанцы Марыю пацалаваў стрыечны брат мужа. "Што гэта значыць, пан Марэк?" – яна не магла самкнуць вуснаў пасля доўгага ўзаемнага пацалунку. "А гэта значыць, што я цябе кахаю і з дня на дзень мне прышлюць позву ў войска польскае, значыць,

на вайну". К гэтаму часу Уладзіславу было ўжо не да жыццёвых спраў: вайна, Марыя, палац. Яго застрэлілі такія ж самыя аматары дарагіх лімузінаў яшчэ перад Першай Сусветнай вайной, а Марыя не магла нічога адказаць чалавеку, якога таксама, здаецца, кахала. Яго жонка – гарадзенская оперная спявачка. Марыя яе занадта паважала, каб сказаць Марэку чыстую праўду. А ён так і не вярнуўся з войска, з вайны.

– **Р**одныя, мілыя... – яе рукі немачна кладуцца на высокую маўклівую сцяну. – Памятаю, як дабудоўвалі палац. Ужо не спатрэбілася вузкакалейка, бо асноўныя цяжасці сталі сценамі, столямі, прыступкамі, калонамі. Праз дарогу працавала лесапільня – наша асноўная матэрыяльная падтрымка. І раптам не стала надзеі зусім: вось-вось немец пяройдзе польскую мяжу. З усходу ўшчыльную  падышла Чырвоная Армія, якая мела свае намеры. Не паспелі мы з Уладзіславам выгадаваць дзяцей у прыгожым светлым палацы, не змаглі нарадавацца пахам акацый і бэзу. Трэба было збірацца ў далёкую дарогу.

Марыя зноў імкліва, нібы таго вымагаў неспакойны чорны хвосцік, пераходзіць да дзвярэй, высокіх, асветленых пражэктарамі, дакранаецца рукой да халоднага восеньскага шкла. Упершыню я так яскрава пачуўся палоннікам далёкіх і блізкіх падзей, хоць, здавалася, быў гатовы да ўсяго. Цяпер патыхала трагізмам, незваротнасцю чалавечага жыцця. І я як бы стаў бездапаможным дзіцянём перад гэтай жанчынай, уявіўшы, як князі расставаліся з роднымі сценамі, едучы ў невядомае, па-сутнасці, насустрач вайне. Марыя не шкадуе шыкоўных лімузінаў, яна плача па садзе, парку, касцёле, які цяпер званіў асабліва сумна і трывожна. Яна гаворыць з моцным польскім акцэнтам на беларускай мове, з вуснаў парой зрываюцца хіба што англійскія словы. На дол падаюць, напэўна, гарачыя,

як вуголле, слёзы, і я думаю, што скажу заўтра пра апалены паркет. А ў самаго нібы назаўсёды засеў даўкі камяк у горле. Князёўна парываецца выйсці на свежае паветра і натыкаецца глянцавымі боцікамі на вазоны кветак, якія я толькі што ўнёс нанач з двара. Хачу ёй дапамагчы і баюся дакрануцца да белай блузкі з карункавымі нашыўкамі ля запясцяў. Ад яе пахне – о дзіва! – вясновымі капяжамі, лясным водарамдурманам. І гэта ў верасні. І гэта праз столькі гадоў.

**У**сё ж яна падае мне руку, каб сысці па даўніх знаёмых прыступках. Пальчыкі халодныя, але даверлівыя і спакойныя. І я спыняюся на прыступках, каб паглядзець жанчыне ў вочы. Яны пужлівыя, падобныя на крынічку, якая толькі што нарадзілася на свет. Яны пазіраюць на мяне крыху спалохана, але, калі глядзяць, робяць тое цёпла і аддана. Яе зацікавіў адзінокі чалавек, што начуе ў палацы разам з яе маўклівымі сценамі, якія яна хвіліну назад слухала праз шмат гадоў, напэўна, усё ж чуючы, пра што яны маўчалі. І вочы Марыі яшчэ больш глыбелі, аж я баяўся таго начнога віру. Вочы станавіліся крынічнымі. Лёгкая паходка і хвосцік валасоў, які пры гэтым, нібы арэлі, рытмічна плыў злева направа і справа налева, яе з кожнай хвілінай маладзілі.

Княгіні, як і мне ўжо, не падабаецца гэтае назойлівае, паўзучае па сценах святло, яна адыходзіць за ліхтары далей, да раяля, што пейзажна імітуе сучаснае жыццё. Потым нахіляецца і кладзе на клавішы тонкія далікатныя пальчыкі. Нарэшце, чорны хвосцік прычоскі ўзлятае ўгору, а лёгкія рукі ў другі раз, услед за рухам душы, апускаюцца на клавіятуру. З прыступкаў чую набліжэнне нясмелых гукаў паланэзу, пакуль на ўзрывістай, гарачай, слёзнай хвіліне развітання з Радзімай Марыя не знікае. І я прытуляюся разгарачаным ілбом да белай і халоднай, як снег, калоны.

– **Я** хачу падабацца вам у прозе, – камусьці шапчу я. Сёння мне можна ўсё і ўсё забаронена. А я хачу падабацца ў прозе і Марыі, хачу, каб мой тэлефон не маўчаў, каб ваш тэлефон азваўся. Сцены гэтага палаца заўсёды прагнуць голасу, бо яны столькі часу стаялі нямымі.

Фартэпіянная музыка дзесьці на беразе аціхае, і па вулічным пераходзе, прапусціўшы некалькі начных машын, да возера імкліва, нават на імгненне адрываючыся ад зямлі, ідзе Марыя.

– Я пазычу ваш парусні́к, што стаіць ля берага, усяго на адну ноч, – чую яе голас у сваім мабільніку. – Заўтра ён будзе на месцы, а мне трэба па Тур'і, потым па Нёмане, па моры і па бясконцым сінім акіяне даплыць да сваіх Штатаў, дзе яшчэ і сёння бушуе ўраган "Ірма".

– Шчаслі́ва, Марыя! – хутчэй у ноч, чым у свой стогадовы "Нокіа", крычу я ёй услед.

*Вяртанне*

Я даўно не бачыў зоркаў. Днём яны не гараць, а ўначы ля палаца настолькі яркае святло ліхтароў рознага кшталту, што цёмнае неба апускаецца проста на кроны дрэў, і нябесных свяціл не ўгледзіш. Так было і сёння. Вышэй другога паверху пазіраць дарма. Але вось на заходнім боку палаца, амаль пасярод прадаўгаватай сцяны ў адным з вакон кінулася ў вочы дзіўная з'ява: за шклом мітусіўся агеньчык. Не роўнае электрычнае святло, нават не тэлевізійнае ці камп'ютарнае, а сполахавае. Такое ідзе ўночы ад кастра ці ад свечкі.

Падымаюся па лесвіцы на другі паверх. Крыху дрыжаць ногі, і насок чаравікаў раз за разам чапляецца за край прыступкаў. Невядомасць пасярод ночы заўсёды палохае, але яшчэ больш штурхае загадкавасць і жаданне патлумачыць сітуацыю. Нарэшце, перада мной дзверы, якія вядуць у пакой, адкуль свяціўся загадка-

вы агеньчык. За высокімі дзвюма створкамі пануе абсалютная цішыня. І рука, хоць і трасецца па-здрадніцку, устаўляе ў прыцемку ключ у замок. Як знарок, хтосьці зачыніў, адыходзячы, дзверы на двайную зашчоўку, і шуму – на ўвесь палац. Пры тым сэрца стукае яшчэ гучней. Усё, адступаць няма куды. І я рэзка цягну ручку на сябе.

***

Першае, што бачу, – залаты эпалет на левым плячы чалавека ў мундзіры. Ён вольна сядзіць насупраць уваходу і мяне, ля шафаў, якія перагароджваюць вялікі кабінет. Потым я бачу сябе ў высокім люстэрку і крыху супакойваюся – значыць, жывы. У пакоі стаіць тое пужлівае святло, што прыцягнула маю ўвагу знадворку. Тры доўгія таўставатыя свечкі трымаюцца ў высокім падсвечніку і асвятляюць стол, днём за якім звычайна сядзіць праграміст Пятровіч. Цяпер – вось гэты ці не генерал. Я штораз заходзіў сюды, прыступаючы да начной службы, бо пакідаў тут сякія-такія прыналежнасці, але ж ні разу нікога не заўважаў у гэткі час.

Чалавек уважліва глядзіць мне ў вочы. Цёмныя валасы рэдкімі пасмамі спадаюць на высокі адкрыты з вялікімі залысінамі лоб акруглага маладжавага твару. На губах ледзь прыкметная лёгкая ўсмешка… У памяці ўсплывае партрэт, не раз бачаны ў музейным пакоі палаца. О, дык гэта ж князь Францішак Ксаверый Друцкі-Любецкі, XVIII–XIX стагоддзі!.. Яркі прадстаўнік роду Друцкіх… Вось дык сустрэча!

Ліхаманкава шукаю, што сказаць, і адчуваю сябе недарэчна:

– Князь, вы не ў сваім салоне…

– Там занадта яркае святло з вокнаў, няўтульна.

Ля стала загадзя падрыхтаванае, падумалася, што для мяне, крэсла, на стале, засланым дарагім

настольнікам, узвышаецца прыгожы плецены кошык, поўны баклагамі і рознай смакатой. На ўмоўны рух рукі па стале аднекуль з-за шафаў з’яўляецца слуга.

– Станіслаў, папрацуй дзеля нашай сустрэчы, – пакняжацку спакойна мяккім тэнарам прамаўляе госць (ці ўсё-такі гаспадар?).

– Але ж я на службе, князь…

– Тады я адзін, – падымае князь чамусьці гліняны кубак пеністага піва. – А вы паспрабуйце французскага вінаграду. Я ўжо з год хачу з вамі пагутарыць. Ведаю, што пра мяне і пра Друцкіх даволі шмат пісана і яшчэ больш гаворана. У шматлікіх здагадках вы і вашы сучаснікі дапускаеце нямала фактычных памылак.

– Вы патрыёт, – пачаў я здалёку. – Любіце Вялікае Княства Літоўскае, а служыце Царству Польскаму і расійскаму цару. Робіце гэта толькі таму, што былога княства ўжо проста не існуе?

– Разбіраўся з гэтым пытаннем усё сваё жыццё, пачынаючы з таго часу, як дзед маёй княгіні Марыі Мікалай Фаусцін Радзівіл, мечнік вялікі літоўскі, ваявода Наваградскі, генерал-лейтэнант на тэрасе свайго маёнтка ў Шчучыне распавядаў пра вялікіх князёў Усяслава-Чарадзея, Кейстута, Войшалка, Вітаўта і іншых. Ён жа аўтар некалькіх кніг па гісторыі. Гэта было ўжо пасля маёй адстаўкі са службы пад камандаваннем Суворава ў царскай арміі.

– А я якраз жыву на вуліцы імя гэтага рускага палкаводца, – уставіў свае пяць капеек я, каб хоць як прадоўжыць размову.

– Ведаю, такія вуліцы па ўсёй Беларусі, толькі не разумею, навошта яны нам, як бы гарадоў і пасёлкаў мала па Расіі. Служба ў Еўропе зрабіла мяне падданым Расіі, Польшчы і Прусіі, а сэрца і памяць належаць літоўскаму краю. Час на маю долю выпаў складаны і заблытаны. Дзялілі, перадзельвалі землі, межы, людзей.

Аляксандр I наклаў руку амаль на паў-Еўропы, у тым ліку і на Польшчу. Пасля адной з сустрэч ён і накіраваў мяне ў гэту краіну-суседку. Нялёгкая доля – служыць іншаму народу, – князь у пацверджанне сваіх слоў хітае галавой, і ад гэтага руху лёгка звякнулі важкія ордэны, што звісаюць на лентах з шыі на грудзі.

Я раптам разумею, чаму быў такім высокім шыты срэбрам цвёрды стаячы каўнер мундзіра: ён вымушаў уладальніка заўсёды высока трымаць галаву. Гэта здагадка дапамагла мне пачуць сябе крыху вальней і ўжо з меншай насцярожанасцю слухаць князя.

– Разам з Міхалам Агінскім – вам, канечне ж, вядомы гэты кампазітар, – мы думалі аднавіць ВКЛ. Няхай сабе пад царскім крылом, але якраз гэта давала спадзяванне. Планавалася ўтварыць з Гродзенскай, Віленскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай губерняў і іншых земляў асобную правінцыю пад назвай Вялікае Княства Літоўскае з галоўным горадам Вільняй. Меліся прызнаць Статут княства 1588 года. Падрыхтавалі праект аднаўлення, распрацавалі на паперы дзяржаўныя структуры, пазначылі межы, сацыяльныя і культурныя асновы, юрыдычныя і эканамічныя палажэнні... Аднак к гэтаму часу цар пасварыўся з Напалеонам, і наша праца канула ў лету. Аўтаномія Літвы не адбылася. Імператар, аднак, аказваў мне, літоўскаму двараніну, усялякую падтрымку як міністру фінансаў Царства Польскага, і толькі гэта ратавала ад зайздроснай мясцовай шляхты.

На нейкі час князь змаўкае, тонучы ў сваіх успамінах. Здаецца, я ведаю, аб чым ён зараз думае. І сапраўды, краем вока зірнуўшы, ці слухаю яго, князь са шкадаваннем, змешаным з пыхлівасцю – а можа так праяўляецца манера паводзін дзяржаўнага дзеяча пачатку XIX стагоддзя? – гаворыць аб тым, што яго ўспамінаюць пераважна толькі як добрага эканаміста

і фінансіста. І разумею, адкуль скруха ў голасе майго незвычайнага суразмоўцы – нямногім вядома, што Францішак Ксаверый Друцкі-Любецкі, будучы ў Вільна перад напалеонаўскай вайной, пры сустрэчы з генералам Барклаем-дэ-Толі адкрыта выступіў супраць экстраннага рэкруцкага набору ў літоўскім краі. Ён падказваў, што ў літоўскіх губернях панаваў дух, пры якім "навабранцы" будуць на баку французаў. Аляксандр І набор адмяніў і ўзнагародзіў князя за працу, зрэшты, той ў розны час і на розных пасадах умеў праявіць сябе заступнікам справядлівасці і гонару. Падчас паўстання 1830 года князь дабіўся апраўдання шматлікіх дэмакратаў з Польшчы і заходніх губерняў Расіі. Ён валодаў грунтоўнымі ведамі ў многіх абласцях навукі, распрацоўваў палажэнні заканадаўства. Пасля абмеркавання аднаго з яго праектаў у графе "за" прапановы Друцкага-Любецкага сваёй рукой імператар дапісаў "і я".

Князь у роздуме лёгка пацёр прыгожымі дагледжанымі пальцамі сівок.

– Ганаруся, што маю падданства ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Каралеўства Прусіі, Расійскай імперыі, – як бы сам для сябе працягваў ён, велічна выпрастаўшыся ў крэсле. – Мне ёсць чым ганарыцца. Друцкае Княства зарадзілася ад роду Рурыкавічаў. Яшчэ з 1144 года вядомы князь Глеб правіў у Друцку. На жаль, у выніку войнаў Друцкае княства перастала існаваць у XVI стагоддзі. Даражу таксама памяццю аднаго з дзядоў Марыі – Юзэфа Сцыпіа дэль Кампа – дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага, старосты Лідскага, маршалка надворнага літоўскага.

***

Князь прыпамінае, што былі тры цяжкія і напружаныя, але ж і цікавыя гады ў Францыі, дзе ён дабіваўся

крэдытаў для Польшчы, каб тая разлічылася з Расіяй. Пры гэтым князь арыстакратычным плаўным рухам прапануе мне бутэрброды на талерцы: чорная ікра на белым пахучым хлебе. Крэдыта атрымаць не ўдалося, але як дыпламат Друцкі вырас, і найбольш – у вачах імператара і княгіні Марыі. Паўсюль яна была побач з ім. Спынілася тады сям'я ў нумары непадалёк ад Эйфелевай вежы, яны мелі магчымасць з акна любавацца замкамі і саборамі. Аднойчы па справах князь трапіў ў прыгарад Парыжа, Версаль, рэзідэнцыю французскіх каралёў. Марыі, з яго аповедаў, вельмі спадабаўся Малы Трыанон. Яны толькі пакуль не ведалі, дзе яго паменшаны прататып збудаваць на Радзіме. А лёс склаўся так, што адбылося вяртанне ў Пецярбург. І пытанні будаўніцтва вырашалі ўжо іх нашчадкі, задумаўшы ўзвесці рэзідэнцыю ў гонар дзеда побач са старым будынкам палаца Сцыпіёнаў. Пасля ўсіх перамог і паражэнняў, радасцей і згрызот князь, адрынуты праціўнікамі яго занадта еўрапейскіх поглядаў, паміраў у адзіноце на берагах Нявы, а вечны спачын знайшоў непадалёку цяперашняга палаца, у фамільным склепе касцёла Святой Тэрэзы Авільскай.

***

Было відаць: князь думкамі і душой вярнуўся з дарог пад шчучынскае неба. Твар ажыў, яшчэ больш акругліўся і на ім цяпер назаўсёды, здавалася, лунала сяброўская ўсмешка без уставаў і атрыбутаў. Бо калі яшчэ мы сустрэнемся? Ён забыў пра эпалеты, пра шляхі, ён прысеў на радзіме адпачыць.

...Пасля цяжкай кантузіі ў Альпах трэба было выжыць. Маладое цела падпаручніка прасіла спакою і цішыні. Ён склаў сваю парадную амуніцыю ў паходны мяшок – не да красавання – у лёгкім сюртуку ехаў кібіткай праз Вільна ў свае валоданні, што пад Гарод-

няй. У галаве шумела ад доўгай дарогі. Ён ехаў у маёнтак роднай сястры Тэрэзы, якая яму настойліва, пажаночы ахоўна раіла кідаць службу. Князь за доўгае падарожжа многае перадумаў і, выходзіла, самым прыемным успамінам надарыўся смяшлівы, крыху гуллівы вобраз дванаццацігадовай Марыі, сястрынай дачкі, якая гадоў колькі назад тулілася ў яго на каленах, гуляючы з навюсенькімі аксельбантамі маладога афіцэра, заглядваючы ў вочы і блытаючы ягоныя валасы.

...З той пары прайшло два гады. Яго сустрэлі ля варот сястрынага маёнтка падгадаваныя ганчакі і, нібы пазнаўшы, завіхлялі хвастамі. І тут жа з дзвярэй выбегла, як і два гады назад, яна, Марыя. Вопытнае вока адразу ацаніла абставіны: дзяўчынка вырасла, чарнявыя доўгія валасы спадалі ручаінкамі з двух бакоў, абрамляючы прыгожы вытанчаны твар.

– Дзядзя Францішак, – вырвалася ў дзяўчынкі, але яна тут жа сумелася і не кінулася, як калісьці, да яго ў абдымкі. Стрымана падышла, пільна вывучаючы яго твар. І не ведала, як сябе павесці далей. І толькі, як у дзвярах паказалася маці, дзеўчынё, асмялеўшы, злёгку прытуліла галаву да яго пляча.

– Марыя, як жа ты вырасла і папрыгажэла, – прыпадняў ён дзяўчынін падбародак і чамусьці пацалаваў яе двойчы ў шчокі, дзе застылі дзве кругленькія слязінкі. Тэрэза абняла іх абаіх, Марыю і Францішка, якія разгублена стаялі рука аб руку. У яго ад эмоцый зашумела ў галаве і навакольны свет паглушэў. З аднаго боку Марыя, з другога сястра вялі яго ў дом, і выглядала тое вельмі і вельмі сімвалічна.

***

Рэдкае захапленне як для князя жыло на працягу многіх гадоў у Францішка Ксаверыя. Не паляванне, не балі, не рыцарскія баі, а ... грыбы. Ён любіў іх

збіраць на Палессі маленькім там, дзе нарадзіўся, ездзіў у польскую Белавежскую пушчу, якая была працягам ягонай. Слугі пра тое ведалі і пільнавалі, калі па лясах акажацца грыбніца. Пад канец таго лета пайшлі ў рост баравікі па барах ля Ішчална і проста за маёнткам. Князь, Марыя, некалькі хатніх слуг на гэты раз напаткалі грыбоў амаль праз некалькі сот метраў ад мястэчка. І кошыкі напоўніліся імгненна, нібы ў казцы. Настрой у грыбнікоў быў адзін на ўсіх, па-летняму светлы і бадзёры.  Але на сонечнай палянцы сярод бяроз ускрыкнула і заціхла Марыя. Князь кінуўся да дзяўчыны, яна сядзела прыкленчыўшы на адно калена, заціснуўшы левую руку правай. На твары застыў перапалох.

– Гадзюка, – са слязьмі на вачах, ні на каго не гледзячы, прамовіла яна. Князь амаль сілком выслабаніў левую руку Марыі. Ніжэй локця чырванела невялічкая плямка з пракусам. Ён прыпаў вуснамі да плямкі, пачаў высмоктваць. Адчуваючы, што час імкліва бяжыць, пачаў, амаль кусаючы зубамі, выціскаць магчымы яд. Страх, боль, перапалох ледзь не пазбавілі дзяўчыну прытомнасці. Тады мужчына, не чакаючы прыслугі, узяў  пляменніцу на рукі, пусціўся ў бок маёнтка. Мяккія валасы рассыпаліся па ягоным плячы і пахлі, кружылі яму галаву. І вось прыступкі дома. Хатні лекар жыў непадалёку. Ён увёў патрэбнае лякарства, халодныя прымочкі і настоі вярнулі Марыю да памяці.

–  Не баліць, толькі крыху пячэцца, – усміхнулася яна. А князь, здаецца, ніколі так не бегаў па Альпах, як толькі што ратуючы Марыю. І толькі ў горле яму крыху пярчыла.

Ён, не зважаючы на прыслугу, пацалаваў Марыю спачатку ў шчаку, потым у вусны. Усе выйшлі з пакоя, і ад пацалунка ў дзяўчыны зноў перахапіла дыханне. Як у лесе, колькі часу назад.

***

…Набліжаўся дзень нараджэння пляменніцы, вось-вось споўніцца чатырнаццаць.

– Я дарослая, я шчаслівая, я самастойная, – бегала дзяўчына па пакоях, заглядваючы кожнаму ў вочы. Калі пакоі канчаліся і бегчы не ставала куды, яна чмокала свайго Рэкса між вушэй і пыталася: “Ты разумееш мяне?” Сабака радасна скуголіў і атрымліваў ад гаспадыні пачастунак. Увесь дом жыў радасцю: вокны свяціліся асаблівымі блікамі, на сценах сонца малявала казачныя карціны, якія падабаліся найбольш Марыі, бо яна найлепш іх разумела.

– І толькі яго няма, – дзяўчына з разбегу кінулася на пухавікі. Усё ж слёзы радасці і шчасця – не слёзы горычы. Яна іх не саромеецца, па-дзіцячы расцірае па вейках і шчоках.

Вось і запальваюць ліхтары ў двары, ажываюць васковыя свечкі ў пакоях.

– Неяк дрыжаць яны не так, як заўсёды, – чуе маці таямнічы голас Марыі. Агеньчыкі нібы імкнуцца штосьці зразумець, хвалююца разам з юнай гаспадыняй А калі ўваходныя дзверы рэзка адчыніліся, агеньчыкі спрытна заскакалі на месцы, і сцены ад іх засвяціліся яшчэ ярчэй.

– Князь Францішак прыехаў! – адно што і сказала ахмістрыня на ўвесь будынак, і на парозе з’явіўся шчаслівы князь з ахапкам чырвоных ружаў. Гэткіх кветак хапала ў графскіх двары, але ж ружы Марыінага абранніка аднекуль здалёк і толькі ёй.

– Я спяшаўся на тваё свята з Пецярбурга. А кветкі з Вільна, каб не звялі. Марыя, я атрымаў дазвол Папы Рымскага на наша вянчанне.

Свечкі супакоіліся, іх вочкі сарамліва пaглядалі на маладых. Шчасце ўжо дыхала побач.

***

...Нечакана з другога канца пакоя, адкуль увесь час з'яўляўся Станіслаў, палілася знаёмая мелодыя. Апошнім часам там на адным са сталоў стаяў баян. Не вельмі класічна для гэтага інструмента, але гучала першая частка сусветна вядомага паланэза. І князь Францішак Ксаверый у думках прадаўжае свой юны лірычны, поўны надзеяў, жыццёвы шлях. Але вось другая частка твора ўжо патыхае альпійскай вайной, папярэджвае пра тое, што па дарозе сустрэнецца і абавязкова дасца ў знакі каменне, параскіданае папярэднікамі. Узвышана, кульмінацыйна, нават трагічна гучыць наступная частка паланэза, і князь уздрыгвае, нібы змагаецца і пераадольвае супраціўленне сваіх зайздроснікаў. Нарэшце, ён разумее, што зрабіў усё магчымае ў жыцці. Музыка супакойваецца, нават чуваць перабор кнопкаў пад пальцамі. Ай ды Станіслаў! Як глыбока і прачула ведае ён свайго гаспадара! Баян заціхае, князь вяртаецца дадому, застаючыся верным і сваім жыццёвым прынцыпам, і мудраму паланэзу вернага сябра Міхала Клеафаса Агінскага.

У цішыні нават чутно, як льецца чэшскае піва на дно глінянага кубка.

– Не, Станіслаў, нам пара, – па-вайсковаму рэзка ажыў князь Францішак Ксаверый Друцкі-Любецкі. І я, не пытаючыся ні аб чым, зачыняю за сабою дзверы і адзін раз паварочваю ключ, нібы ў надзеі хоць аднойчы яшчэ вярнуцца на тое пужлівае святло.

# Я

* Я доўга і нудна мог разбіваць сабе лоб аб цвярдыню банальных, прапісных ісцінаў жыцця і не чуць аніякай асалоды, бо адкрыцці не прыходзілі. Аж пакуль ты аднойчы не дакранулася да скамянелага твару мяккім промнем сваіх валасоў узыходзячага сонца.

І я паглядзеў, нібы ўпершыню, у люстра. Твар ажыў і мне захацелася быць прыгожым зараз жа і ўсяму адразу. Дзеля цябе…

* Я доўгі час не ведаў, аказваецца, што такое быць сляпым. Аж пакуль аднойчы ты не пачала цалаваць вочы мае. І яны пабачылі гэты шматколерны, дзіўны свет. Вось які ён! Вось ты якая! Таму мне цяпер вельмі балюча глядзець на малых кацянятаў, пакуль яны сляпыя.

* Доўгі час не любіў, нават цураўся рабаціння і радзімкаў на руках і твары. Сваіх я не бачыў, не хацеў прыкмячаць. Аж пакуль ты аднойчы іх па адной малюпасенькай не пералічыла, ласкава дакранаючыся падушачкамі сваіх цёплых мілых пальчыкаў. Цяпер яны мне сталі патрэбны як рукі, ногі, як вочы. І імі я крышачку, можа, больш ганаруся, чым усім астатнім.

* Узыходзіць сонца. Людзі спяшаюцца на працу. Ты ўсміхаешся. Праходзяць начныя страхі. І я супакойваюся.

## Крананне

* Калі ўсё навокал заціхае, можна падысці да Вашага стала. Падоўгу стаяць, маўчаць. На ім – паперы, канцылярская дробязь. Але дакранацца да чаго-небудзь мне нельга, бо на ўсім яшчэ цяпло Вашых добрых вачэй, напэўна, ласкавых рук. Так, бывае, канчаецца мой дзень і пачынаецца новы. З гэтай малітвы.

* Вы заўсёды шчыра і міла ўсміхаецеся. Аднойчы ў кабінет зайшоў Ваш калега па працы, і Вы тут жа павіталі яго ўсмешкай, якой толькі што сустрэлі мяне. Настрой адразу ўпаў. Эгаістычна, але… праўда.

* Мне часта здаецца, што дзяцінства ў Вас было светлае і чыстае, як Вы самі. І больш – нічога ў жыцці. Вы з'явіліся сённяшняй, прыгожай і светлай і невядома адкуль. І толькі дзеля мяне. Зноў эгаістычна, але абнадзейвае.

* Штосьці мне ўдалося зрабіць для Вас нязначнае, але прыемнае. Потым Вы праходзілі міма і ці хацелі дакрануцца ў знак удзячнасці рукой да пляча, ці дакрануліся. Не памятаю. Але тое, што Вы дакрануліся, павінна жыць ва ўспаміне. І жыве на плячы.

* Вам часта прыходзіцца кантактаваць з людзьмі,

пры гэтым пераўвасабляцца ў розныя вобразы. Займальна назіраць за тымі, хто так ловіць Вашы словы, рухі, позіркі. “Вунь колькі іх, хто Вас любіць, – думалася мне. – А ты што ўмееш, акрамя сваіх вершыкаў? Няхай шчырых і шчымлівых, высокіх і ўзнёслых”.

* Гляджуся ў люстра, якое вісіць пры ўваходзе. І баюся, што раптам у дзвярах з’явіцеся Вы і мяне назаўсёды не стане, спалоханага і непрыкметнага побач з Вамі, узвышанай і прыгожай.

* Вы праязджаеце на сваёй машыне колерам марской хвалі. І няўжо Вам важней пешаходны пераход, дзе прыпыняецеся, ці іншыя дарожныя знакі, на якія Вы так пільна ўглядаецеся, чым я, што стаю, баючыся паглядзець у бок аўто колерам марской хвалі.

* Вы паспрабавалі адчыніць уваходныя дзверы. Не атрымалася з зашчоўкай. Я прыйшоў на дапамогу. Спачатку быў шчаслівы, бо на ручцы павінна заставацца Ваша цяпло. А потым ахапіла роспач: Вы пайшлі, падзякаваўшы ўсяго толькі словам.

* Наступіў час адпачынку. Ёсць гарады вялікія і маленькія. А я не супраць, каб у нашым горадзе быў адзін дом, адна вуліца і адзін салавей.

* Вы выйшлі на вуліцу. Бязмозглы вецер шкуматаў Вашы валасы. “Ах, гэты шалун, нахабнік, ён – мой найпершы вораг,” – падумаў я. Шкада, што не ў модзе дуэлі.

* Ідзе чарговая сустрэча з работнікамі адной арганізацыі перад іх прафесійным святам. Пацікавіўся ў Вашай калегі, якая назірала збоку:

– Як?

– Паспрабуй з імі…

А я падумаў пра сябе і ціхенька выйшаў з залы, дзе гучаў Ваш патрабавальны гучны голас і дзе ўладарыла магія Вашых вачэй.

* Мы сустрэліся на лесвіцы. Вы неслі на вешаках нейкія багата расшытыя адзежыны і зверху мужчынскі строгі чорны касцюм з бабачкай. Так па-хатняму, па-сямейнаму. Мае майка і джынсы павіслі на мне танна і недарэчна.

* Зазірнуў у залу на гукі музыкі. Вы з ускінутымі рукамі стаялі да мяне спінай. Тыя, што былі перад Вамі, міжволі на імгненне перавялі позірк на мяне. І Вы не маглі не азірнуцца. Дзякуй цудоўнай з'яве фізікі – паслядоўнаму падключэнню электрычнай і… духоўнай энергіі.

* Вы прагульваліся са сваімі польскімі сваякамі і паспадзяваліся на мае паліглотаўскія здольнасці. А я ўпершыню моцна пашкадаваў, што не навучыўся гаварыць на блізкай нам польскай мове як след. І ў галаве толькі: Жэч Паспаліта, Вельке Княство Літэвске, круль Ягайла, Велькі князь Вітаўт. І – Вы…

* Адна з маіх любімых лічбаў – пятнаццаць, далей – у два разы большая ці меншая. Столькі ж стала лірычных замалёвак пра нас. Здаецца, што я пра Вас мала ведаю, а Вы пра мяне – усё.

# Роздум

***

У Гародні выпадкова сустрэў аднаго са сваіх любімых выкладчыкаў па інстытуце Аляксея Рагулю. Такой самаадданасці, самаўпэўненасці, самарэалізацыі падчас заняткаў ні ў каго больш не сустракаў. Верылася кожнаму яго слову, тады маладога яшчэ дацэнта. Зямля ягоных Быкава, Чорнага, Мележа жыла, каласілася, пахла хлебам, заставалася ў душы. І толькі час ад часу ў перапынках яму, стомленаму, прыходзілася прыбягаць па здароўі да цёплага тэрмаса. Цяпер Аляксей Уладзіміравіч – прафесар-літаратуразнаўца, а я вельмі ўдзячны яму за памяць.

*На паседжанні*

Не ведаў смаку хвілін, калі сядаеш за прозу. Хоць якая ў мяне проза: яе раней называлі малой. Аднак прыходзіць у такія моманты шмат цікавейшых успамінаў, якія пры складанні вершаў прамільгнуць, нібы тыя электрычкі. Празаічнае вымагае спыняцца, вяртацца назад. Жыццё ідзе больш размерана, плаўна.

Вось і цяпер на памяць прыйшоў эпізод з апошняга пасяджэння Гродзенскага аддзялення беларускіх

пісьменнікаў. Крыху разгублены Юрка Голуб, нязменны кіраўнік у апошнія дзесяцігоддзі творчай суполкі і… амаль што барацьба за крэсла. Заслужана перамагае Валянцін Дубатоўка, таленавіты празаік.

Насупраць сядзеў пісьменнік у гадах, твар якога мне знаёмы, а прозвішча, на жаль, прыпомніць не мог. І вось нечакана пад канец форуму ён падымаецца і кажа: ”А Рычард, Рычард, дзе ён?” Амаль усе лёгка, добразычліва ўсміхнуліся ў напружанай цішыні. І я ўдзячна працягнуў чалавеку руку. Так мы пазнаёміліся ў другі раз. Потым абмяняліся кніжкамі, адрасамі. А маглі ж прамаўчаць. Мы чытаем адзін аднаго, але бачымся недаравальна рэдка.

***

Падумалася: а ён чалавечны, тонкі лектар з такой складанай палітычнай тэмай. І, калі яго перабілі недарэчным пытаннем, доўга маўчаў, згубіўшы асноўную думку. Прасіў прабачэння: кідае курыць, і біялагічныя стрэсы, бывае, не даюць сабрацца з думкамі тут жа, імгненна.

*Дапамога*

Выйшла чарговая кніжка. Віншаванні, пажаданні – баль, адным словам. Пад настрой адна з добрых, крыху наіўных настаўніц таямніча нахіляецца да майго вуха і намагаецца выклікаць на шчырасць:

– Няўжо гэта вы ўсё напісалі?

– Ат, – кажу ёй у такт, – Воўка дапамог…

Жанчына пераводзіць позірк у акно, дзе вуліцай едзе на возе сусед Валодзя карміць бычкоў на ферме.

Потым я пра тое забыўся, а жанчына пасля выхаду чарговай кніжкі пра аўтарства больш не пыталася, бо і суседа, весельчака і гумарыста, на вялікі жаль, ужо няма на свеце. Няхай ён мне даруе.

***

Здавалася б, чым больш жывеш, тым больш павінна станавіцца сяброў. Аж не. І сяброў меншае не таму, што яны адыходзяць "к апошнім тым на свеце рубяжам", а таму, што яны проста па розных прычынах – па непаразуменні, па памылцы, па жаданні – перастаюць быць сябрамі. Прасцей: яны не могуць быць сябрамі, бо яны не тыя людзі, якіх мы выбіраем, і мы не тыя, якіх выбіраюць яны.

*Асацыяцыі*

Высока ўгары ляцелі журавы, кіруючыся ў вырай. Яны так паласавалі магутным крыллем восеньскае паветра, што, здавалася, мне даходзіла да цела нябачнымі бізунамі ці… больш светла і знаёма з дзяцінства: пастушкі спраўна пастрэльвалі пугамі наўздагон статку.

*Д'яблава душа*

У чорнай плоці асфальта, напэўна, усё ж жыве д'яблава душа. Пад маім акном яго гадамі дзяўбе настырны дождж, плавіць гарачае сонца, злізвае едкі туман. І нават кволая траўка гэтым годам паўстала супраць яго.

*Навошта?*

Колькі нас ходзіць па зямлі. І хадой сваёй мы так падобны на гадзіннік. Ідзеш у нагу – добра, адстанеш – падгоняць, пусцішся ўперад – асадзяць. Але навошта, як той гадзіннік, супыняць, затрымліваць, вяртаць сілай, прымусам?

Колькі запынена назаўсёды імклівых, таленавітых, прыгожых людзей!

*Ля касцёла*

Я штосьці зрабіў не так. І цяпер адводжу вочы ад машын, што праязджаюць міма, нуруся ў філасофію Поля Энуара. І застаюся адзінокім невядома колькі часу. Побач – самота. Я штосьці зрабіў не так. Але разам з тым адчуваю, што дзесьці ў прасторы хтосьці мяне чуе, нават бачыць, неадступна жыве са мной. Бо я штосьці зрабіў не тое. Ад гэтага самота пакрысе адступае, нібы рассейваецца туман.

***

Напэўна, вельмі цешыць чалавека ўлада над агнём. Спачатку ён выпускае агонь з далоняў у печ, ганарыцца ім, даглядае. Потым адумысне не звяртае на яго ўвагі. Потым, слабенькага і спалоханага, знішчае качаргой і замуроўвае ў печы засланкай.

А назаўтра ўсё паўтараецца. Чалавек адчувае сябе ўладаром, задаволены сабой.

*Крыўдна*

Мне, даросламу, прысніўся сон, што нібыта маленькім хлопчыкам улез да цёткі Марусі, суседкі, у грушы. Іх і было на дрэве з дзясятак. Сінія чамусьці і вялікія-вялікія. А я іх сарваў. Хоць цётка спяліла іх, каб самой пакаштаваць упершыню. Сарваў ды яшчэ жанчыне на вочы трапіў. Яна мяне кляла, як тады, у дзяцінстве. І цяпер, прачнуўшыся, ад згрызоты зніякавеў: і груш няма, і перад суседкай страшэнны сорам, няхай яе ўжо і няма на гэтым свеце. Крыўдна, хоць не жыві і сам.

***

Уваходзіць дачка:

– Хачу, каб паміж мамай і табой быў мір і спакой.

Я:

– Я не ўмею маліцца, але я веру ў Бога: ты – мой Бог.

*На сустрэчы*

– У чым розніца паміж вамі, маладымі, і намі, старэйшымі? Моладзі патрэбна рыба, а нам, старэйшым, возера, дзе рыба сябе добра пачувае.

***

Сказана, што ніколі не надакучыць глядзець на ваду, на агонь, на аблокі. Я б дапоўніў – на каханага чалавека.

***

Не люблю мыць рукі і твар цеплаватай вадой. Адразу ж хочацца яе выцерці ручніком. Іншая рэч вада халодная, нават сцюдзёная, са студні ці з крыніцы. Хочацца, каб яе халадок заставаўся на целе увесь мой дзень, свяжыў, маладзіў. Няхай ужо лепш кропелькі высахнуць пад сонцам, але не буду іх выціраць.

***

Зоркі таму і здаюцца жывымі, што мігаюць. Усё адно, як чалавек.

Пакуль жывы…

***

Дзякаваць Богу, і я, і мой сусед глядзім на свет, вітаемся, вуліцу цэлымі днямі для чагосьці перамерваем. Унучка падаравала суседу мабільнік. Цяпер ён можа трымаць сувязь і з мінулым, і з сучасным. А што чакае наперадзе, ён і так ведае. З ім заўсёды цікава, бо ўсё, што ў чалавека ў галаве, тое і на языку.

*З аб'явы*

"Прыйдзіце ў салон мэблі, і вы пабачыце, як дрэва ператвараецца ў прыгожую мэблю".

Кашчунства і цынізм, калі ўдумацца.

***

Як успамінаецца зіма ў цёплае лета, так і былое бачыцца праз гады. А таксама лета надходзіць на памяць узімку, як добрае мінулае.

***

Прыслухоўваўся да кожнага Вашага слова. Вы гаварылі звычайна мала. Аднойчы Вам на вочы трапіла мая кніжка. Прачытаўшы, вынеслі таксама нешматслоўны прысуд. Я і не ведаў, што пішу “абалдзенна”. Вельмі і вельмі рад і за Вас, і за сябе.

***

Я і так ніколі не быў гаваркім, а цяпер заўважаю, што імкнуся скарачіцца як мага. Нават блізкія суразмоўцы часта не разумеюць маё маўчанне. А ўсё таму, што, напэўна, часу не хапае на пустое.

***

Чысцячы дарожкі ад снегу, дзівіліся: куды падзець гэтулькі гурбаў? А сняжынкі ўсё кружылі, віхурылі сапраўднымі змейкамі. Назаўтра ж, калі прачнуліся людзі, на месцы сумётаў цямнела асенняя трава. Бог спарадкаваў наваколле за адну ноч па ўсім краі, нікому нічога не кажучы.

***

– Ён лічыць не ўмеў да старасці. Праўда, да дзесяці навучыўся. І ўсё казаў пра адзінаццаць: “Дзесяць і адзін”.

***

Падабаецца прыпадымаць сучасныя шторы пасля ночы. Памаленьку, па крупіцы адкрываецца раніца, дзень, свет. Па сутнасці, мы ўсё жыццё прыпадымаем заслону і вывучаем, вывучаем наваколле. А па вечарах шторы апускаем, каб наранку ўсё пачаць спачатку.

# Свавольны званок

***

Пабыўшы па некалькі разоў у школах раёна, зразумеў, што вучні і настаўнікі становяцца падобнымі на свайго кіраўніка, калі ён працяглы час працуе на дырэктарскай пасадзе. У адным калектыве яўна адчуваецца інтэлігентнасць і развалжлівасць, у другім – кемлівасць і дасціпнасць, у трэцім – ціхае прымірэнне з ўсім і пакорлівасць. Бываюць школы, якія імкнуцца мець усё адразу, але ў выніку застаюцца без свайго твару, індывідуальнасці наогул.

*Матэматычыя дні*

Чамусьці вучні, прыйшоўшы ў школу, найперш бягуць да расклада і заўсёды здзіўляюцца нават тады, калі з учарашняга там нічагусенькі не змянілася.

– Оп-па… не зразумеў… учора матэматыка на сёння не стаяла… не было.

Такая няхітрая палітыка, бо матэматыка, на іх жаль, аж пяць разоў на тыдзень. І як яе можа не быць сёння і заўтра?

Ці:

– Пець, дай спісаць. Дам мабільніка пагуляць. Оп-па… Не зразумеў, а фізкультуры сёння няма…

Прыпомнім сябе школьнікамі.

*Нестыкоўка*

Малы чамусьці ўпадабаў купюры тысяч-пяцідзясятак. На дзень нараджэння яму даюць цалкам дзвесце тысяч. А ён у плач:

– Не хацу!

– То тут чатыры пяцідзясяткі, – даводзяць яму.

Тады маленькія тоненькія пальчыкі бяруць дарагую купюру і імкнуцца раздзяліць яе на “многа”, каб было чатыры. Аднак не атрымліваецца. І зноў – плач.

***

Бабуля ў запале, кормячы парсючка: “Казёл ты, зноў вывернуў усё!” Малая гарадская ўнучка, якая за ўсім назірала, праз колькі часу напамінае бабулі: “Ты свінку накарміла, а калі будзеш карміць казла?”

*Цяжкі выбар*

Бацька:

– Марш у вугал зараз жа.

Праз хвіліну – плач.

– Чаго плачаш?

– Не ведаю, у які вугал…

***

Заўсёды разам мы вярталіся дадому. Праходзячы паўз маленькай Каці, я абавязкова з ёй загаворваў пра штосьці. На гэты раз я прыпазніўся, і жонка ішла адна.

– Адзе твой ён? – з цікаўнасцю запыталася дзяўчынка. Гэта, здаецца, пра мяне так вынаходліва.

*Нагаворы, не інакш*

Хто сказаў, што сучасная моладзь дрэнна выхавана? Да бабулі ў вёску прыехалі дзве ўнучкі. Праз дзень толькі і чуецца:

– Бабуля, калі ласка, прынясі нам бярозавага соку…

– Бабуля, дай нам на марозіва грошай, калі ласка…

– Калі ласка, бабуля, зрабі што-небудзь з праклятай мухай, а то спаць не дае…

*Дыялог з малечай*

– Ну, дай прайсці дзядзі, прыгажуня….

– На.

*Артыст*

– Данута Янаўна, а Пецька апісаўся.

– Пецька, што ты нарабіў?

– А мы гулялі. Я быў маленькім сыночкам і павінен быў апісацца.

***

Пачатак урока. Настаўніца робіць на дошцы запісы. Віцька ў нецярпенні:

– Данута Янаўна, хутчэй выклікайце мяне, а то дамашняе заданне зусім забуду.

*Дзядзя спеўнік*

Усё жыццё расказваю пры настроі гэтую смяшынку-праўду.

Пачынаю працу ў школе, урок музыкі і спеваў у першым класе. Вопыту ў пачатковай школе – нуль. Толькі ведаю, што, калі папросяцца выйсці, тэрмінова трэба адпусціць. Інакш… І вось праз некалькі хвілін пасля пачатку ўрока адзін маленькі грамадзянін просіцца. Калі ласка. Потым вяртаецца, усаджваецца за парту. На першым уроку ўсе разам слухаем і спяваем дзяржаўны гімн. Аж, бачу, той самы “можна выйсці” заходзіцца

горкімі слязьмі. Малады настаўнік праз яшчэ некалькі хвілін сам гатоў заплакаць, бо хлопчык старанна трэ кулачкамі вочы і ўсё гучней выказвае свае пачуцці ўголас. Хіба ісці па настаўніцу, якая ў гэты час адпачывае?

Аж тут на дапамогу мне і класу прыходзіць самая смелая дзяўчынка:

– Дзядзя спеўнік, а Колька пінзак у туалеце забыўся…

Маё імя і імя па бацьку цяжка даваліся не толькі першакласнікам, таму напачатку сваёй педагагічнай дзейнасці часова я пабыў і дзядзем спеўнікам.

*Пра мой танк*

Даверлівыя пачаткоўцы вельмі ж любяць пахваліцца. Пусці іх на занятках крыху вальней, пачуеш самае неверагоднае пра тату, маму, дзеда і пра… аднойчы.

– Аднойчы павёз мяне тата ў Шчучын, і там я з'еў за дзень аж дзесяць пачкаў марожанага, а дзядуля купіў мне во-о… такога мядзведзя.

– А ў мяне ёсць во-о-о такі слон.

– А ў мяне – пісталет…

Малады дырэктар школы, ён жа настаўнік музыкі і спеваў, тактоўна і ўпэўнена ўключаецца ў гаворку:

– Падумаеш, пісталет… А ў мяне танк стаіць за хлявом.

Наступае цішыня, якой у трэцім класе не было спакон вякоў.

– Чуў, у дырэктара танк сапраўдны ёсць.

Усе вачаняты ўжо свідруюць таемны хлеў, які стаіць праз дарогу і за якім павінен быць сапраўдны танк. Не стане ж дырэктар хлусіць.

Добра, што да канца ўрока заставалася пару хвілін. Наколькі званок быў гучны і прарэзлівы, аднак навіна

пра танк заглушыла ўсё навокал. Праз хвіліну пачатковая школа гуртам імчалася да дырэктаравай хаты і за хлеў. За малымі крыху з недаверам, але заадно беглі і старэйшыя. Танка, на жаль, не аказалася, проста на ім паехаў на вучэнні сусед, якога ўсё жыццё звалі Прапаршчыкам, бо ён і сапраўды служыў калісьці прапаршчыкам. То чаму б яму і не паехаць на танку на вучэнні. Гісторыя працягвалася да вечара, аж пакуль дзядзька Прапаршчык не выйшаў на вуліцу, праціраючы вочы пасля дзённага сну.

*Шчырая размова*

Пяцікласнік пасля ўрокаў перад партрэтам Янкі Купалы:

– Ой, дзядзечка Яначка, міленькі, і навошта ты гэтак шмат вершыкаў напісаў! Трэці год вучу на памяць і на памяць, а яны ўсё не канчаюцца.

І пераводзячы позірк на партрэты іншых пісьменнікаў:

– А вунь яшчэ яны…

***

Настаўніца:

– Як праверыць слова аладка?

Вучань:

– Блін…

*Сола з крэсла*

Цяпер Вітольд – паважаны працаўнік фермы, спраўны сем'янін, сапраўдны гаспадар вялікага дома. Высокі, крыху ад працы сутулы, плячысты і, напэўна, са мной справіўся б адной левай.

– Ці помніце, як Вітольд на ўроках спеваў, ужо вучань сёмага класа, спяваў песні ля дошкі, ускараскаўшыся

на крэсла? – пытае мяне яго аднакласнік за вясёлым сталом.

Не, не памятаю. Цяпер мне сорамна, што, будучы настаўнікам, прымушаў падлетка спяваць з крэсла. І не педагагічна, і прыкра. Толькі чаго не зробіш пад настрой. Але найлепш, што гэтага не помніць сам Вітольд. Магчыма, ён усур'ёз верыў, што, са слоў настаўніка, вучань вялікі выканаўца, а крэсла – гэта сталічная сцэна.

Няма сумнення: на добрую пяцёрку (па пяцібальнай) ціхі, непрыкметны хлопец тады наспяваў і можа нават камусьці спадабаўся з дзяўчат.

*Шпакоўня*

Заўсёды ладзіў шпакоўні да прылёту птушак. Затым назіраў за іх сумеснымі клопатамі. Пасля, ужо пасярод лета, бегаў вакол салодкай чарэшні, біў у ладкі і бажыўся, што ніколі болей не зраблю ніводнай шпакоўні. Прыходзіла вясна – гісторыя мела працяг. Навешвалі домікаў і на прышкольныя дрэвы. Яны служылі, бывала, у непагадзь падалі.

Адной вясной ля самага ўваходу ў школьны двор упала старая шпакоўня. Да птушанят яшчэ было далёка. А домік ляжыць сабе і ляжыць, крышку пры падзенні пашкоджаны. Тады, будучы сур'ёзным дырэктарам, пішу, як звычайна, аб'яву, што сёння адбудзецца педсавет па пытанні: "Што такое шпакоўня, яе прызначэнне ва ўмовах індывідуальнага падыходу да асобы дзіцяці". Унізе – удакладненне: выступленне настаўніка працоўнага навучання (прозвішча), судакладчык – намеснік па гаспадарчай частцы (прозвішча).

Хто звяртаў увагу на тую няшчасную шпакоўню ля варот і тонка ўспрымаў дырэктарскі гумар, той адразу сцяміў пра педсавет. Іншыя пачалі абурацца: чаму так

позна павесілі аб’яву, няма часу падрыхтавацца. Але найхутчэй зрэагаваў настаўнік працы, і ніхто не бачыў, як без лесвіцы, малатка і цвікоў шпакоўня апынулася на сваім месцы. Пазачарговы педсавет прайшоў без выступоўцаў, пратаколаў і без напружанай цішыні. Затое больш шпакоўні на маёй памяці не падалі і пішчэлі, пішчэлі на дзясяткі галасоў шпачаняты да самага паспявання салодкай чарэшні.

*Усё – экстэрнам*

Многае ў жыцці забываецца, толькі не такое. Ледзь-ледзь скончыліся віншаванні з выпадку прызначэння мяне дырэктарам, як напачатку вясны жанчыны-педагогі дакладваюць: ”А Марыю забрала хуткая дапамога – нарадзіла хлопчыка”.

Як? Дзевяцікласніца? Перад выпускнымі экзаменамі? Але што заставалася рабіць маладому дырэктару. Навучылі: каб дзяўчына з сабой чаго не нарабіла, трэба акуратней.

Найперш зайшоў з навіной да загадчыка аддзела адукацыі павініцца, бы сам нарабіў бяды. Паслухаў той маю споведзь і, як заўсёды, быў нешматслоўны: ”Ну і хрэн з усім. У цябе дзяцей прыбавіцца, а то, глядзіш, школу зачыняць прыйдзецца”. І то праўда. Сумна ў школе: дзяцей усё мешае.

Настрой падняўся. Цяпер – адведкі, кветкі…

– А вы хто, тата? – ашаламіла медсястрычка, амаль такая ж па гадах, як мая Марыйка. А Марыйка – малайчына. Усміхаецца, як і трэба шчаслівай рожаніцы...

Раман ужо даўно скончыў школу, у якой маці калісьці здавала экзамены экстэрнам. Працуе. Такога хлопца яшчэ пашукаць трэба. Як і мяне, дырэктара. Пасля ўсяго школа вучыла жыццю дзетак яшчэ шмат гадоў.

# Бывае

***

Бацюшка напярэдадні вялікіх свят наведвае могілкі. Свенціць.

– Вечная памяць Іосіфу, Казіміру, Анастасіі, – махае кадзідла.

А збоку – стрыманы смех, бо Анастасія тая тут жа, ля самога бацюшкі, здаровая і жывая, нос хустачкай выцірае і вочы.

...Даўно не быў на дудкоўскіх могілках. Пахадзіў, паўздыхаў, чытаючы імёны памерлых. Сеў на веласіпед, паехаў па вёсцы. Зірк, а Кашэта па падворку бегае.

– Як жа так, там напісана...

Вось так людзі эканомяць. Ставяць помнік па жонцы, заадно і сваё імя шліфуюць на потым і наадварот. Усё роўна ж...

***

Той дзень увайшоў у гісторыю Дудкоў. Адбылося смешнае, якое магло скончыцца і трагічна. Кашэта – вядомы выдумшчык. Аднойчы ў двары выкапаў ўмелец сажалку ў чатыры метры глыбінёй, берагі заліў бетонам, прабіўшы свідравіну, напоўніў вадой, запусціў рыбу. Тая расла, казалі, нават бралася на кручок.

Неяк па неасцярожнасці грузнаватая Кашэтава

гаспадыня зляцела ў тую сажалку з усёй амуніцыяй. Слізкія бетонныя берагі ніяк не давалі мажнай бабе ўратавацца. “Памажыце…” – неслася па вёсцы. Збегліся суседзі да Кашэтавага плоту, далей не пускаў чорны злы сабака. “Памажыце…” – выбівалася з сіл жанчына.

Аж з’явіўся гаспадар з багром у руках. Жалезны крук вось-вось падчэпіць спадніцу, што парашутам пакрыла ці не паўсажалкі, аднак…

– Слуха́й, Зін, вылазь, а то ўсю рыбу мне паціскаеш…

Гісторыя скончылася шчасліва. Назаўтра майстар на ўсе рукі закідваў вудачку ў легендарную сажалку. Кажуць, нават аднаго карася здабыў.

***

Той жа Кашэта дапамагаў мне (а лепш сказаць, я пасабляў яму) ставіць “фінскі” дом. Адным гарачым летнім днём мы ладзілі страху. Раптам апоўдні, у самую гарачыню, Іван Якаўлевіч мне і кажа: ″Слуха́й, ты тут пасядзі на страсе мінуту, а я мігом злятаю па справе ў Забалаць″.

Што было казаць. Хоць і на матацыкле збіраўся мігам чалавек “злятаць” у тую Забалаць, але знаходзілася яна за дваццаць кіламетраў.

*Прыхільнасць*

Сустракаючыся, яна штораз звярталася да мяне па імені і ў трэцяй асобе:

– Рыгор Сцяпанавіч ці не жадае з новага прывозу набыць сабе добрую кніжку…

– …ці не думае…

– …ці не пойдзе…

А мне кожны раз хацелася адказаць:

– У яго і спытайце.

Але нейкае глыбокае асабістае пачуцце стрымлівала мяне, каб не паказаць сваёй занадта раўнівай прыхільнасці да жанчыны.

***

Люблю і паважаю дасціпны гумар. На сваіх уроках музыкі і літаратуры карыстаўся дзеля настрою кожнай спрыяльнай хвілінкай. Нішто ў жыцці так лёгка не збліжае людзей псіхалагічна, як добры жарт.

***

Задумаў і скачаў снежную бабу. Рабіў, рабіў… Але што проста баба, задавальнення мала. Пачаў удасканальваць. Узяў перагарэлыя электрычныя пробкі, уставіў спераду крыху ніжэй таго месца, адкуль рукі растуць. Атрымалася займальна. Захацелася ўдасканаліць яшчэ. Падключыў электрашнур – ажыла баба.

І я, і яна, падалося, у стадыі чакання. Удасканальваў бабу, пакуль не сцямнела і баба не заснула.

***

На стаянцы крутая іншамарка. Калонкамі вухкае магнітола, аж на вуліцы ў падфарніках жаласліва пабразгваюць шкельцы і спрабуюць мігцець у такт павароты.

***

На прыпынку крыху зачапіў рукавом крутую, моцна “закамуфляжаваную” машыну. Дзеўчынё, высунуўшыся ў фортку, ці то ўсур’ёз, ці то жартам расставіла ўсё па сваіх месцах: “Не раздалбайце!”

*Рэзюме*

У вясковым магазіне жанчыны пра фігурнае катанне:

– Але ж добра танцавалі. Асабліва тая чарнёнькая..

– Але казалі, што апошні раз ужо яна, бо срэдстваў няма.

– Чаго няма?
– Срэдстваў.
– То таго няма, то таго… а не маглі б нарабіць тых срэдстваў. Гэтак танцавалі…

*Скончылася капуста*

Сусед надоечы пахваліўся, што зайца бачыў проста ў горадзе.
– Напэўна, капуста скончылася прад вясной, – дапамог я, – то заяц і пабег у “Алмі”.

***
Муж, гледзячы выступленне баяніста:
– Хачу баян, як у яго.
Жонка:
– Але ж баян іграе не сам.
– Гм…

*Дыялог*

– Ой жа і салаўі спяваюць у тым баку.
– Мусіць, не яны, бо адтуль толькі што прыйшоў Салаўёў, наш галасісты дворнік.

*Начны танец*

– А помніш, як на нейкае свята да нас заехалі двое сябрукоў. Адзін з баянам, а другі наш акардэон узяў. Ужо да поўначы ішло. Я крыху пасядзела дзеля прыліку, паслухала вашы прыпевы, але хутка галава разбалелася. Пайшла ў найдалейшы пакой прылегчы. Спачатку з гадзіну чула: спявалі, танцавалі. Але хто танцаваў? На цябе аднаго нагрузка пала… Аж, чую, ужо пад раніцу хтосьці з крэктам сунецца ў мой пакой. Расплюшчваю вочы, а ты:
– Слухай, уставай, пайшлі танцаваць…

Куфэрак адчыняўся зусім проста: муж-весялун вытанцоўваў пад два гармонікі як мог праз усю ноч, бо надта ж файна гралі сябрукі, ды і стол ад бутэлек і закускі ламаўся. Урэшце, аднаму танцаваць і цяжка, і сябе рэалізаваць не выходзіць. Вось і прыпомніў бедалага пад раніцу, што ў гэтай хаце ёсць яшчэ людзі.

*Самаахвярнасць*

Прыбіральня. Малады тата ў ахвоту пачынае сваю работу. Побач, нецярпліва перамінаючыся з нагі на нагу, пачынае прытанцоўваць малы. Тата, адчуўшы небяспечнасць моманту, кідае свой занятак, імкнецца ратаваць сітуацыю з нашчадкам. І толькі потым нанова вяртаецца да пачатку ўсёй гісторыі.

*Паспрыяў*

Мужыка затрымалі за рулём пад “мухай”. Без дакументаў і без слоў. Міліцыянеры прывезлі парушальніка ў бліжэйшую вёску на дазнанне. Першы стрэчны на выгляд таксама “вясёленькім” аказаўся – нядзелька, свята. Пытаюцца прозвішча парушальніка.

– Не… не ведаю… – сцяміў, што да чаго, стрэчны.

Міліцыянеры дапытваюцца.

– Ну кажу ж… не ведаю… – ўпарта круціць галавой.

І тут першы пакрыўджана:

– Антон, ты што, мяне не пазнаеш? Я ж твой сусед, Валодзя Саковіч.

*Нагаварыліся*

Сусед – сапраўдны паляўнік, як тут кажуць. Аднак раз на раз не прыходзіцца. Неяк пасля ягонай чарговай вылазкі ў лес прыходжу ў госці. Стол, складзеныя рукі на ім, суседава галава на руках. І нейкае дзіўнае

супрацьстаянне ў маёй галаве драўлянага і жывога. Пры гэтым – ні слова ад суседа, як я ні дабіваўся хоць бы павітацца.

Так і пайшоў ні з чым. А думка, чаму ён не захацеў са мною гаварыць, не пакідала. Назаўтра – таксама. Нарэшце, пайшоў высвятляць. Ох, і нагаварыліся ж тады! За два дні адразу.

***

Прапаршчык на "расслабоне": вясна, сонейка. Аж пушысты белы кот ляніва разлёгся на шырокай цаглянай агароджы. Хвост ці не ў паўметра звісае. Служывы дастае пнеўматычную вінтоўку ды – бац.

Назаўтра камандзір роты па-свойску раіцца з падначаленым: "Ведаеш, нешта ў майго ката хвост адваліўся".

*На паляванні*

Падабралася ладная кампанія. Знешне віdалася, і начальства не малое прысутнічала. Але пасля першай, другой, трэцяй чарак пачалі разбірацца не на жарт.

– Казік – лапух, прамазаў.

Казіку крыўдна да болю:

– А гэты, што ў кажушку, хрэн, чаму не страляў, хоць бліжэй да звера быў?

А ў кажушку якраз і быў не абы-хто. Не стрэліў і маладзец. А лапух – Казік.

***

Два мужыкі адзначалі ў зімовым лесе факт палявання. Дабрыня на душы і дыхаецца вольна. Без чужых вачэй, па-сваяцку адзначалі.

Прыходзіць час справіць патрэбу. І адзін з ваяроў, каб не ўпасці, абдымае бярозку. Дрэўца хілае, не раўняючы

з мужыком. Усё ж шапка падае і трапляе пад струмень.

Кум, зачакаўшыся сябра, падыходзіць, падымае шапку і, каб чалавек не змерз, насоўвае яе бедалагу на галаву. І ад вялікіх сваяцкіх пачуццяў выцалоўвае кума, выцалоўвае…

*Шанцоўная*

Старэнькай бабулі пашанцавала двойчы: яе мажны зяць пасля выпіўкі як чхне, то самы моцны сон прагоніць, а як яшчэ што-небудзь зробіць, не пры стале кажучы, то мёртвага падыме. Так і жыве бабуля – няма як і памерці ў сто гадоў.

*Проза на мяжы з паэзіяй*

Пасадзіла жанчына капусту, ды ў такім месцы, што куры за паўдня адны сцібрыкі пакінулі. Як высветлілася, гэта певень першы асмакаваўся і наклікаў потым бяды з усіх бакоў.

Гаспадыня не здалася. Назаўтра капусту адсадзіла, а пеўня навязала за нагу ля плоту, далей ад градкі, каб не вёў чубатак да граху.

– Але ж, – кажу, – певень на працягу стольскіх дзён, пакуль капуста будзе расці, запакутуецца. І нагу можа выкруціць, ды і наконт генетыкі несправядліва.

– А ён і на прывязі іх топча, – быў адказ.

Зноў жа, з улікам генетыкі, ён іх даганяць павінен, а курыца думаць: ці не захутка бягу. Толькі ўсё значна прасцей. Каля вязня была пастаўлена, каб не памёр ад смагі, бляшанка з вадой. Куркі і прыходзілі па адной ці разам да яе нібыта. Тады проза, напэўна, і пераходзіла ў паэзію. Капуста расла, і певень заставаўся рыцарам.

*Беларускія прывітанні*

Яшчэ гадоў два дзясяткі назад людзі ў гэтым краі моцна не задумваліся хто ёсць хто. Сваяцкія карэнні заходзілі глыбока ў даўніну і іх можна знайсці беларусу ў любой літоўскай вёсачцы. І наадварот. Беларусы ехалі штодзень да літоўцаў у магазіны па “палангу”, а суседзі штосьці здабывалі ў нашых гаспадарках, ужо тады вялі такі-сякі бізнес.

Цяпер тут мяжа паміж народамі. Але даўняя звычка ўзаемнасці цягнецца. Так, памятаецца, на Беларусі стаяў час спірту і прадавалі яго колькі хочаш і дзе заўгодна. На Літве ж тады моцная вадкасць ішла за дэфіцыт. Адзін са спрытных беларусаў асвоіў новы спосаб транспартавання: напаўняў паўтаралітровыя пластыкавыя бутэлькі спіртам, звязваў іх па некалькі ў адно і пускаў па рэчцы, якая плыла з Воранаўшчыны ды на Варэншчыну.

Аднойчы плыла “шматградусная флатылія” па беларускай вадзе ўпэўнена і паспяхова. Мужычок радаваўся хуткаму і лёгкаму спосабу прыдбаць крышку літаў. Але ж далей пачыналася чужая тэрыторыя. Ахапілі сумненні: а раптам якая бутэлька ды за корч зачэпіцца. Не думаючы пра небяспеку, пусціўся бедалага суправаджаць свой флот. Заставалася не так шмат да павароткі, дзе павінен прыняць дарагі тавар свой чалавек. Аж цішыню парушыў сабачы брэх, тут жа з’явіліся людзі ў незнаёмай форме. Здавалася, ім і справы няма да беларускага спірту, бо найперш яны абнялі нечаканага госця, падаравалі бранзалеты і бясплатна адвезлі ў Вільню. Разлікі былі потым на ўзроўні дзяржаў. А хто пакаштаваў таго спірту, адзін заяц, пэўна, ведае.

# Смех

*Дзеля смеху*

Смех (кот) сядае паміж маіх ступняў, месціцца і засынае, пакуль я гляджу тэлевізар. Яму, напэўна, утульна, і адначасова адданасць сваю выказвае. Гэта адчуваецца: цяпло цельца льецца, ідзе па нагах, і я заміраю, наколькі магу. А ён такі маленькі ў параўнанні са мной. Ведаю, што асноўнае для яго – наесціся. Але сваімі падсвядомымі паводзінамі ён мне сімпатызуе. У выніку і яму добра, і мне.

А калі пашанцуе ўладкавацца на каленях, то наступаюць самыя ўпарадкаваныя імгненні яго жыцця. Нават цяпер, калі я пішу на стракатай спінцы, падклаўшы кнігу, гэтыя радкі. Любіць спаць на каленях, як і сто гадоў назад.

Мы паразумеліся даўно. Смех – адмысловы вучань. Вельмі хутка дзеля смеху ён навучыўся з маёй дапамогай адчыняць дзверы. Усяго некалькі разоў прыйшлося паказаць яму, што трэба зрабіць з ручкай, каб дзверы перад яго жаданнем прайсці ў іншы пакой адчыніліся, і ён, падскокваючы, пачаў біць лапай па ёй. Калі ж некалькі разоў спроба не ўдавалася, кот падскокваў, адной лапай чапляўся нейкім чынам за аснову ручкі, а другой лапай дабіваўся свайго.

Аж пакуль... аднойчы суровай зімой, прыйшоўшы

дадому, мы не жахнуліся: усе дзверы, у тым ліку і вонкавыя, стаялі насцеж. У ганак намяло снегу, у пакоях – халадэча. А на канапе гаспадаром спіць Смех. Што тут усчалося! А ў кацячых вачах: мне ж таксама халадна было... Яго рэдка каралі фізічна, абышлося і на гэты раз. Урэшце, пасмяяліся і я дакляраваў адвучыць ката ад шкоднай звычкі. Ад таго і… смех.

*Узаемнасць*

Упускаю змерзлага ката ў хату. Як пасля холаду ён моліцца! Увесь аддадзены печцы: вушы хочуць зразумець свіст-піск бульбы ў сагане, вусы ловяць на свае нотныя лінеечкі гукі полымя-агню. І кот пачынае мурлыкаць, па-ягонаму, напэўна, спяваць. Душа адагрэлася. Дзякуй і кату, і мне!

*Смех і мышка*

З маім катом Смехам здарылася бяда. Пайшоў з хаты адным днём і прапаў. Быў месяц марац – кацячы час. Але ж чатыры дні не есці каўбасы ён не мог, бо вельмі паважаў гэты пачастунак зранку. Сядзе, бывала, на зэдлік і то адной лапай, то другой "просіць". І калі бярэшся за нож, першым кідаецца да халадзільніка.

Прыйшоў Смех на чацвёрты дзень на… трох лапах. Агледзелі параненую і выходзіла, што кот трапіў у пастку. Паказалі ветэрынарнаму ўрачу. Пералом, гнайнік. Усё з сабой рабіць дазваляў, як бы ні балела. Давяраў, як чалавек. З малога з ім размаўлялі і, здавалася, палову слоў ён разумеў. Выконваў шматлікія просьбы: ішоў, калі клікалі словам, качаўся па падлозе на фразу "ах, як добра!"

Рану прамывалі, клалі мазь і бінтавалі. Хадзіў з паднятай лапай, спаў з павязкай. Яе змянялі пасля двара. Аднак праз тыдзень кот не даядаў нават свайго

кавалачка каўбасы. Больш спаў, уздрыгваючы, на ложку – на падлозе ён не клаўся ніколі.

Аднойчы раніцой Смех папрасіўся на вуліцу. Праз цэлы дзень не вярнуўся. Трохлапы, ён далей свайго падворка не адыходзіўся, а тут… сядзеў за хлявом на жэрдцы. І якое ж было дзіва ўбачыць хворага ката з вялікай мышкай у зубах. Стала ніякавата за нядаўнія думкі, што, напэўна, трохлапы кот – ужо не кот.

Дык вось чаму ён адмаўляўся ад каўбасы. Ёсць найсмачнейшы кацячы пачастунак – мышка. Дзеля яе ён нават павязку ўпершыню сам зняў і пачуваў сябе гаспадаром у двары.

*Зноў кот*

Зламаў мужык руку. Гіпс. Праз тры тыдні знялі. Радасць. І ў жонкі дзень нараджэння. Арудаваў у дзве рукі за сталом. У перапынку выйшлі на вуліцу. Вярнуліся, каб прадоўжыць радасць. Аж кот, пакуль ніхто не перашкаджаў, даеў кілбасу на стале, пакаштаваў халадцу па місках і мыецца ля печкі. Гаспадар раз'юшаны. Ды нагой ката як кувыркне з усяе моцы. Жывёліна імгненна зрэагавала на нецвярозы ўчынак, а нага ў лёгкім шлёпанцы з усяго размаху – ды проста ў печку. Гах! Назаўтра зноў гіпс. Цяпер ужо на назе.

***

Кот выпускае кіпці і ў злосці, і ў радасці. Запісваю гэтыя словы, а ён спінкай трэцца аб руку. Значыць, правільна. Хоча есці, становіцца на заднія лапы, а пярэднімі запускае сваё нецярпенне мне ў калена. Не разумее. Але радуецца. У байцы таксама кіпці галоўнае.

Кот, атрымліваецца, увесь з кіпцяў і… ласкі. Таму яго і выбраў чалавек на ўсе выпадкі. Выбраў па сабе.

# Бацькаўшчына

Мае малітвы цяпер – гэта кнігі пра мінулае Радзімы, якая калісьці, пры Вітаўце, ад мора і да мора ляжала. Пра яе і толькі, хоць была б яна і з напарстак велічынёй. Але яна была і ёсць. І мая.

# Ваш выхад, місіс Творчасць

Былі званок і просьба са школы. Настаўніца ад Бога па гадах пакідала сцэну, а мне ніяк не выпадала з ёй сустрэцца. Ноччу, прачнуўшыся, вельмі пашкадаваў аб усім. “Напішуць і без мяне, яшчэ лепш напішуць”, – спрабаваў сябе супакоіць. Толькі сумленне не давала заснуць. З цеплынёй, удзячнасцю і захапленнем думалася пра лёс настаўніцы роднай мовы і літаратуры Таццяны Уладзіміраўны Карповіч, якую і надалей вельмі хацелі бачыць на ўроках, сярод дзяцей, іншым словам, – на педагагічных падмостках, але ў жыцці, бывае, напаткаюць аб'ектыўныя прычыны.

**У**жо сам выбар чалавека прысвяціць жыццё школе – гэта смелы выхад на сцэну ў шырокім амплуа, бо настаўнік – вельмі публічная прафесія. Якім той выхад атрымаецца на працягу дзесяцігоддзяў, залежыць найперш ад індывідуальнасці. Год за годам усе – ад дзяцей да бацькоў і знаёмых – будуць назапашваць тваё словы, учынкі і памкненні ў адзіны трывалы вобраз. Калі герой п'есы выходзіць да гледача з падрыхтаванымі словамі, прадказальнымі жэстамі, нават эмоцыямі і перажываннямі і ведае, што прыкрыты, застрахаваны ад нечаканасцей, то настаўнік, калі ён творчы і неардынарны, заўсёды застаецца – і не баіцца – адзін на адзін з невядомасцю. Калі адукаваны, інтэлігентны

глядач проста прамаўчыць на акцёрскую некампетэнтнасць і ў горшым выпадку больш не прыйдзе ў тэатр, то настаўнік заўсёды мусіць думаць, як жыць з вучнем далей. Прынамсі, з тым вучнем, які прыйшоў у клас, але яшчэ невядома, ці жадае ён ведаць і ўмець.

Больш творчую прафесію цяжка адшукаць. Таму кожны настаўнік абавязкова запамінаецца як асоба. Адзін заўсёды пунктуальны і канкрэтны ад “а” да “я”, у яго свае дзеці. Другі шмат ведае, пераймае ўсё на ляту, за ім імкнуцца паспець яго вучні. А іншы і прадмет ведае, якое стагоддзе ні вазьмі, і сёння разняволены, займальны. Як толькі яго паўтарыць, любімага настаўніка? А клас уцалку і ёсць урадлівае поле, якое неабходна дагледзець. Без творчасці тут – толькі пакута, асабліва ў сённяшняй школе.

**А**днолькавых настаўнікаў не бывае. Як, зрэшты, і людзей наогул. Па званку ў назначаны час яны ўваходзяць у клас і выходзяць з яго. Усё астатняе, пачынаючы ад спеўнай раніцы і канчаючы стосамі сшыткаў па вечарах, вельмі індывідуальнае. Напэўна, таму вобразы школьных настаўнікаў застаюцца з чалавекам на ўсё жыццё. Каго найчасцей, акрамя, вядома, бацькоў, мы прыпамінаем, паехаўшы ў далёкі горад вучыцца ці адзеўшы заліхвацкую цяльняшку і крапавы берэт, ці сустрэўшыся з пасівелымі скронямі на скрыжаваннях дарог. І, вядома, садзячы за дамашняе заданне сваіх дзяцей або ўнукаў.

...**Д**алёка за поўнач. Падклаўшы пад ліст штосьці цвёрдае, пісаць зручней. Аж гэта вельмі сімвалічна дапамагае “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы”. Звяраюся з ім і атрымліваецца, што з вызначэннем статуса настаўніка памылкі не адбылося. І адвольна ўсё добрае, сказанае пра педагогаў, ва ўсёй паўнаце адносіцца да настаўніцы беларускай мовы і літаратуры з Ракавіч Таццяны Уладзіміраўны Карповіч, якая пакінула сцэ-

ну, але не зачынены занавес, бо ён проста адсутнічае па аб’ктыўных прычынах: настаўнік – пажыццёвая прафесія. Без выхадных і толькі з кароценькімі перапынкамі, каб удыхнуць і, можа, уздыхнуць перад невядомым. Калі Вы са мной, прысядзем ціхенька на далёкім радзе залы, дзе праходзіць бенефіс Настаўніка.

І ў захапленні памаўчым прад талентам.

## Прысуд

Ноччу на зямлю сышоў моцны замаразак, скаваў яе. І раніцой трактары з навешанымі раней плугамі, здавалася, спалохаўшыся, замітусіліся па вуліцы, як людзі на пажары ці як мурашы ля сваёй разварушанай хаткі. Яны кудысьці спяшаліся па калдобінах, ненатуральна падскокваючы і пры гэтым махаючы плугамі ўніз-уверх, нібы пытаючыся: ”А што нарабілася, а як жа быць далей?” І кудысьці знікалі з вачэй назусім. Прысуд быў вынесены небам і зямлёй: зіма.

***

Хварэць, аказваецца, таксама карысна, бо як інакш выздаравееш. Яшчэ пры гэтым добра думаецца пра жыццё.

## Супадзенне ці біятокі?

Мне, як і многім, часта хацелася спыніць час. І якія толькі выдумкі не прыходзілі ў галаву. А ўчора з вечара падумалася: "А няхай бы сталася так: днём чалавек старэе, а ноччу, падчас сну, маладзее."

Прыйшла прыцемкаватая раніца. Прыслухаўшыся, разумею, што насценны гадзіннік спыніўся, іду ў суседні пакой, там гадзіннікавы механізм таксама замёр. Па радыё – адны песні, на іншым канале скрыпічны канцэрт. Пачаў штосьці рабіць, але праз гадзіну зрываюся і бягу да суседа. Моцна стукае сэрца. Сем гадзін раніцы. Фу-у… Імкнуся штосьці зразумець таямнічае і складанае: супадзенне ці біятокі? Карцела ж спыніць час. Карцела.

## Студзень сцюдзёны

* Суткі, як ты замаўчала, ні да кога не гаворыш. Як гэта несправядліва!

* Хадзіў па хаце і ўсе гэтыя дні і ночы імкнуўся не скрыпнуць, не грукнуць, каб не патрывожыць. А істота мая замірала, калі глядзеў на цябе ў надзеі, што ты, нарэшце, адкрыеш вочы. І так пяць сутак… Не, не пачула, не прачнулася болей.

* А можа, і чула, а можа, і хацела прачнуцца. І не магла, не мела сіл.

* Якія фізічныя і фізіялагічныя працэсы ў арганізме павінны адбыцца, каб праз тры дні маўчання і нерухомасці на шчацэ з'явілася сляза: шкадаванне, любоў, развітанне…

* Сышоў снег. Ты магла б ужо памалу мераць свой дворык, цяпер такі пусты і няўцешны.

* Ужо не малады. Усё раблю сам і па сабе. Калісьці ўсё расказваў табе. А цяпер, як цябе няма, жыву і аглядваюся. Як вінаваты. Як дзіця.

* Я прысвяціў табе паэму. Пасля ўсяго. І, як заўсёды, запазніўся. На цэлае жыццё. Тваё.

# Старадворская ноч

Сонца апускалася на зямлю імкліва, не зважаючы на тое, што дзецям трэба было яшчэ нарыхтаваць на цэлую ноч дроў для кастра, завідна паставіць палаткі, падаслаўшы пад ніз яловых галінак, зварыць вячэру. У выніку – кожнаму сваё заданне: хто пайшоў па ваду ў вёску, хто здабываць бульбу на саўгасным полі, хто да Анфісы Паўлаўны запрасіць на вечарыну. А зусім побач ужо ў паўзмроку таямніча і загадкава для дзіцячых душ узвышаўся высокі крыж на магіле Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Да юбілею з дня народзінаў слыннай дачкі Беларусі ў Старым Двары было створана надмагілле, куды цяпер не сорамна запрасіць самых вядомых гасцей.

І вось мы тут. Колькі падобных паходаў спазналі дзеці і настаўнікі Дудкоўскай базавай школы. Начавалі па некалькі разоў на азёрах і рэках Воранаўшчыны, Лідчыны, Наднёманшчыны, свой раён абхадзілі ўздоўж і ўпоперак, спускаліся на плытах па Нёмане. Звычайна ішлі ў паход адразу ж пасля навучальнага года, як пачыналася лета. І амаль заўсёды прырода наладжвала юным краязнаўцам іспыты: выскокваў замарозак. Так здарылася і ў Грамках. Меншыя дзяўчынкі ўжо пад ранак не вытрымалі прыазёрнай стыні, пабеглі дагледжваць сны ў будынак былой Прудзянскай школы больш чым за кіламетр. Але ж мы жылі скаўтамі. “Вось бы нам

спальнікі, як у Ніны з “Каўказскай палонніцы”, – не аднойчы марылі дзеці. І нас пачулі. Кіраўнік раёна Сяргей Іосіфавіч Ушкевіч у знак прызнання нашых турыстычных заслуг знайшоў спосаб падараваць школе спальныя мяхі на цэлы атрад. Праўда, справа з афармленнем дакументаў зацягнулася, і ў свой чарговы паход мы выправіліся восенню, калі кароткі дзень і доўгія прахалодныя ночы. Але спальнікі ж карцела выпрабаваць. Пакуль да іх дайшла чарга, запаліліся зоркі на небе. На нас крыху здзіўлена пазірала з цемры Алаіза. Павячэраўшы, мы чамусьці найперш ўспомнілі Маламажэйкаўскую царкву, ля якой таксама начавалі. І страх прайшоў. Там сямсот гадоў назад ішлі на тэўтонскіх рыцараў воіліцвіны, а тут з намі добрая, мудрая настаўніца Цётка са сваімі вершамі.

Зранку турысты наведалі касцёл Святога Пятра, што ў Старых Васілішках, - найпрыгажэйшы помнік неаготыкі. У Васілішках павіншавалі з юбілеем мясцовых вучняў – школе 50 гадоў. Вялікае ўражанне на дзіцячыя душы мела наведванне касцёла Іаана Хрысціцеля – помніка архітэктуры позняга барока, дзе не толькі зблізку пабачылі арган, а і пагутарылі з арганістам, паслухалі Баха.

І вось месца, дзе пачатак і прадаўжэнне жыцця Алаізы Пашкевіч. Яшчэ і поўнач не наступіла, а дзеці, наколькі змаглі, з настаўнікамі вывучылі зорнае неба, паслухалі вершы Анфісы Паўлаўны, прысвечаныя Цётцы. Хата былой настаўніцы-моваведа тут жа, праз дзясятак крокаў ад магілы паэтэсы, і жанчына найперш па сваёй сутнасці мясцовага літаратуразнаўцы заўсёды пры “сваёй” Цётцы. Ці то з Гародні едуць, ці са сталіцы, ці з Дудкоў ідуць.

На наш агеньчык з цемры выявіўся нязваны госць, крыху “вясёленькі”, крыху па-філасофску задуменны мясцовы малады чалавек чамусьці ў белай святочнай сарочцы без пінжака ці курткі, які, дарэчы, з намі і дачакаўся ранку. “Чуў, што ёсць такія Дудкі, але дзе яны – не ведаю. І каб так чыталі нашу Цётку – не чуў”, - хваліў ён расчу-

лена дзяцей. У стылай восеньскай цемры, пад акампанемент водблескаў кастравых агнёў вершы і апавяданні паэтэсы сапраўды гучалі неяк эпахальна і сімвалічна з вуснаў настаўніцы. Моцна верылася, што маленькі нязграбны, але добры Міхаська і сапраўды бегаў дзесьці вось тут. Тут і толькі тут жыў разумны і зычлівы жораў. Тут гаравалі, спадзяваліся, кахалі…

Вось ужо некаторым натомленым турыстам-хадакам і спальнікі спатрэбіліся. Хвіліна заціішша. Але ж як без начнога традыцыйнага феерверку! Поначы разлятаецца дзікаваты покліч, ва ўсе бакі разбягаюцца сапраўдныя папуасы з падпаленымі на канцы палкамі, каб выпісваць на адлегласці ў цемры разнастайныя фігуры. Доўгае фантастычнае відовішча. Пасля – прыглушаныя начныя песні. Пасля…

Ледзь пачало днець, заварушыліся палаткі, замільгалі доўгія таямнічыя цені. Пачуўся знаёмы Пецеў голас: ”Увага! Мы раскажам вам быліну-праўду пра сапраўднага настаўніка”. Так для чатырох педагогаў і купкі дзяцей пачалася тая кастрычніцкая нядзеля – Дзень настаўніка.

Асенняя ноч – не летняя. Ратавалі спальнікі, асабліва падраніцу. Шматгадовы вопыт дапамагаў трываць. І не пужацца, бо тут, непадалёку, па словах мясцовых хлопчыкаў, ёсць сапраўдны пераход звяроў з аднаго лесу ў другі. Толькі вочы бліскаюць воўчыя. Нездарма той-сёй, ледзь самкнуўшы вейкі, нават чуў, як страшна вылі зубасцікі. Але пра гэта ўсё яны напішуць у сваіх успамінах-сачыненнях на ўроках і раскажуць у творчых справаздачах. Такая ўжо завядзёнка ў школе. Краязнаўчы матэрыял будзе выкарыстаны на занятках і мерапрыемствах, як таго патрабуе статус этнашколы.

Да сапраўдных халадоў яшчэ адбудзецца экалагічны паход. Як тыя жуͅравы, няспешным радком пацягнуцца за настаўнікамі геаграфіі і біялогіі ўздоўж Скарбянкі дзеці са спальнікамі і рукзакамі за плячыма, каб вывучаць свой край, каб вучыцца любіць яго.

## Даўняя зелень

На самым пачатку дзевяностых мінулага стагоддзя, калі са школы зніклі ўсе дзіцячыя арганізацыі, мы вырашылі актыўна падключыцца да адраджэнскай працы, бо найперш спрыяў час і ўмовы ў краіне. Ужо працавала скаўцкая сябрына "Родны кут", адзіная ў раёне. Ды і ў Гродне, у Мінску іх было не багата. Там мы пераймалі вопыт: ездзілі на сустрэчы, вялі перапіску, абменьваліся планамі. Калі па хрысціянскай лініі мы паспявалі мала, то ўся астатняя тэорыя і практыка па развіцці самаўдасканалення, самакіравання знаходзілася на вышыні. Свая песня, гімн, скаўцкія касынкі, зборы, лес, шматдзённыя паходы. Непадалёку ад нас загінуў і пахаваны кіраўнік паўстанцкага атрада 1863 года Людвік Нарбут. Надумалі стварыць экспазіцыю ў памяць пра героя. Патрэбны грошы, матэрыялы. Праект тады толькі ўваходзіў як паняцце ў жыццё. І мы рашыліся. Распрацаваны па знойдзенай схеме матэрыял накіравалі ў Мінск на сорасаўскі разгляд. Адтуль патэлефанавалі, што Дудкоўская школа Шчучынскага раёна выйграла тры тысячы долараў. Аднак грошы атрымаць не паспелі, бо раптоўна фонд Сораса знік з краіны, і нам прапанавалі накіраваць праект у Гродна. Атрымалі тысячу долараў. А як імі распарадзіцца без парушэнняў фінансавай дысцыпліны– ніхто не ве-

дае, не было тады падобнай практыкі. На замежную валюту глядзелі, як на экзотыку. Загадчык аддзела адукацыі таксама нічога не мог параіць: ці на спецрахунак пералічыць грошы, ці ў банку абмяняць? Толькі дадаў у канцы размовы: ”Думаю, што за тысячу зялёных вас не купілі”. Валюту мы перавялі ў беларускія рублі. Купілі сучасную палатку, добры фотаапарат для працы над экспазіцыяй, спазналі працу ў архівах. З’ездзілі школай амаль за палову сумы ў старажытны Полацк. У дзяцей тая паездка засталася ў памяці на ўсё жыццё. Наведалі запланаваныя аб’екты ў Гродне, Брэсце. З грашовай справаздачай выйшлі на нуль.

Пасля былі іншыя праекты. Напрыклад, змянілі па навуцы і патрабаваннях сучаснага дызайна выгляд прышкольнага участка – і ён у раёне на працягу многіх гадоў быў лепшым, нязвыклыя разнастайныя туі, ядловец еўрапейскі, паркавая мэбля сапраўды выглядалі экзатычна. “Сапраўдныя Елісейскія палі”, – ухвальна прагучала аднойчы. Прыязджалі, пераймалі вопыт.

Цяпер праектам нікога не здзівіш. Каля трыццаці гадоў назад гэта была пэўная рызыка, таму пра нашы патрыятычныя справы пераважна маўчалі, чакаючы, чым усё скончыцца. Тым больш – пра замежную зелень. Пазней паралельна, як тое і патрабавалася, працавала ў нас і піянерская арганізацыя. Адны і тыя ж дзеці, бо іх было няшмат, павязвалі то скаўцкія касынкі, то піянерскія гальштукі, а то і тое, і другое адначасова, гледзячы, якое мерапрыемства ладзілася. Жылі весела, дружна, карысна для сябе і акругі, пакуль школу не зачынілі.

## Напярэдадні

Кажуць, што ні робіцца, то ўсё да лепшага. Напэўна, з гэтай метамарфозы і трэба зыходзіць, бо жыццё вокаімгненнае і, на жаль, незваротнае. Бываюць перыяды ў ім, калі прафесія, асноўны занятак ці проста хобі становяцца святлом у канцы тунэля і пачынаеш жыць толькі дзеля спасціжэння гэтага святла.

Апошні час – перыяд значных здзяйсненняў у жыцці нашай школы. Яна сцвердзілася як этнічная. Гэта значыць, што вучні душой і сэрцам захапіліся вывучэннем сваёй роднай спадчыны, дбаюць пра захаванне нацыянальных звычаяў і традыцый. У нас перабывала шмат гасцей. Гэта ўсё бадзёрыць і радуе. Акрамя таго…

Напрыканцы года трапіла ў рукі трылогія Васіля Якавенкі “Пакутны век”. Дачытваю апошнія старонкі і разумею: пры сваёй працавітасці, таленавітасці, духоўнай і фізічнай прыгажосці як далёка не ўсё мой вялікі народ атрымаў на працягу стагоддзяў ад Божае ласкі.

Жыццесцвярджальнасць, бясконцы аптымізм у гэтым свеце заўсёды нясуць у сабе рэкі. Як маленькія, так і накшталт Нёмана. Наш народ вельмі і вельмі напамінае рачную плынь. І хочацца стаць кропелькай яе, бо верыцца ёй моцна і заўсёды. Як і ў тое, што ў наступным годзе народзіцца шмат-шмат малюсенечкіх кропелек на нашай роднай зямлі, каб быць шчаслівымі ў сусветным акіяне.

## Пасярод лета

Наступіў цікавейшы перыяд у маім жыцці: няма чаго рабіць. Страшная безвыходнасць. Школа зачынілася амаль сама сабой. Я нават дапамагаў, пакуль што падсвядома. Спачатку не без мяне камісія з Гродна і Шчучына паламала тое, што спрыяла гэтулькі часу вучобе і выхаванню дзяцей. Тэлевізары, прынтары, магнітафоны, аказваецца, трэба было патрушчыць і знявечыць, каб навесці парадак напаследак. А калі дасталі каштоўныя металы, то пластмасу проста закапалі. Яшчэ праз час вывозілі мэблю – шафы, парты, крэслы – у суседнюю школу. Добра, што ўсяго не бачылі дзеці. Ахалі і охалі настаўнікі: ім прыйдзецца шукаць новае месца працы.

А найгорш, што няма чаго рабіць. Сёння мае штогадовыя планы нікому не патрэбны, бо няма з кім іх выконваць. Ад школы засталіся толькі сцены ды прабіркі пераатрушчаныя, чарапы-муляжы. Страшна нават казаць пра партрэт Максіма Багдановіча, з якога на мяне пазіралі праніклівыя цёмныя вочы паэта. Партрэт я падняў на стол. Цяпер, сярод ночы, ён дзесьці там, у пустой цёмнай школе, – трэба яго забраць да сябе.

Ростань наступіла раптоўна, падобнай практыкі ні ў кога не было – ні ў вучняў, ні ў настаўнікаў. А ў напружанай вячэрняй цішыні нечакана азываецца мышка.

Яна яшчэ не ведае, што і яе чакае вялікае перасяленне, бо не будзе мецць вучнёўскіх ласункаў, то і раніца стане непатрэбнай. Выбежыць праз адтуліну ў падмуроўцы на вуліцу, а ў небе тыя ж зоркі, як і дваццаць гадоў назад. І калі доўга глядзець на іх, то проста здагадаешся, што трэба жыць далей. Зоркі мігцяць, значыць, жывуць, як бы складана ні быў створаны Сусвет.

***

Хтосьці вельмі разумны здагадаўся павесіць аб’яву на маім мінулым – школьным будынку: “Прадаецца”.

# Андрэй

*Апавяданне*

Алена Мікалаеўна падыходзіла да Андрэевай хаты. І чым бліжэй набліжалася, тым страшней станавілася. Як там у сярэдзіне, што робіць ён? Святла ў вокнах яшчэ не відаць, на дварэ прыцемак. Рука ў кішэні нярвова перабірала пакецік з таблеткамі. Разумела, што трэба аддаць зранку, бо хвароба не чакае. А ўчора Андрэй ішоў не падобны на чалавека. Ён наогул ужо шмат гадоў напамінае пячорную асобу. Сустрэцца з ім уночы, не ведаючы яго, не пажадаеш нікому. Шапка-вушанка, большая на некалькі памераў, рабіла галаву празмерна вялікай, з-пад яе на чорным ад сажы твары блішчэлі вочы. Нейкія бяздонна-глыбокія і ад таго чужыя да вар'яцтва. На нагах узімку і летам боўталіся адрэзаныя крыху вышэй костачак гумовыя боты. Ніколі не мытыя порткі віселі то навыпуск, то па чарзе запускаліся ў халяўкі. Паходка заўсёды надавала выгляд п'янага чалавека, хоць ён ніколі не піў, рукі боўталіся супраць усялякай логікі. Заўсёды віадалася, што яны дапамагаюць чалавеку пра штосьці думаць.

Андрэя ведалі ўсе мясцовыя людзі. Ведалі яго мінулае і шкадавалі. Спачатку самі давалі хто сала кавалачак, хто яйкаў колькі, хто паношаную адежыну ахвяруе. Так ён перабіваўся шмат гадоў. Адзін, без сваякоў і сяброў. А апошнім часам, асабліва зімой, пакутнік сам

пачаў ісці да людзей і прасіць. Як цяпер. Зімка выдалася марозная ды яшчэ са сцюдзёнымі вятрамі. Яго хатку за ноч выдувала праз дзіравыя сцены так, што чалавек не знаходзіў сабе месца. Усё адзенне, што меў, накідваў на сябе.

І тады, дачакаўшыся раніцы, Андрэй, змерзлы і адчайны, ішоў па вёсцы, выбіраючы, да каго прыбіцца, у каго даўнавата быў. А сагрэўшыся, не хацеў выходзіць на мароз. Ён не любіў сваёй хаты ў гэты момант, нават баяўся. І калі яго пачыналі акуратна падштурхоўваць да парога, ён імкнуўся ухапіць гаспадара за руку і пацалаваць, каб толькі не гналі з цяпла. Яго гаворка без таго была мала каму зразумелай, а ў хвіліны адчаю каго раздражняла, каго жалобіла. І Андрэй яшчэ на колькі хвілін заставаўся ў цяпле, а найчасцей аказваўся на вуліцы…

Настаўніца збочыла са сваёй сцежкі, якой хадзіла штодзень у школу, і апынулася ў глыбокім снезе. Ступіла колькі крокаў у бок Андрэевай хаткі, спынілася, прыслухалася – усярэдзіне мёртвая цішыня. Навокал ранішні прыцемак, хоць хутка пачнуцца ўрокі. Ужо бразгаюць вёдрамі ледзяныя калодзежы. Ужо стала няёмка ад думкі, што хто ўбачыць яе пасярод гурбаў і ля гэтай хаты. Хто ведае, што яна нясе Андрэю таблеткі.

Некаторыя нават пасмейваліся над ёй апошнім часам, хоць разумелі, што робяць глупства. А Алена Мікалаеўна яшчэ з два гады назад сама працягнула рубля Андрэю, неяк сустрэўшы яго на вуліцы, потым зразумела, што той рубель саслужыў ёй не на добрае: ён сам не аднойчы падпільноўваў добрую настаўніцу на дарозе пасля ўрокаў і запытальна глядзеў у вочы, штосьці, моцна заікаючыся, гаварыў. Тады жанчына падавала яму бохан хлеба. Андрэй усміхаўся, раскрыўшы шырокі пусты рот. Так прадаўжалася вясну, а летам

прыйшлося даць зразумець, нарэшце, што пара і самому паклапаціцца пра сябе.

Наступіла восень, і Андрэй зноў падышоў да настаўніцы. Яго калаціла ці то ад холаду, ці то ад тэмпературы. ”Каб мне таблетак якіх, – усё, што яна разабрала з яго доўгай гаворкі. А сёння, задуменная і заклапочаная, жанчына не заўважыла, як ля яе апынуўся вялікі белы сабака, той самы, які суправаджаў яе штораніцы. Па сваіх жа слядах вярнулася на дарогу, далей ад бяды…

Андрэй ужо з паўгадзіны ляжаў скурчыўшыся на прыпечку, нагамі ў печ, галавой да акна. Але не паленая сёння зранку, печ не грэла. Дровы ўжо скончыліся, зіма ж толькі пачыналася. Ісці, каб штосьці раздабыць ля школы ці ў суседзяў, не хапала сілы. Апошнія два дні то кідала ў гарачыню, то ў холад. Андрэй, стаўшы на чацвярэнькі, пачаў вылазіць з печы. Свядомасць час ад часу пакідала яго, але памятаў, што трэба не зачапіць хрыбяцінай сажу. Чым болей думаў пра тое, тым спраўней згроб ватоўкай чорнае нутро печы. Чалавек, апіраючыся на калодку, што стаяла ля дзвярэй і на якой ён апошнім часам еў, як што меў, адпачываў, думаў, як прыходзіла што ў галаву, злез памалу на зямлю. Падлогі ў гэтай хаце ніколі не вялося. Яму моцна хацелася, каб хутчэй наступіла раніца. Тады прыйдзе настаўніца, прынясе, як заўсёды, таблетак ці яшчэ што. Андрэй сеў на зямлю, падкурчыў, як у дзяцінстве, ногі. Хата здавалася пустой і непатрэбнай, бо навокал белыя сцены і мароз. Захацелася легчы і ён адваліўся на спіну, ад таго на душы стала спакойна і ўтульна. Прыйшоў сон…

– Татка, татачка, а ў вядры, глянь, хто, – маленькі Андрэйка, ухапіўшы бацьку за мурзатую руку, цягнуў

яго да акна, дзе вісеў умывальнік і стаяла вядро з чыстай вадой. Хвілін колькі назад пасля гульняў на вуліцы хлопчыкі захацелі наталіць смагу і забеглі на кухню. Аж у вядры штосьці заплюскалася. Ускудлачаныя галоўкі схіліліся над вадой. Адтуль на іх глядзелі два вачаняткі-гузічкі. Мышка. Звярок застыў ад страху ці ў надзеі на выратаванне. Сусед Колька схапіў лыжку, што ляжала на стале, асцярожна ткнуў мышцы ў пыску. Тая юркнула ў ваду, але тут жа вынырнула зноў, як і раней, застыла на месцы. На парозе, урэшце, паказаўся бацька.

– Унь, глянь, глянь, хто, – хлопчыкі заходзіліся ад захаплення.

– О, папалася, колькі ж я за табой паляваў, – бацькаў твар свяціўся радасцю. – Бач якая! На хвосціку стаіць. Андрэйка прыгледзеўся і на сонцы ўбачыў, што мышка сапраўды стаіць на выпрамленым хвосціку. Бацька тым часам, схадзіўшы на падворак, прынёс у каструлі вады.

– Татка, татачка, а няхай мышка пажыве ў нас, – Андрэйка заглядваў у бацькавы вочы. Дарослы, аднак, лінуў з каструлі ў вядро, дзе змагаўся за жыццё звярок. Мышкіна галоўка знікла ў віры пузыркоў, потым вынырнула, але ўжо не затрымалася, як раней, на паверхні. Усё ж зноў паказалася праз імгненне. Яе вочкі спалохана шырэлі. І бегалі-бегалі, нібы шукалі яго, Андрэйку, і не маглі на ім затрымацца. Тады хлопчык міжволі працягнуў ручку да вады, але бацькавы пальцы дужыя, і з маленькіх грудзей ірванулася моцная крыўда:

– Тата, татачка, яна ж памрэ…

Хлопчык толькі пачуў рэзкі шчыпок на вялікім пальчыку рукі і паспеў заўважыць мокрую худую мышку, якая адарвалася ад яго кісці і паляцела кудысці на зямлю. На пальчыку паказалася кропелька крыві.

… Андрэй паспрабаваў расплюшчыць вочы на стук у дверы. Цераз парог пераступіла яна, настаўніца, і высокая-высокая жанчына. На ёй быў настолькі белы халат, што Андрэй на момант, здавалася, аслеп ад таго свячэння і злёгку закружылася галава. Аднекуль з цёмнага кута ледзь чутно прапішчала мышка. І чалавек усміхнуўся.

# Змест

**Вечаровае**